

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

26 СТУДЗЕНЯ 2001г. № 4/4088 КОШТ 115 РУБ.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Аформіць падпіску на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2001 года можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **600** рублёў, на тры — **1 800**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 560** рублёў, на тры — **4 680**.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Іван Пятровіч Шамякін з унукам Іванам.* *Фота М. ПРУПАСА*

***30 студзеня спаўняецца 80 гадоў народнаму пісьменніку Беларусі, слыннаму празаіку Івану ШАМЯКІНУ.***

*Матэрыялы, прысвечаныя юбіляру, чытайце на стар. 6—7, 9, 13, 14—15.*

АНОНС

# Шалом, кіно!

28 студзеня ў кінатэатры "Піянер" адбудзецца першы кінапаказ з праграмы "Панарама ізраільскага кіно 90-х". І ў новым тысячагоддзі асацыяцыя "Кінаклуб" працягвае знаёміць мінчукоў з лепшымі карцінамі свету. На гэты раз разам з пасольствам дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь, Міністэрствам культуры РБ рупліўцы "Кінаклуба" падрыхтавалі пяць самых цікавых ізраільскіх фільмаў 90-х гадоў.

Што мы ведаем пра ізраільскае кіно? Амаль нічога, але кінематограф Ізраіля мае сваю невялікую гісторыю. Прынамсі, фільмы 90-х называюць "новай хваляй" у ізраільскім кінамастацтве. Ад праблем жорсткага супрацьстаяння паміж яўрэямі ды арабамі, вайны, станаўлення дзяржавы ізраільскія кінематаграфісты ўрэшце звярнуліся да агульначалавечых каштоўнасцей — сям'я, каханне, шлюб. У аб'ектыў камеры трапілі вострыя сацыяльныя праблемы: наркотыкі, беднасць, фемінізм, гомасэксуалізм.

З 28 студзеня па 2 лютага аматары кіно змогуць убачыць фільмы-прызёры "Сябры Яны" (рэж. А. Каплун, 1998 г.), "Загадай карту" (рэж. Ж. Шлес, 1997 г.), "Апантаны любоўю з Нана-стрыт" (рэж. С. Габізон, 1995 г.), "Скрыжаванне "Вулкан" (рэж. Э. Рыкліс, 1999 г.), "Бязмежная радасць" (рэж. І. Бурсцін, 1996 г.).

Адзначу, што, акрамя Мінска, праграма "Панарама ізраільскага кіно 90-х" пройдзе таксама ў Магілёве, Віцебску, Брэсце, Гродне.

**В. Б.**

---

ны і штогадовымі прэміямі Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры і мастацтва. Радуе, што адным з лаўрэатаў стаў кампазітар Вячаслаў Кузняцоў, стваральнік цікавай музыкі ў розных жанрах, у тым ліку балета "Макбет".

Наогул, сярод беларускіх кампазітараў нямала сур'ёзных творцаў, чыя музыка ўзбагачае нашу культуру. Гэта С. Бельцюкоў, Г. Гарэлава, А. Залётнеў, У. Каральчук, А. Літвіноўскі, Я. Паплаўскі, А. Сонін. Гэта і такія сталыя майстры, як К. Цесакоў, Л. Шлег і, вядома, прафесар Д. Смольскі, і кандыдат на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі А. Хадоска... Можна дадаць яшчэ нямала прозвішчаў, а таксама прыгадаць нашых таленавітых песеннікаў, але больш важна зараз — назваць канкрэтныя праблемы, дзеля вырашэння якіх і збіраецца прадстаўнічая нарада дзеячаў культуры, інтэлігенцыі з удзелам прэзідэнта краіны.

Калегі абралі мяне старшынёй нашага творчага саюза. І я абавязаны прадстаўляць і абараняць іх інтарэсы, як гэта рабілі колішнія кіраўнікі Саюза кампазітараў Я. Цікоцкі, Р. Шырма, Ю. Семяняка. На жаль, важныя праблемы, вырашыць якія імкнуліся і мае папярэднікі, і я, ператварыліся ў застарэлыя і набалелыя.

Напрыклад, засталася праблема дзяржаўнага выдавецтва, якое выпускала б ноты і спецыяльную музычную літаратуру. Яно так і не створана! Засталася праблема аховы аўтарскіх правоў: насуперак закону цывілізаванай краіны, ні радыё, ні тэлебачанне не плацяць кампазітарам за выкарыстанне іх твораў у праграмах эфіру. Засталася праблема годных ганарараў (яна, дарэчы, датычыць і літаратараў, і мастакоў, і музыкантаў-выканаўцаў, і акцёраў). Не вырашаецца праблема будаўніцтва Дома творчасці кампазітараў у Астрашыцкім Гарадку.

Можна выказваць пажаданне і наконт дзяржаўнай дапамогі ў будаўніцтве жылля. Падкрэслю, што наш саюз аб'ядноўвае высокаадукаваных спецыялістаў, прафесійных кампазітараў і музыказнаўцаў, якіх не трэба блытаць з малапісьменнымі, але ўдачлівымі дзялкамі ад музыкі. Заробкі сур'ёзных творцаў, музыколагаў, музычных асветнікаў, крытыкаў і рэцэнзентаў не дазваляюць ім будаваць жыллё цалкам за ўласны кошт. Дзякуй прэзідэнту: з яго дапамогай некалькі нашых кампазітараў атрымалі кватэры. А што далей? Можа, трэба практыкаваць долевае будаўніцтва, даваць дзяржаўныя крэдыты?

Мастак не выбірае час, у якім жыве. Мы жывём і ствараем вось у такі, няпросты ва ўсіх адносінах, час. Але палітыка палітыкай, а мы павінны працаваць для нашых людзей, для народа. І дай Бог, каб нарада, якой мы чакаем, дала плён. Каб сур'ёзныя творцы, якія працуюць у акадэмічных жанрах, адчулі неабходную для іх падтрымку дзяржавы. Каб лягчэй было і жыць, і ствараць.

**Анатоль СЦЯПАНАЎ, прэзідэнт Беларускага саюза архітэктараў**

Задачы, якія вырашае Беларускі саюз архітэктараў, надзвычай разнастайныя.

Напрыклад, саюз натуральна зацікаўлены ў развіцці прафесійнага майстэрства праз конкурсы, выставы, семінары, вывучэнне вопыту. Арганізацыйна і структурна саюз гэту задачу можа выканаць, ёсць і вопыт правядзення такіх мерапрыемстваў, але пашырэнне працы залежыць ад фінансавых магчымасцей нашага аб'яднання. Фестывалі архітэктуры мы праводзім толькі другі год дзякуючы бюджэтным сродкам, выдзеленым праз Канфедэрацыю творчых саюзаў. Менавіта гэтыя фестывалі дазволілі насельніцтву ацаніць творчасць беларускіх архітэктараў, і для нас гэта надзвычай важна.

Наш саюз імкнецца пашыраць і міжнародныя кантакты. Архітэктура найбольш за іншыя віды мастацтва залежыць ад навукова-тэхнічнага прагрэсу, звязана з эканомікай і палітыкай дзяржавы. Да таго ж важна мець інфармацыйнае забеспячэнне архітэктараў сусветнымі дасягненнямі ў галіне архітэктуры і будаўніцтва. Лепш вучыцца на чужых памылках, чым на сваіх.

Перад саюзам архітэктараў стаіць задача развіваць прафесійную крытыку з аднаго боку, а з другога, паднімаць узровень архітэктурнай творчасці і культуры насельніцтва ўвогуле. Толькі тады мы не будзем абурацца, што будуюцца паўсюдна надзіва непрыгожыя катэджы і дамы, закінута добраўпарадкаванне вуліц і прыватных дзялянак, разбіты ліхтары і раскіданы клумбы і г. д.

Востра стаіць пытанне паляпшэння архітэктурна-горадабудаўнічага заканадаўства, нарматыўнай базы, ліцэнзавання. У вырашэнні гэтых пытанняў мы мусім больш шчыльна працаваць з Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва. Існуе і праблема абароны аўтарскіх правоў архітэктараў. На жаль, існуючы закон не ўлічвае спецыфікі архітэктурнай творчасці. Ідзе актыўнае "старэнне" саюза, апошнія гады да нас далучаецца яўна недастаткова таленавітай моладзі. Але ж пры ўсіх пералічаных праблемах мы вось ужо 66-ы год намагаемся дапамагчы развіццю і станенню беларускага дойлідства.

**Яўген САХУТА, доктар мастацтвазнаўства, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці**

Нацыянальна-культурнае адраджэнне, якое ўскалыхнула Беларусь на пачатку 90-х гадоў, доўгачаканае набыццё ёю ўласнай дзяржаўнасці, думалася, уздыме нацыянальную культуру на небывалую вышыню. Зрэшты, усё ішло да гэтага. Ажывілася даследчыцкая і папулярызатарская дзейнасць, уздымаліся з небыцця забытыя і занядбаныя старонкі нацыянальнай гісторыі, культуры, мастацтва, увачавідкі расла шырокая цікавасць да ўласных духоўных набыткаў. Усё, як і належыць цывілізаванай дзяржаве ў цэнтры Еўропы. Бо чым жа яшчэ можна засведчыць сваю адметнасць сярод іншых народаў? Трактарамі ці камп'ютэрамі? Яны ва ўсім свеце больш-менш аднолькавыя...

І што ж мы маем сёння? Як ні прыкра канстатаваць, але сучаснай нацыянальнай, **беларускай** культуры як цэласнай з'явы не існуе. Хіба толькі літаратура ды народная творчасць. Няма **беларускага** кіно, няма **беларускай** эстрады, няма **беларускага** тэлебачання, няма беларускай архітэктуры і яшчэ шмат чаго.

Бо няма нацыянальнай, **беларускай** ідэі...

Нядаўна ва ўсіх раёнах сталіцы прайшлі заключныя мерапрыемствы фестывалю мастацкай самадзейнасці "Сузор'е". Не буду тут даваць ім ацэнку, гэта патрабуе асобнай грунтоўнай размовы. Але не магу пазбыцца непрыемнага, гнятлівага ўражання, выкліканага адносінамі журы да ўсяго ўбачанага. Высакакласныя спецыялісты з тытуламі і званнямі прафесійна разбіралі выкананне індыйскіх танцаў ці разанскіх прыпевак, а пытанне "што ж мы прапагандуем?" наткнулася на глухую сцяну неразумення. І гэта ў сталіцы!

Да чаго гэты прыклад? А да таго, што многае залежыць і ад нас саміх. Можна (і трэба) вінаваціць дзяржаву за яе адносіны да творчай інтэлігенцыі, за яе нізкі сацыяльны статус і жабрацкае існаванне. Адсюль, маўляў, і нацыянальная культура такая. Але не-не ды і ўзнікае пытанне: а ці ўсё магчымае робіць інтэлігенцыя для культуры нават у цяперашніх умовах?

Здаецца, усе ведаюць неаспрэчную ісціну, якую, на жаль, трэба зноў і зноў паўтараць: як нельга ўзвесці будынак без падмурка, так не можа быць нацыянальнай культуры без апоры на адзіна магчымы падмурак — мову. Хто, як не інтэлігенцыя, павінен тут паказваць прыклад нацыянальнай свядомасці, годнасці сапраўднага інтэлігента? Хто вымушае народнага (!) артыста з тэатра імя Я. Коласа (!) пры ўручэнні яму высокай прэміі "забыцца" на тую мову, якую ён закліканы прапагандаваць са сцэны і нават зарплату за гэта атрымлівае, хай сабе і невялікую? Значыць, няма ні душэўнай патрэбы, ні элементарнай свядомасці сапраўднага інтэлігента. Нават традыцыйная народная творчасць, якой мы так ганарымся (і не без падстаў), у большасці выпадкаў карыстаецца моваю толькі на сцэне, бо такі прыклад падаюць "культурныя" кіраўнікі, якія вучыліся ў сталіцы і таксама лічацца інтэлігенцыяй, узорам для пераймання. Так і ўбіваецца ў свядомасць шырокай грамадскасці злачынны тэзіс пра другаснасць, непатрэбнасць нашай мовы. На сцэне, як з мясцовай экзотыкай, яшчэ можна мірыцца, па-за сцэнай — ні на што добрае не вартая. Адсюль — адпаведны ўзровень нацыянальнай свядомасці, адпаведны ўзровень нацыянальнай культуры, а ў выніку — і адпаведны ўзровень жыцця.

Варта згадаць вядомае выказванне класіка: чым змагацца за чысціню — лепш узяць венік і падмесці.

**Уладзімір БАСАЛЫГА, намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў**

Быў час, калі мастак наўпрост залежаў ад улады, калі мастацкая творчасць разглядалася ўладай выключна ў кантэксце дзяржаўнай ідэалогіі; калі палатно, скульптура, графічны аркуш былі найперш, а часцей — і выключна, сродкам прапаганды. Сёння мастак валодае, дзякуй Богу, пэўнай свабодай. Дзяржава, скажам так, пакінула мастака ў спакоі, але адначасова... пазбавіла сродкаў да існавання. Дзяржаўнага заказу ў той форме, як ён існаваў пры камуністах, няма, а цывілізаваны мастацкі рынак яшчэ не склаўся. Людзі з грашыма ўжо ёсць, але ім бракуе выхавання, эстэтычнага густу. Працуючы на такіх замоўцаў, мастак паступова губляе кваліфікацыю, разбэшчваецца. Так што, пазбавіўшыся ад аднаго ярма, мы трапілі ў другое. Я, шчыра кажучы, не ведаю, што горш — "сацрэалізм" альбо салон. Творцу і тады было цяжка, і зараз.

Мастацтва — здабытак нацыі. Але каб сцвердзіць гэты тэзіс у жыцці, трэба пэўныя ўмовы. Трэба будаваць тэатры, музеі, выставачныя залы. Але найперш — ствараць умовы, каб творца мог працаваць для свайго народа, сваёй краіны. А што ж мы маем? Знішчыць мастака лёгка. Дастаткова пазбавіць майстэрні. Звычайна нашы майстэрні — гэта гарышчы, падвалы і паўпадвалы. А плацім мы за іх як за палацы. Той, хто паставіў нам арэндную плату долар за квадратны метр, пэўна, лічыць, што мастак шмат зарабляе; зыходзіць, пэўна, з кошту твораў. Але ж трэба ўлічваць, што не кожны твор нават у вядомага (ці як цяпер кажуць, "раскручанага") мастака прадаецца. І калі той не часты ганарар раскінуць на час, калі мастак не атрымлівае ніякіх грошай, дык, дай Бог, каб атрымаўся сярэдні месячны заробак працаўніка бюджэтнай сферы. Да таго ж недзе 40% ганарару ідзе на пакрыццё непазбежных затрат. Гэта кошт палатна і фарбаў, каменя, бронзавага ліцця і гэтак далей. Вось і пакідаюць людзі прафесію. Альбо пакідаюць краіну. Моладзь, не маючы майстэрняў і магчымасці прадаць творы, з'язджае за мяжу. А потым крычым: Шагал наш! Малевіч наш! Потым па каліву збіраем, тое, што згубілі.

Зрэшты, праблем шмат. І вырашаюцца яны толькі на дзяржаўным узроўні.

---

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Пісьменнікі — дзецям

Абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў і абласная універсальная бібліятэка пачалі на Гомельшчыне творчую акцыю пад назвай "Пісьменнікі — дзецям". Мэта яе — прапаганда беларускай літаратуры. Акцыя была распачата ў Светлагорскім раёне. Пісьменнікі Васіль Ткачоў, Ізяслаў Катляроў і Соф'я Шах сустрэліся з мясцовымі чытачамі — школьнікамі, настаўнікамі, бібліятэкарамі. Далейшы маршрут творчай акцыі — у іншыя раёны вобласці.

## Выстава анімалістаў

У мастацкім аддзеле абласнога краязнаўчага музея адкрылася выстава "Анімалістычны жанр у мастацтве". Палотны рускіх жывапісцаў XIX—XX стагоддзяў Н. Свярчкова, П. Сакалова, беларускага мастака Ю. Пэна прадставіў у гэтую экспазіцыю Віцебскі мастацкі музей. На выставе ёсць таксама работы з фарфору, фаянсу, вышыўка з калекцыі Гомельскага абласнога краязнаўчага музея.

## Традыцыі "Залатога рога"

Пяць год таму ў Рагачове нарадзілася ідэя ўрачыстага ўзнагароджання лепшых аўтараў творчых работ. Конкурс быў названы "Залаты рог", а пераможцы вызначаюцца па дзевяці намінацыях. Падведзены леташнія вынікі. Асноўны прыз уручаны за прадстаўленне "Дзяўчына маёй мары", якое ажыццявілі мастацкі кіраўнік Маладзёжнага тэатра "Мэтр" Валерый Кабернік і рэжысёр Павел Волкаў.

## Перамагла паляшучка

Каля пяці тысяч малюнкаў і вершаў былі дасланы дзецьмі на конкурс "Помні нас, Беларусь", які праводзіцца пры падтрымцы ўпраўлення па справах бежанцаў ААН. Удзельнічала ў конкурсе і вучаніца Ельскай сярэдняй школы N 2 Іра Якаўлева. Яна перамагла ў намінацыі "лепшы верш".

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## Было весела ўсім

Своеасаблівы капуснік пад назвай "На мяжы тысячагоддзяў" правялі сябры Рагачоўскага літаб'яднання "Натхненне". Мясцовыя літаратары сабраліся разам, каб паглядзець, чаго дамагліся яны, што чакае іх наперадзе. Трэба сказаць, у апошні час літаратурнае жыццё на Рагачоўшчыне значна актывізавалася. Выдадзены альманахі "Рагачоўскі розгалас" і "Залаты рог", вось-вось з'явіцца трэці. Пабачыў свет паэтычны зборнік "Маладыя галасы", дзе сабраны вершы навучэнцаў і выпускнікоў педвучылішча. Уласныя кніжкі выдалі Міхась Сліва, Васіль Дружкоў, Віктар Паўлаў, Уладзімір Немізанскі, Юры Арэстаў, Ніна Пінчук, Уладзімір Шпадарук і Віктар Купрыянчук. У горадзе створаны літаратурны музей. Мясцовыя аўтары часта сустракаюцца з чытачамі ў школах і вёсках, друкуюцца ў абласным і рэспубліканскім друку.

У тым, што талентаў тут багата, пераканаў і капуснік. Прайшоў ён нязмушана, па-хатняму. Паэты і празаікі жартавалі, чыталі сур'ёзныя творы, удзельнічалі ў конкурсах.

**Васіль БАРХАНАЎ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## За творчыя дасягненні

У другі раз у гэтым годзе ўручаліся заснаваныя рашэннем аблвыканкама прэміі за творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва. Вылучэнне работнікаў культуры прайшло па 9-ці намінацыях: "клубны работнік", "народны майстра", "бібліятэкар", "музейшчык", "выкладчык", "артыст", "мастак", "пісьменнік" і "журналіст" года. Прэміі лаўрэатам уручыў старшыня аблвыканкама Аляксандр Дубко. Ён падкрэсліў, што абласныя ўлады заўжды ставяцца з павагай да творцаў і будуць рабіць гэта і надалей. Як зазначыла загадчыца ўпраўлення культуры аблвыканкама Людміла Кадзевіч, уручэнне прэмій стане традыцыйным.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Аўтар кнігі — настаўнік

У серыі "Ведай свой край Беларусь" выйшла пятая кніга — "Іванск". Аўтар яе — настаўнік Іванскай сярэдняй школы Віктар Грыбко. "Вывучыць гісторыю гэтай зямлі, далучыць да яе мясцовых вучняў, навучыць паважаць і шанаваць свой край — зрабілася маёй галоўнай задачай", — піша ў прадмове да краязнаўчага нарыса аўтар.

У паходах і падарожжах разам са сваім настаўнікам моладзь зведала родную Чашніччыну. У выніку ў 95-ым у школе створаны гісторыка-краязнаўчы музей. У кнізе Грыбко шмат цікавых гістарычных звестак пра вёску.

## Раіса Грыбовіч — сярод сяброў

Вечарыны пад назвай "Сярод сяброў" — рэгулярныя ў Віцебскім літаратурным музеі.

— Ладзім мы іх дзеля таго, каб заўжды гучала ў нас жывое слова, — гаворыць загадчыца музея Святлана Казлова.

Нядаўна тут прайшла творчая сустрэча з актрысай коласаўскага тэатра Раісай Грыбовіч. Яе амплуа — характарная гераіня. У тэатры працуе 19 год. А зараз рыхтуецца да ўдзелу ў новым спектаклі паводле "Новай зямлі" Якуба Коласа. Урыўкі з яго былі ўзяты ў аснову літаратурна-музычнай кампазіцыі, прэзентаванай для сяброў і калег у літаратурным музеі.

**Святлана ГУК**

*МІНШЧЫНА...*

## Чытачоў не паменела

У Дзяржынскім раёне — 35 бібліятэк. Наведваюць іх 27 тысяч чытачоў. Агульны фонд цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы — амаль чатырыста тысяч выданняў. І фонд гэтых паступова павялічваецца. Сярод удзячных чытачоў — вучні, студэнты, пенсіянеры, рабочыя і служачыя.

**Тамара ШАЎЧЭНКА**



**ЧАСАПІС**

## *Выстава-падарунак*

**На адкрыццё гэтай выставы ў Светлагорскую карцінную галерэю "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава прыехалі з Мінска мастакі У. Зінкевіч, В. Славук, У. Вішнеўскі. Не было толькі аўтара 18-ці графічных твораў, якія і склалі чарговую экспазіцыю. Не было Міколы Селешчука: ён трагічна загінуў у Італіі яшчэ ў 1996 годзе. У афішы, што запрашала аматараў выяўленчага мастацтва, адзначалася: экспануюцца творы з асабістых калекцый сяброў Селешчука. Так, гэта была яго адна з нямногіх, на жаль, пасмяротных, выстаў, што надавала асабліва журботную ўсхваляванасць і пранікнёную шчырасць яе адкрыццю.**

**Камерны ансамбль "Менуэт" як нельга лепш адпавядаў такому настрою. Я міжволі прыгадваў словы мастацтвазнаўцы П. Васілеўскага: "Пройдзе час і неяк само сабою вызначыцца месца Міколы Селешчука ў гісторыі беларускага мастацтва, ягоная роля ў культурніцкім працэсе 70—90-х гадоў. Але заўжды застанецца загадка, таямніца ягоных вобразаў. Найперш з той прычыны, што дарослым, таксама як і дзецям, патрэбны казкі".**



**Даўно заўважана, што творы Міколы Селешчука глыбока аналітычныя, што ён надзвычай таленавіта ўзнаўляе іх з асобных рэчавых дэталяў, якія валодаюць не толькі зрокавай, але і псіхалагічнай дакладнасцю. Невыпадкова адным з самых вядомых беларускіх мастакоў другой паловы 20 стагоддзя назваў яго М. Баразна. Творы Міколы Селешчука (асабліва напісаныя алеем) патрабуюць не проста сузірання, а самага сапраўднага сааўтарства. Бо сваёй патаемнасцю і загадкавымі назвамі яны даюць вялікую прастору нашым уяўленням і асацыятыўным пачуццям.**

**Заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, ён быў узнагароджаны Кембрыджскім Інтэрнацыянальным Біяграфічным Цэнтрам, медалём "За дасягненні ў XX стагоддзі". Яго карціны вельмі хутка знайшлі сваё належнае месца ў многіх самых прэстыжных музеях і карцінных галерэях свету.**

**Што ж датычыцца светлагорскай выставы, то на ёй мы бачым графічныя творы ранняга перыяду. Тым больш цікава прасачыць за тым, як мацнеў, набіраўся сталай сілы магутны талент Міколы Селешчука. Нагадаем, што менавіта за графіку ён атрымаў у свой час каля дваццаці дыпломаў на ўсесаюзных, рэспубліканскіх і міжрэспубліканскіх конкурсах кніжнай графікі. Экспазіцыя ў нашай карціннай галерэі — яскравае сведчанне непаўторнага таленту Селешчука-графіка. Кожны з 18 твораў па-свойму высвечвае гэты талент. Вось аўталітаграфія "Горад". Мы бачым вышынны будынак, нібыта сатканы з мноства цёмных вокан, і імгненна спыненую плынь аўтамабіляў. Перад коламі аднаго з іх ляжыць збітая птушка. Як сімвал скончанага назаўжды палёту, у паветры трымціць птушынае пяро. Усё надзвычай напружана, трагічна. Гэта ж можна сказаць і пра аўтапартрэт з птушкамі, назва якога, дарэчы, мае філасофскае ўдакладненне: "Без дрэваў у алеях".**

**Мікола Селяшчук у пачатковы перыяд сваёй творчасці шмат падарожнічаў. Многія з прадстаўленых на выставе твораў сталі для яго своеасаблівымі графічнымі нататкамі. Гэта "Лодкі" (з серыі "Балтыка"), "Краны" (з серыі "Галінскі порт"), "Аліеса" (з балгарскіх уражанняў) і інш. Сапраўдным лірызмам прасякнута аўталітаграфія "Матылькі". Танцуючыя матылькі над люстранай паверхняй возера і бягучыя насустрач адзін аднаму юнак і дзяўчына... А колькі перакана́ўчага псіхалагізму ў творы "Рая ў касцёле"...**

**Многія ведаюць, што дыпломнай работай тады яшчэ ў Тэатральна-мастацкім інстытуце для Селешчука сталі ілюстрацыі да кнігі А. Якімовіча "Кастусь Каліноўскі". Мы бачым многія з іх на выставе. І яны (асабліва партрэт К. Каліноўскага) — увасабленне сталага таленавітага майстэрства.**

**У. Зінкевіч, В. Славук, У. Вішнеўскі — кожны па-свойму прыгадвалі свайго сябра. І паведамілі, што перадаюць гэтую выставу карціннай галерэі ў падарунак. Калі ўлічыць, што два графічныя творы Міколы Селешчука ў яе мастацкім фондзе былі, то цяпер светлагорцы маюць адну з самых грунтоўных экспазіцый слыннага мастака. Гэта падарунак не толькі нам, але і нашым нашчадкам.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*На здымку: старшыня Светлагорскага гарвыканкама Б. Пірштук уручае памятны падарунак У. Вішнеўскаму.*

*САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ*

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Асцеражней бы трохі, браточкі!

Даводзілася чуць: "Паэт Глебка? А якая пра яго можа быць сёння гаворка? Сёння — калі мы разгледзеліся, разабраліся і ўсё паставілі на свае месца? Што ад яго як ад паэта засталося? Нічога! Як і не было. Тыповы пустацвет сацыялістычнага рэалізму: ідэйна зашораны, сацыяльна заангажаваны, тэматычна зацыклены. Выкінуць, забыцца — і толькі!.."

Так ці прыблізна так ужо колькі гадоў кажуць-пішуць некаторыя прадстаўнікі новай, постсацыялістычнай, постсавецкай беларускай літаратуры. І не толькі пра Пятра Глебку, вядома, але і пра многіх іншых, каму было суджана жыць і працаваць цягам цэлых дзесяцігоддзяў у "Саюзе непарушным". Пры Сталіне, пры Хрушчове, пры Брэжневе...

Ну што ж, выкінуць дык выкінуць! Сапраўды, калі ў іх кнігах — адно гэна самае і нічога больш, дык чаго з імі валэндацца, чаго цырымоніцца? Нашто, каб непатрэбшчына займала месца на кніжных паліцах, а тым больш — каб забівала галовы школьніка? Нашто? Трэба выкінуць, канешне!

Значыць, з каго пачнём? З Глебкі? Ну давайце з Глебкі. Толькі... Дазвольце мне перад тым, як развітацца з яго кнігамі, яшчэ раз пагартаць іх. Зрэшты, кнігі з паліцы я здымаць не буду. Усядуся ў крэсла, прымружу вочы і буду гартаць старонкі яго паэзіі ў памяці. І пачну з самага даўняга — з таго, што 61 год назад дэкламаваў на ўроку, перад класам:

***За драўлянымі млынамі,***
***Дзе канчаюцца масты,***
***Шырачэзнымі лістамі***
***Ахінуліся кусты.***

***Ад крутых віроў глыбокіх***
***На пясчаны перакат***
***Прамяністая ад спёкі***
***Выгінаецца рака.***

Аж дзіўна: ні радка з таго далёкага даваеннага часу не забыў! Як мне, помню, падабаліся гэтыя цудоўныя паэтычныя малюнкі вясковага лета. Да чаго ж выразна і ярка апісана! А як хораша далей, у наступных строфах, перададзены настрой гарачай касавічнай пары!

Потым пайшлі — напорна, адзін за адным — вершы зусім іншыя: і па малюнку, і па тоне, і па настроі. Вершы аб вайне. Іх я вучыў на памяць ужо ў 1945—1947. Таксама па школьнай праграме, па падручніках.

***Ноч. Халодная зямлянка.***
***Перастрэлка. Цішыня.***
***Неба чыстае, як шклянка.***
***Тупат быстрага каня.***

Гэта яго знакамітая "Пасылка". Яшчэ больш мне спадабаліся тады яго "Партызаны". Радкі з іх я ўспамінаў праз усё жыццё, асабліва, калі апынаўся летнім надвячоркам дзе-небудзь на сітняговым беразе азярыны.

***Перад заходам сонца***
***Ёсць хвіліна тугі...***
***Аднастайна бясконца***
***Шалясцяць сітнягі.***

Але самае моцнае ўражанне з усіх ваенных твораў Глебкі зрабіў тады на мяне верш "Смерць салдата". Помню: калі прачытаў яго першы раз — стала ажно неяк вусцішна, страшнавата. І балюча. Але — не гнятліва, і не роспачна.

***На ратным полі паміраў салдат.***
***Ён мужна біўся да апошняй кулі,***
***Ужо сябры яго навек заснулі,***
***І поруч з імі злёг і ён у рад.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Над галавой цямнеў густы блакіт.***
***Дзень пагасаў, і сонца паміралa,***
***За край зямлі павольна адплывала,***
***Нібы плыло пад цень магільных пліт.***

***Але яго бяссмертнае святло***
***Паружавіла белыя аблокі,***
***Пазалаціла небакрай далёкі***
***І кожную пясчынку і сцябло.***

Якая высокая эпіка! Адзін з самых узорных класічных вершаў у беларускай літаратуры XX стагоддзя. Калі б я складаў нават зусім маленькую, усяго з дваццаці вершаў — прэстыжную, "візітковую" — анталогію беларускай паэзіі, я ўставіў бы ў яе і гэты. Пры ўсім незвычайна багатым выбары.

Гэта ўсё я дэкламую сабе вершы, якія былі ў праграмах па літаратуры як абавязковыя для завучвання (маўляў, што ж за дзіва, што помняцца). Але ў тыя падлеткавыя гады мне назаўсёды запалі ў душу і некаторыя "непраграмныя" вершы Глебкі, — з кнігі "Пад небам Бацькаўшчыны".

***Пад небам бацькаўшчыны пашай***
***Прайшла суровая вайна,***
***А над палеткамі, над пашай,***
***Над цёмнай пушчаю — вясна.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Як глеба прагне на прадвесні***
***Аддаць расткам апошні плён,***
***Так я адной-адзінай песні***
***Аддаць хацеў бы рэшту дзён.***

***Маўклівы, нават нелюдзімы,***
***Я склаў бы гэты любы спеў***
***У гонар дружбы і радзімы,***
***Ласкавых траў і чулых дрэў.***

Перапыняю дэкламаванне і задумваюся: адну-адзіную, апошнюю песню — у гонар "ласкавых траў і чулых дрэў"? Дзіўнае жаданне "сацыялістычнага рэаліста", ці не праўда?

Побач з гэтым вершам у кнізе стаяў блізкі па настроі і гучанні верш "Зварот" — пра вяртанне франтавікоў з вайны, на радзіму.

***Ну, вось, — і мы з табою дома!***
***За павароткай будзе сад,***
***А потым — хаты... Нам знаёма***
***Усё ад самых даўніх дат.***

***Тут вельмі борзда вечарэе,***
***Давай, зямляк, прыскорым крок.***
***Вядзі нас, добрая надзея,***
***У занядбаны наш куток!.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Крыху паспім, а заўтра рана***
***Я — за сякеру, ты за лом,***
***І ў добры час пачнем старанна***
***Ізноў узводзіць новы дом.***

***І стане зноў усё знаёма:***
***За павароткай будзе сад,***
***А потым — хаты... Знаеш, дома***
***Лягчэй гаруецца, салдат.***

Лягчэй гаруецца дома, лягчэй! І там, дзе былі, гора хапіла, і тут, у "нашым занядбаным кутку", яно з намі і пры нас. Але дома гаруецца лягчэй... Вось такая, значыць, ідэйная "зашоранасць і зацыкленасць" у паэта Пятра Глебкі.

А яшчэ ж — "Сны хлапчука": на рэдкасць чалавечны і праўдзівы для той пары верш (для "той" — г. зн. для сталінска-берыеўска-жданаўскай). Верш пра малога хлапчука, адарванага віхурай вайны ад дому, якога паэт сустрэў на прыфрантавым вакзале, пагаманіў з ім, прыласкаў — і той заснуў "дзіцячым моцным сном".

***Мінаюць леты, вёсны, зімы...***
***Шануй жа сны свае, дзіця:***
***Я сам стаміўся без радзімы***
***І ведаю цану жыцця.***

Прадэкламаваў я сабе гэтыя радкі — і штосьці мяне збянтэжыла: здаецца, я бачыў іх у іншай рэдакцыі? Дастаў кнігу выдання 60-х гадоў. Ну так! У кнізе зусім іншы — непараўнана горшы — варыянт! Проста нейкая недарэчнасць — замест цудоўнай паэзіі.

***Мінаюць зімы, вёсны, леты...***
***Шануй жа сны свае, дзіця:***
***Я сню таксама часта гэты***
***Малюнак мірнага жыцця.***

Нашто ён гэта зрабіў? Нашто так непапраўна сапсаваў выдатны верш? Учытаўшыся — зразумеў. Уся прычына ў радку: "Я сам стаміўся без радзімы". "Як гэта без радзімы? — прысыкнуў цэнзар. — Радзіма ў нас адна — СССР. І калі цябе лёс адарваў ад Беларусі — гэта не значыць: ад Радзімы..."

Вось і пішы, паэт, чалавечныя і праўдзівыя творы! Дык што мне рабіць, браточкі, з вершамі Глебкі? Вы прапануеце выкінуць і толькі. Выкінуць лёгка з бібліятэкі, з кнігарні, са школьнай праграмы. А з сэрца? Як выкінуць з сэрца, калі яны па-ранейшаму яго грэюць і сілкуюць жывою крывёй паэзіі — крывёю праўды, дабрыні, любові?

*ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

# Пяць капеек за шасцітомнік

Усё як у песні: "Душа болит и сердце плачет..." у работнікаў бібліятэк. Каб зразумець чаму, трэба прасачыць за выхадам дакументаў, якія "знішчылі" каштоўнасць нават самых каштоўных выданняў.

12 жніўня 1994 года Кабінет Міністраў і Нацыянальны банк РБ прынялі пастанову "Аб дэнамінацыі беларускага рубля". На падставе яе загадам Міністэрства статыстыкі і аналізу РБ ад 27.12.1994 г. праведзена пераацэнка кніжных фондаў бібліятэк. Гэта азначае, па сутнасці, што цана іх зменшылася ў 10 разоў.

31 снежня 1999 года Савет Міністраў РБ падпісаў пастанову N 2081 "О переоценке основных фондов, незавершенного строительства, неустановленного оборудования и жилищного фонда организаций по состоянию на 1 января 2000 года", якая прадугледжвала і пераацэнку кніжных фондаў бібліятэк. У мэтах выканання вышэйназванага дакумента загадам Мінстата РБ ад 20.01.2000 г. N 21 зацверджаны "Парадак правядзення пераацэнкі..." ("Рэспубліка", 9 лютага 2000 г.) з распрацаванай табліцай каэфіцыентаў. Сутнасць пераацэнкі ў тым, што кошт выданняў, якія лічыліся на балансе на 1 студзеня 1998 года трэба падзяліць на 1000 (дэнамінацыя на 1.01.2000 г.) і памножыць на каэфіцыент 10,0219. На маю думку, гэты каэфіцыент павінен быць павялічаны як мінімум да 100 або і 1000. Кошт выданняў, якія паступалі ў бібліятэку на працягу 1998—99 гадоў (па месяцах), трэба памнажаць на іншыя каэфіцыенты. Узнікла пытанне, а якім шляхам пераацаніць кожнае выданне асобна, бо пераацэнка сумарна ў бухгалтэрыі нічога не дае. Званкі, перапіска Міністэрства культуры з Міністэрствам статыстыкі ніякіх суцяшальных рэкамендацый не прынесла. Дарэчы, кандыдат эканамічных навук Наталля Кандакова ў артыкуле "Законотворчество", надрукаваным у часопісе "Главный бухгалтер" N 2, 2000 г. пісала, што ў Праекце парадку пераацэнкі асноўных фондаў — бібліятэчныя фонды пераацэнцы не падлягаюць. На жаль, яе прапанова засталася на паперы.

Карацей кажучы, выконваючы названы загад, вельмі каштоўныя выданні, якія маюць практычную, гістарычную каштоўнасць і якія ніколі не будуць перавыдавацца, зусім абясцэньваюцца: прыжыццёвыя выданні класікаў беларускай літаратуры Я. Коласа, І. Мележа, У. Караткевіча, П. Броўкі, П. Панчанкі і інш. Вось некалькі прыкладаў: "Гісторыя беларускага мастацтва" ў 6 тамах 1987 года выдання. Кошт пяці яе тамоў з 50 руб. 60 кап. стаў каштаваць 5 капеек на новыя грошы. Адзінае гістарычнае акадэмічнае выданне "Гісторыя Беларускай ССР" у 5 тамах сёння каштуе 2 капейкі. Гэты спіс можна працягваць бясконца.

У нашай бібліятэцы, і лічу ў любой іншай, чытач "губляе", або знарок "прысвойвае" тую ці іншую яму патрэбную кніжку. Сёння яму, недобрасумленнаму, вельмі выгадна так рабіць, бо мы не маем права патрабаваць ад яго заплаціць за страчанае выданне ўдвая ці ўтрая больш, чым яно каштуе. Ды хоць бы і мелі такое права, дык і то вярнулі б у бібліятэку капейкі. Пераацэнка кожнай кнігі — праца марная. Паспрабуйце пераацаніць кожную з сямісот тысяч выданняў з фонду нашай бібліятэкі! Калі мы нават гэта зробім, дык і то кнігу не абаронім.

Такая доля многіх тысяч кніг. Як жа "душы не балець і сэрцу не плакаць"? Чаму ж Міністэрствам культуры кіруе Міністэрства статыстыкі? Няўжо ў нашай рэспубліцы няма людзей, якія, прымаючы загады, патрабуюць няўхільнага яго выканання, не зважаючы на сэнс, сутнасць, мэту.

**Тамара ГАЛАВЕЙ,**
**заг. аддзела камплектавання**
**Брэсцкай абласной бібліятэкі**
**імя М. Горкага**

# "Літаратуру 90-ых яшчэ не адкрылі..."

***Лявон Баршчэўскі выкладае беларускую літаратуру ў Нацыянальным дзяржаўным гуманітарным ліцэі, не аддзяляючы яе ад літаратуры сусветнай. Гамер, Эсхіл, Брэхт, Кафка і Мрожак арганічна дапаўняюць Купалу, Багдановіча, Гарэцкага і Быкава. І ў гэтай сусветнай еднасці і сугучнасці паэтычнай думкі, як у зладжаным хоры, пануе гаючая гармонія. І беларускі голас — не менш важкі і роўны сярод роўных. Як не хапае гэтай гармоніі ў будзённым жыцці! А як хочацца спяваць! Як у вершы Канапніцкай, перакладзеным Баршчэўскім:***

*Як спяваць, то ўжо спяваць*
*Пад нябёс блакітам —*
*Гучна, ўсёй каб грамадой,*
*Ды з чалом адкрытым...*


Фота А. МАЦЮША

**— Лявон Пятровіч, а вы спяваеце па раніцах?**

— Бывае, што й спяваю. Ад настрою залежыць. Калі ўсё ладзіцца, напрыклад. Тым больш, каля дзвюхсот беларускіх песень ведаю.

**— А настрой ствараеце сабе самі?**

— Імкнуся, прынамсі. Усе падставы для гэтага ёсць. У свае сорак з гакам, адчуваю сябе гадоў на дваццаць. І маральна, і фізічна. У футбол гуляю з задавальненнем...

**— Калі працягваць гаворку пра гэткі псіхафізічны стан беларуса — якое моцнае пачуццё пануе зараз у сярэднестатыстычнага насельніка дзяржавы нашай? Зайздрасць, любоў, страх?**

— На біялагічным узроўні — страх. Страх застацца галодным, страх згубіць працу. Таму мы такія маўклівыя і пахмурныя. Страх — заўсёдны складнік беларускага менталітэту. Астатнія пачуцці — у іншым вымярэнні. Як супрацьў пошасці, як сродак самаабароны і самазахавання — любоў і каханне, напрыклад.

**— Чаго вы баіцеся?**

— Згубіць сяброў. Я ўсё жыццё літаральна ажыццяўляюся ў іншых людзях. І дзякаваць Богу, гэтыя блізкія па духу і памкненнях людзі па-ранейшаму побач са мной.

**— У чым лекі ад страху?**

— У выхаванні сілы волі. Хто рана страціў бацьку, як я, мусілі самі шукаць сабе дарогу ў гэтым жыцці, шукаць сваё месца, прызнаэнне. А іншаму маці і да шасцідзесяці паесці гатуе... Сіла волі павінна праяўляцца ў светапоглядзе, у жыццёвай пазіцыі. За словамі абавязкова павінна ісці справа. Любыя недахопы магу дараваць чалавеку, апрача неабавязковасці.

**— Беларус — талерантны?**

— Беларуская талеранцыя — міф. Ён нават не ў нас нарадзіўся. Хто ў войску служыў, ведае: беларускіх салдатаў заўжды хвалілі людзі іншых нацыянальнасцяў. Маўляў, рахманыя, працавітыя, старанныя. А беларусы між тым вельмі схільныя да радыкалізму. Не ў думках, а менавіта ва ўчынках. Перасіліўшы страх, у рашучыя моманты жыцця беларусы не выбіраюць сярэдзіны — кідае іх заўжды ў крайнасці. І вельмі рэдка гэта прыносіць карысць. Кепска, што няма гэтай залатой сярэдзіны... Тым не менш радыкалізм бывае апраўданым. Прафесар Мікола Крукоўскі аднойчы тлумачыў, чаму пайшоў у партызаны: пабачыў, як фашыст б'е жанчыну на вуліцы.

**— Кажуць, сапраўдным беларусам на нашай зямлі можа адчуць сябе чалавек якой заўгодна нацыянальнасці — толькі не беларускай. У вас, здаецца, і руская кроў ёсць?**

— Я ў такім катле заварваўся, што самому іншым разам дзіўна. Прабабка па бацькавай лініі — эстонка. Прадзед па матчынай — бурат. Бацька — беларус, маці — руская. А наконт сапраўднай беларускасці... Не згодны, калі пытанне ставіцца глабальна. Хто, акрамя беларусаў, беларускае захавае? Так, страты Беларусь панесла вялізныя. Колькі расстраляных, запакутаваных, зняверыных. Але Германія ў XVII стагоддзі яшчэ ў горшым стане была. Згубіла да сямідзесяці працэнтаў нацыі. Але вытрывала і ўжо ў XVIII стагоддзі дала свету Гётэ, Шылера, Бетховена, Канта, Фіхтэ... Справа адраджэння для нас — справа найпершая. Але і па сёння, калі беларус выяўляе якасці беларуса, — гэта лічыцца ледзь не злачынствам.

**— Лявон Пятровіч, літаратура для вас — сродак самаабароны і самазахавання?**

— Не лічу сябе сапраўдным літаратарам. Я — лінгвіст, філолаг у шырокім сэнсе. Валоданне еўрапейскімі мовамі не дае імпэту пасягаць на пісьменніцкія лаўры... Але, бясспрэчна, літаратура, паэзія ратуюць душу. Якім бы рацыяналістам ні быў чалавек, а эмацыянальнае часам проста не можа не пераважаць... Сапраўдны літаратар той, хто ўлічвае і выкарыстоўвае ў сваёй творчасці прынцыпы антычнай эстэтыкі (ідэал прыгажосці), біблейскай этыкі (што добра, што кепска) і абапіраецца пры гэтым на нацыянальныя вытокі: міфы, паданні, песні... Дык вось, асноўны наш недахоп у тым, што мы не ведаем Біблії. Можна яе чытаць, перачытваць, але не разумець, не ўспрымаць душой. Штосьці падобнае адбываецца і са мной. Са студэнцкіх год меў гэтую кнігу на нямецкай мове, ведаў цудоўна змест. Але, узяўшыся за пераклад "Страчанага раю" Мільтана, пераканаўся, што не ідзе гэты пераклад, не спраўлюся я з ім, бо не ўсведамляю ідэй, закладзеных у Біблії, так, як усведамляю іх аўтар. У маладосці і праблемы такой для мяне не існавала. Толькі з цягам часу пераканаўся, што Біблію трэба душой чытаць, а не розумам.

**— Мабыць, шлях да выратавання розуму, душы — гэта шлях не столькі да разумення Біблії, колькі шлях да царквы, да Бога?! Мо менавіта гэтага нам зараз не хапае?**

— Я проста ўпэўнены, што чалавецтва няўхільна ўдасканальваецца, паляпшаецца. І сапраўдных хрысціян, якія жывуць па біблейскіх запаветах дабрыні ("не забі", "не скрадзі"...), цяпер значна больш, чым у тыя часы, калі царква дамінавала ва ўсім. Дый неадыгрывае яна ўжо той ролі, як, скажам, сто год таму. Хрысціянскай навуцы — светапогляду і маралі — можна навучыцца і не ходзячы ў царкву. Культура і літаратура — тая царква, той храм, якія прымушаюць чалавека застацца чалавекам. Калі ён можа свае ўчынкі суаднесці з сусветным эстэтычным вопытам, то ён здольны і на ацэнку самай складанай жыццёвай сітуацыі.

**— Вы — рамантык?**

— Я — класіцыст. Так выхоўваўся. Люблю ўсё, што робіцца па правілах. Сярод антычнай класікі для мяне на першым месцы Арыстафан, Сафокл, Лукрэцый; творы Сярэднявечча прываблівацюць правансальскай паэзіяй; эпоха Адраджэння — "Вопытамі" Мантэня (дарэчы, недаацэненымі на сёння)... Нейк перагортваў "Ціхі Дон" Шолахава і зразумеў, што гэтая кніжка, якая калісьці вельмі ўзрушыла, зараз для мяне проста нецікавая. Цудоўная мова, але па змесце і ідэі — усё гэта сацыяльны заказ, на ўзроўні няўхільнага выканання партыйнай рэзалюцыі. Сацкласіцызм нейкі!

**— Але ўсё гэта правамоцна і ў адносінах да рамана "Вязьмо" Зарэцкага, які выкладаецца зараз у адзінаццатым класе...**

— Згодны. Раннія творы Зарэцкага лепей. "Ракавыя жаронцы", напрыклад. Але вучэбная праграма ніколі не была догмай. Хоць неаспрэчна тое, што і яна — недасканалая (дзякаваць Богу, што хоць такая ёсць!), і тое, што пры выкладанні літаратуры на Беларусі вельмі кепска выкарыстоўваецца еўрапейскі вопыт.

**— Унікальнай установе — гуманітарнаму ліцэю, дзе вы працуеце, споўнілася днямі дзесяць год. І ўвесь гэты час вы выкладаеце беларускую літаратуру ў кантэксце сусветнай...**

— У нас нават дысцыпліны такой няма — "беларуская літаратура". Толькі "літаратура". І я задаволены, што ліцэісты нашы ганарацца тым, што яны — беларусы, роўныя сярод роўных. Яны разумеюць важнасць Адраджэння, вучацца быць асобамі. На вачах нараджаецца беларуская эліта.

**— Лявон Пятровіч, народ калі-небудзь падтрымае інтэлігенцыю?**

— Тую, якая штучна ствараецца ўладамі, — ніколі! Беларуская інтэлігенцыя (сапраўдная!) толькі нараджаецца. І нараджаецца менавіта знізу, з народа, а не па загадах зверху. І народ пойдзе не за гэтай новай інтэлігенцыяй, а разам з ёю. І так было заўжды.

**— "Асобныя літаратары выдаюць пачуццё ўласнай непаўнацэннасці за непаўнацэннасць грамадства" — цытата з нядаўняга "этапнага" артыкула аднаго з мінскіх пісьменнікаў, які сцвярджае, што сённяшняя апазіцыйнасць творцы — спосаб маскіроўкі ўласнай "бясплоднасці". Вашы каментары.**

— Сцвярджаць, што, скажам, Быкаў не апраўдаў нейкіх спадзяванняў — праява, мякка кажучы, савецкага светаўспрымання. Натуральна, хома савецікусу немагчыма разабрацца ў апошніх быкаўскіх прыпавесцях. Немагчыма, бо нявыгадна. Наша літаратура — як наша жыццё. Паглядзіце, якія пераацэнкі адбыліся ў свядомасці людзей за апошняе дзесяцігоддзе. Асэнсаваць гэтыя з'явы можна толькі з цягам часу.... Добрая літаратура, як і сто год таму, як і дваццаць, была, ёсць і будзе. Людзі яе проста не ведаюць. У кнігарнях цяпер можна знайсці ўсё. Ад "Сацыяльнай псіхалогіі" Шыбутані да любога бульварнага рускамоўнага рамана. Ніша для беларускай літаратуры стала вузейшай. І нічога тут страшнага няма! Літаратуру дзевяностых яшчэ проста не адкрылі! І ўрэшце згодны з Сямёнам Букчыным: пісаць трэба не для народа, а для чытача...

**— Мо справа ў адсутнасці прафесійнай і канструктыўнай крытыкі?**

— Крытыкі няма. Праблема такая існуе. Але я не згодны, што без крытыкі не можа быць літаратуры. Проста сённяшні час нарадзіў лепшых літаратараў. А крытыкі, можа, народзяцца крыху пазней...

**— Ваша стаўленне да палітыкі.**

— Ды ніколі б ёю не займаўся. Ужо казаў калісьці, што палітыку — ненавіджу. Але ж я не магу вось так проста ўзяць ды знесці прэч усё назапашанае за гады супрацоўніцтва з Народным Фронтам. Таму застаюся дарадцам старшыні БНФ.

**— Сапраўдная ўлада не існуе без сапраўднай апазіцыі... Чаму наша апазіцыя такая слабая?**

— А ці не была б яна пры іншым раскладзе слабейшай удвая?! Як і інтэлігенты, палітыкі з неба не падаюць. Яны ёсць — сапраўды прафесійныя нацыянальныя палітыкі. Але гаворка не пра адзінкі, а пра праслойку. І не толькі ў Мінску. А для стварэння яе проста не было часу. Справа ў адсутнасці традыцый, пераемнасці. Мы яшчэ толькі вучымся быць незалежнымі.

**— Расійская масавая культура хуценька нарадзіла сабе нацыянальнага героя. Даніла Багроў з фільма "Брат" "мочит" усіх ворагаў дзеля высакароднай ідэі сусветнай дабрыні... Беларусь застаецца без нацыянальнага героя?**

— Чаму?! А Каліноўскі! Проста на нашых тэлеэкранах часцей мільгае Пуцін. А серыялаў пра Каліноўскага ці дачакаемся?!

**— Нацыяналізм — сапраўды ідэалогія дабрыні?**

— Дарэчы, вось што піша на гэты конт швейцарскі даследчык Крыстоф фон Вэрт: "Нацыяналізм — выразна сучасны феномен, з дапамогай якога грамадствы з іх элітамі рэагуюць на хвалі мадэрнізацыі, якія іх дасягаюць... Эліты ствараюць альбо мабілізуюць традыцыйныя элементы сваёй нацыянальнай тоеснасці, культуры, будуючы пры гэтым грамадства супольнасці паразумення". Што ж у гэтым кепскага ды нядобрага? Прыемна, што навуковае замежжа ледзь не ўпершыню менавіта так ацэньвае наш нацыянальны рух.

**— Знакавыя фігуры вашай маладосці, асобы, якія паўплывалі на фарміраванне жыццёвых прынцыпаў...**

— Бацькі. Маці — руская, вельмі халерычная па натуры. Бацька — тыповы беларус, спакойны і ўраўнаважаны. Так што з дзяцінства зразумеў, што рускія і беларусы — вельмі розныя нацыі. У абдымках дзвюх культур і выхоўваўся. Потым захапіла замежная літаратура... Вялікі ўплыў аказалі выкладчыкі. Павел Ільіч Копанеў — рафінаваны інтэлігент, карэнны рускі, але цалкам падтрымаў беларускі дэмакратычны рух... Аляксандр Іванавіч Букаеў, Уладзімір Ігнатавіч Марцінеўскі, Раіса Андрэўна Дамброўская — выкладчыкі самых высокіх якасцей... І, натуральна, паўздзейнічала полацкае асяроддзе — Уладзімір Арлоў, Вінцэсь Мудроў, Навум Гальпяровіч...

**— Вы часта гаворыце дурню, што ён дурань?**

— Ніколі. З трэцяга класа, калі настаўніца зрабіла на дошцы памылку, а я, на сваю бяду, заўважыў. З таго часу і пачаў выхоўваць пачуццё далікатнасці. Дапамагалі працы Карнегі (тады яшчэ яны хадзілі па руках у ксеракопіях).

**— А шмат вакол людзей не вельмі разумных?**

— Я б сказаў, шмат тых, у каго неапраўдана завышаная самаацэнка. Трапляюцца і тыя, у якіх яна заніжаная. Але такіх — адзінкі.

**— У Расіі, як вядома, дзве бяды — дурні і дарогі. А на Беларусі?**

— Бяда адна: Чарнобыль! Наступствы катастрофы, і фізічныя, і псіхалагічныя, проста жахлівыя!.. А наконт усеагульнага страху я ўжо казаў на пачатку размовы. І не магу не ўзгадаць тут асветніцкі дэвіз: "Набірайся адвагі думаць!" Але недахоп гэтай адвагі — хутчэй належыць да філасофска-маральных катэгорый.

**— Ваш любімы літаратурны герой?**

— Яны мяняліся, як і ў кожнага. Спачатку быў Базараў. Зараз — лірычны герой прозы Вінцэся Мудрова — герой, які цудоўна ўсведамляе штучнасць беларуска-савецкага ўкладу жыцця. У Мудрова ёсць цудоўнае пачуццё глыбокага разумення таго, што мы мусім сёння пераадольваць. Не блукаць паміж штучных арыенціраў, а намацваць сапраўдныя.

**— Чаго не любіце?**

— Неапраўдана губляць свой час.

**— Што для вас крыецца за словам "свабода"?**

— Пастаянная і гарантаваная магчымасць выбару.

**Гутарыў Яўген РАГІН**

# Прызнанне

## ЛІСТ ЮБІЛЯРУ

Дарагі Іван Пятровіч!

Юбілеі трэба вітаць ужо адно за тое, што яны даюць магчымасць агучыць прызнанне ў любві — любві даўняй і ўдзячнай. І нават тое, што юбілей такі высокі і пашанотны — васьмідзесяцігоддзе Народнага пісьменніка Беларусі! — толькі дадае смеласці, і я прынародна, перад тысячамі Вашых чытачоў хачу сказаць: я нізка схіляю перад Вамі галаву і шчыра люблю Вас, Іван Пятровіч, — люблю ў кожным Вашым героі, за кожны Ваш мужны крок на доўгім, нялёгкім шляху воіна і грамадскага дзеяча, пісьменніка і кіраўніка пісьменніцкай арганізацыі, акадэміка і настаўніка для некалькіх пакаленняў прыхільнікаў роднага слова, роднага пісьменства.

Ненавязліва, закранаючы толькі самыя чыстыя струны нашых душаў, вучылі Вы нас дабрыні, светламу ўспрыманню жыцця, якім бы яно ні выдалася на тым ці іншым прамежку часу: час, век, які застаўся за рысаю другога тысячагоддзя, нікога не шкадаваў, ні з кім не нянькаўся, а трэба ж было не проста стаяць і выстаяць, трэба было ісці на святло новага часу, новага веку, нават калі гэта святло ледзьве прабівалася з-пад руін разбуранай вялікай дзяржавы, што была нам агульнай радзімай. І Вы ішлі. Нягледзячы на ўзрост і груз расчараванняў. Нягледзячы на вэрхал і мітусню, усчатыя вакол той справы, якой Вы служылі і служыце, не шкадуючы сэрца. Сэрца, заўсёды адкрытага людзям — усім людскім бедам і трывогам ("Трывожнае шчасце", "Вазьму твой боль", "Сэрца на далоні" — зусім не выпадковыя назвы твораў!), і толькі няўдзячнасць, уласцівая нам, смяротным, часам засланяла гэта ад нас.

Ды не, што я кажу! Не засланяла, а нібыта адсоўвала на колькі крокаў убок — да лепшых, як звычайна гаворыцца, часоў, калі ўласныя клопаты хоць трохі паслабяць свой гнёт, калі льга будзе вальней уздыхнуць... І далёка не адразу прыходзіла (а для многіх і дагэтуль не прыйшло) разуменне, што л е п ш ы я  часы — гэта дні, гады еднасці ў працы, у творчасці, у любві і павазе адно да аднаго, калі б і на чым бы хто ні спатыкнуўся. Вы, Іван Пятровіч, ведалі гэта з а ў с ё д ы (мо таму і з'яўляюцца сумныя ноткі ў апошніх Вашых творах, што мяняюцца не проста часавыя, палітычныя ці літаратурныя арыенціры — мяняюцца адносіны паміж людзьмі?), і Ваша веданне, Вашу перакананасць неслі нам героі Вашых твораў. І самых першых, і самых нядаўніх...

Мне заўсёды здавалася, што пісьменнік не толькі дае жыццё героям сваіх твораў, не толькі пражывае дзесяткі, сотні жыццяў, апісаных на іх старонках, але і нясе пажыццёвую адказнасць за лёсы, пражытыя, а то і не пражытыя імі да канца. І Вы шчаслівы, Іван Пятровіч, таму што ніводнага са сваіх герояў ніколі не пакідалі ў беспрасветнай цемры адчаю ці перадсмяротнага жаху: нават перажываючы трагічныя павароты лёсу, нават твар у твар са злоснікам ці сапраўдным мярзотнікам, нават перад пагрозай немінучае смерці не страчвалі яны чалавечнасці, не паддаваліся адчаю, імкнучыся, часта на мяжы магчымага, зрабіць хоць бы яшчэ адзін крок да святла, а потым і яшчэ адзін, і яшчэ... Веру ў сябе, веру ў народ свой, адданасць радзіме і справе сваёй, якой Вы служылі і служыце дзеля славы зямлі роднае, перадавалі Вы ім — а значыць, і нам. І гэта так многа, што ніякія ўзнагароды, нічые ўхвалы і ўслаўленні нічога не дададуць.

За тыя трыццаць гадоў, што сама працую ў літаратуры, я не ведаю, не помню выпадку, калі б Вы адмовілі каму-небудзь у дапамозе, калі б непаважліва ці, тым больш, злосна выступілі супраць таго, хто "пнуўся" выступіць Вашым "крытыкам" ці "абвінаваўцам". Толькі любоў, толькі павага — нават да значна маладзейшага, толькі гатоўнасць дапамагчы там, дзе магчыма, жылі і жывуць у Вашым сэрцы. І няхай неадройны пакарыстаўся сёйтой з амбіцыйных Вашых калег і гэтай любоўю, і гэтай павагаю, і гэтай гатоўнасцю дапамагчы, не менела ў Вас ні любві, ні гатоўнасці... Вы нібыта і не заўважалі — ды і не заўважалі! — няўдзячнасці з іх боку, радуючыся кожнай сустрэчы з калегамі, сябрамі і "недругамі", і гэта так па-шамякінску!

Упэўнена, што калі б кожны з тых, каму Вы так або інакшай, словам ці справай, дапамагалі ў свой час, "абіваючы", калі трэба было, парогі самых высокіх кабінетаў, прынёс і паклаў да ног Вашых хоць адзіную кветку сваёй удзячнасці, Вы патанулі б у кветках. І калі гэтага не здарыцца, то толькі таму, што сяму-таму штосьці перашкодзіць: аднаму — неразуменне, другому — залішняя пыха, трэцяму — палітычная заангажаванасць, чацвёртаму... Хоць што пра іх гаварыць! Вашы чытачы былі і засталіся з Вамі, а не з імі. Вашы чытачы — і праз мяне, праз мой голас таксама! — прызнаюцца Вам у любві і, як колісь так і цяпер, смуткуючы ці радуючыся разам з Вашымі героямі, і ў гэты дзень — з Вамі, Іван Пятровіч!



*І. Шамякін, А. Вярцінскі, С. Міхалкоў, 1981 г.*

Не кожнаму з літаратараў пашчасціла, як пашчасціла мне, свой творчы шлях прайсці побач з Вамі: літаральна з самых першых крокаў, з першых публікацый, якія Вы ў свой час благаславілі, да гэтых дзён, калі я — з Вашага ж благаслаўлення і з Вашай падтрымкай! — узначальваю часопіс "Всемирная литература", адчувала і адчуваю Вашу спагаду, Ваш давер, Вашу дапамогу, і, паверце, ніколі не пакідала майго сэрца глыбокая ўдзячнасць. Ведаю, Вы ніводнага разу не ўсумніліся ні ў маёй шчырасці, ні ў маім імкненні да служэння нашаму народу — і гэта, прызнаюся, заўсёды дапамагала мне выстойваць там, дзе "ламаліся" і дужэйшыя. Дзякуй Вам, Іван Пятровіч!

Некалі, на пачатку майго творчага шляху, Вы пажадалі мне, як і ўсім каралішчавіцкім семінарыстам, мужнасці — і мужнасць спатрэбілася (ды і яшчэ, па ўсім відаць, спатрэбіцца) нам неадройчы. Вам жа яна была ўласціва заўжды — і ў маленстве, і ў гады вайны, і ў дні чарнобыльскай катастрофы, і ў дні краху вялікай краіны, дзецьмі якой усе мы былі. Не ламалі і не зламалі Вас ліхалецці і навалы, няхай жа не зломяць, не змусяць змоўкнуць, адклаўшы пяро, і выпрабаванні паважнага ўзросту. Здароўя Вам, натхнення і моцы зрабіць усё, што жадаеце! Новых кніг Вам і новых прыхільнікаў!

Прыміце мой нізкі паклон — паклон любві і павагі.

**Таіса БОНДАР,**
**галоўны рэдактар часопіса "Всемирная литература",**
**старшыня Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Паслы славянства"**

седняя, Макаёнкава, сяліба. Яшчэ не прайшло года, як драматург раптоўна памёр, а ўжо адчуваецца адсутнасць гаспадара: двор запушчаны, дзе-нідзе выбіўся бур'ян. Між тым, гэтая апусцелая дача мяне прывабіла па іншай прычыне: дзесьці Іван Шамякін абмовіўся, што галоўнаму герою рамана "Атланты і карыятыды", няхломнаму барацьбіту за праўду Максіму Карначу надаў некаторыя рысы характару свайго даўняга сябра і многія сцэны ў творы як быццам бы адбываліся вунь там, за драўлянай агароджай. Мастацкія кнігі заўсёды больш жыццёвыя, калі домысел у іх спалучаецца з канкрэтнымі рэаліямі, праўда, у чужым двары пад садовымі прысадамі паразважаць далей аб вартасцях літаратуры мне перашкодзіў гул аўтамабіля: гэта з сям'ёй прыехаў на рэпарцёрскія пакуты сам Іван Пятровіч.

Так блізка, твар у твар, славутага пісьменніка раней я не бачыў, хоць аднойчы сустракаў у Каралішчавічах на творчым семінары маладых. Ля брамкі мы пазнаёміліся, і ўслед за гаспадаром я патэпаў у хату, потым па стромай лесвіцы палез кудысьці на верхатуру, пэўна, на мансарду, дзе празаік у зацішку абсталяваў сабе ўтульны рабочы кабінет. Пакуль ён чытаў з лістка пытанні, на якія трэба было адказаць, я пачаў рыхтаваць да ўжытку свой нягеглы, наравісты дыктафон. Жах, які жах! Апарат зноў пішчыць, патрэсквае, але шпулі з плёнкай не круціць. Шаноўны Сямён Львовіч усё ж быў выдатным перакладчыкам і неважнецкім майстрам па рамонце дыктафонаў. Іван Пятровіч зглядзеў маю збянтэжанасць, узяўся актыўна падсабляць, аднак хвалёны апарат па-шкодніцку маўчаў. "Не бядуй вельмі, — супакоіў пісьменнік. — На маім, японскім, запішам". Ён выцягнуў з нейкага закутка прыгожы, блакітнага колеру навенькі магнітафон, яшчэ нават у цэлафанавай упакоўцы, паставіў на стол і паспрабаваў запісаць на плёнку ўласны голас. Ды зноў дзіва: кнопкі шчоўкаюць, а заморскі цуд тэхнікі не працуе. Мабыць, перад тым, як карыстацца магнітафонам, трэба было прачытаць заводскую інструкцыю. У юнацкія гады я ўмеў заводзіць трактар "ДТ-54", тут жа быў бяссільны што-небудзь прыдумаць. Цяпер на мансардзе збянтэжаных і разгубленых стала двое.

— Здаецца, ты чагосьці хмурышся? — зусім не да месца спытаў гаспадар гасціннай дачы.

— Як жа не хмурыцца, Іван Пятровіч? Галоўны рэдактар заўтра мне будзе шыю намыльваць.

— Ну, пасядзі трошкі. Я спушчуся ўніз да Марыі Філатаўны.

Бывае, нават і добра, калі дружна, у адначассе псуюцца магнітафоны — і наш, айчынны, і той, прывезены з-за мора. Была рэальная пагроза, што я не ведаў бы Івана Шамякіна такім, якім ён ёсць у жыцці: чулым, абыходлівым, умелым апавядальнікам. Перад мікрафонам людзі звычайна губляюцца і выдаюць "на-гара" пустыя, казённыя фразы. Можна лічыць: мне здорава пашанцавала. Шаноўны Іван Пятровіч многа цікавага расказаў пра сваё юнацтва і франтавыя шляхі-дарогі, са смуткам гаварыў пра заўчасную смерць Андрэя Макаёнка і асабістую дружбу з ім. Мне прыемна было нават усведамляць, што іменна на гэтым гарышчы, дзе я сяджу, напісаны многія старонкі шырокавядомых кніг, у тым ліку рамана "Вазьму твой боль". Для мяне гэты твор асабліва дарагі, бо мастацкі фільм па ім рэжысёр Міхаіл Пташук здымаў у сваёй роднай вёсцы Федзюкі, на ляхавіцкай зямлі, дзе я калісьці пачынаў журналісцкую працу ў раённай газеце.



*Юбілей, 1981 г.*

На жаль, усе захапляючыя размовы калі-небудзь заканчваюцца, і па той жа крутой лесвіцы я спусціўся ўніз, выйшаў з чароўнай і дзівоснай казкі, створанай вялікім, чалавечным талентам Івана Шамякіна. Гаспадар правёў да веснічак, і, пакуль на аўтобусным прыпынку збоку дачнага пасёлка я чакаў транспарту, нейкае нябачнае слаавое поле не адпускала, яшчэ доўга трымала ў сваёй абладзе. Паблізу скрозь зелянелі кашлатыя хвоі, на далягляддзе браліся прозалацці традыцыйныя беларускія бярозкі і, здавалася, само стылае вераснёўскае паветра наскрозь прапахла гаючым рыжскім бальзамам.

Інтэрв'ю з Іванам Пятровічам па рамане "Петраград — Брэст" усё ж было напісана і, ухваленае самім пісьменнікам, пад назвай "Ад першага ленінскага дэкрэта" было надрукавана ў першым нумары часопіса "Беларусь" за 1984 год. Як жартуюць газетчыкі, трэба слухаць "не брухам, а вухам", і тады ніякія, нават японскія, магнітафоны не спатрэбяцца. Пасля тае знакамітай сустрэчы шаноўны Іван Шамякін напісаў раманы "Зеніт", "Злая зорка", "Чорная княгіня" і мноства іншых выдатных твораў, але даўняя паездка ў Ждановічы, зараз больш вядомая як "Поле дзівосаў", надоўга засталася ў памяці, не забываецца і сёння.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**



*А. Кудравец, В. Карамазаў, І. Шамякін, В. Адамчык, 1989 г.*

*Фота Ул. КРУКА*

## “Вечны горад...

Ці не ў кожнага ёсць свой горад. Часам у сапраўднасці ён не існуе, але, дзякуючы фантазіі, паўстае сваімі рэальнымі абрысамі. У адных гэтае імкненне сягнуць у яго жыве ў гады юнацтва, калі так хораша марыцца і гэтак настойліва хочацца чагосьці новага. Іншыя пра свой горад марацъ тады, калі за плячыма




адчувальны груз пеpажытага і вельмі хочацца акунуцца туды, дзе можна пазбавіцца ад усяго будзённага, празаічнага, згубіцца ў салодкіх мроях і забыць пра расчараванні і здраду. Есць і такія, каму хацелася б адчуць сябе пасапраўднаму шчаслівым, нанава пражыўшы жыццё і пачаўшы яго, як кажуць, з нуля, у гэтым самым горадзе нязбытнай мары.

А ў паэтаў — свой горад. Есць ён і ў Андрэя Аляксандрава. І па-свойму адметны, пра што можна даведацца з верша “Вечны горад чырвонага сонца”:

*Вечны Горад Чырвонага Сонца*
*Я малюю на цёплым асфальце,*
*Вечны Горад Чырвонага Сонца*
*Лашчыць жоўтым пяском*
*мне пальцы.*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Я забуду здрады й падманы,*
*Мора Шчасця я вып'ю да донца.*
*Я знайду яго позна ці рана —*
*Вечны Горад Чырвонага Сонца.*

“Вечны горад чырвонага сонца” А. Аляксандраў назваў і сваю першую кнігу, што стала кастрычніцкім зборнікам “Бібліятэкі часопіса “Маладосць” за мінулы год. Дагэтуль малады паэт выступаў як з паэтычнымі, так і празаічнымі творамі ў часопісах “Маладосць”, “Першацвет”, “Крыніца”, “Ave Maria”, у “ЛіМе”, газетах “Наша слова”, “Чырвоная змена”, “Наша Ніва”. А нарадзіўся А. Аляксандраў у 1978 годзе ў горадзе Ніжні Тагіл Свярдлоўскай вобласці (Расія) у сям'і вайскоўца. Праз шэсць гадоў з сям'ёй перабраўся ў горад Паставы, што на Віцебшчыне. Скончыў з залатым медалём сярэднюю школу і без уступных экзаменаў быў залічаны на гісторыка-філалагічны факультэт Полацкага дзяржаўнага універсітэта. Цяпер жыве ў Наваполацку, працуе карэспандэнтам мясцовай тэлекампаніі “Вектар”, з'яўляецца старшынёй Наваполацкай філіі Беларускай асацыяцыі журналістаў, а ў 1997 годзе выступіў сузаснавальнікам літаратурнага аб'яднання “Брама”. Не ведаю, якія прафесіянальныя задаткі ў А. Аляксандрава-журналіста, а што паэт ён цікавы — сумнення быць не можа. Каторы твор ні возьмеш, чытаецца лёгка, радкі хораша кладуцца ў душу. І гэта пры тым, што часам А. Аляксандраў не прамаўляе нешта новае. Аднак прывабливае сам настрой вершаў, запамінальныя паэтычныя малюнкі.

А яшчэ лірычны герой аўтара, які знаходзіцца толькі на пачатку свайго жыццёвага шляху і па сутнасці на ўвесь акаляючы свет глядзіць такімі даверлівымі і адкрытымі вачыма, быццам да яго ніхто іншы гэтага не рабіў. Адсюль — і шчырасць інтанацый, і не знарочыстая, а ад душы радасць жыцця. Радасць ва ўсім і яе не могуць засмуціць нават першыя расчараванні, бо верыцца ў лепшае.

У тым ліку і ў каханні:

*Не суцяшай мяне, бо я не плачу —*
*Слязьмі сваімі проста грэю шкло,*
*Дзе буду маляваць сваю Удачу*
*Нягодам і зайздроснікам назло.*

*Хай з'явіцца ў маёй пустой кватэры*
*Малюнак гэты сонечны, святы,*
*Дзе на замерзлым шкле, на мёртвым,*
*шэрым —*
*Адвечная Вясна,*
*і Я,*
*і Ты...*

Сімптаматычны завяршальны верш кнігі — “Пакіньце мне права застацца сабой”:

*Халодныя зоры гарачай рукой*
*Я крataю — крупелькі сонца.*
*Пакіньце мне права застацца сабой*
*І зоры сагрэць мне дазвольце.*

*Узняўшы свой ветразь*
*над шумнай ракой,*
*Забуду спакой і забавы.*
*Пакіньце мне права застацца сабой —*
*Маё неад'емнае права.*

Хочацца пажадаць А. Аляксандраву і надалей заставацца самім сабой. І, канечне, новых вершаў!

**Міхась ГЕНЬКА**

ВІНШУЕМ!

# Талент дабрыні

## Міхасю ПАЗНЯКОВУ — 50

*Поўдзень веку Міхася Пазнякова — важкія жыццёвыя і творчыя набыткі. Доўгі час ён працаваў галоўным рэдактарам выдавецтва “Юнацтва”, вельмі шмат зрабіўшы дзеля таго, каб выходзіла як мага больш цікавых кніг для дзяцей і юнацтва. Цяпер з'яўляецца галоўным рэдактарам часопіса “Вожык” і таксама ставіцца да сваіх абавязкаў так, што ўласным прыкладам паказвае, як і што трэба рабіць, каб выданне набывала папулярнасць у чытачоў. А сам упэўнена трымае пяро ў руках. Пры гэтым выступае ў розных жанрах, не цураючыся і сатырыка-гумарыстычных. Але найбольш важкія набыткі М. Пазнякова ў галіне дзіцячай літаратуры, у якой ён — адзін з найбольш прызнаных сучасных майстроў. Дзеткам даўно палюбіліся такія яго кнігі, як “Тры чарадзеі”, “Дзіўныя блізняты”, “Побач з татам”, “Ехаў поўны воз дзівос”... Прыйшлася даспадобы маленькім і нядаўняя — “Дарынка-весялінка”, у якой шмат досціпу, гумару, са старонак паўстае сам свет маленства, падгледжаны позіркам таленавітага аўтара. Важкія набыткі М. Пазнякова і ў галіне мовазнаўства. А ўвогуле — яго творы, кнігі таму і карыстаюцца такой вялікай папулярнасцю, што аўтар добра валодае словам, адчувае яго нюансы.*

*Віншуючы Міхася Паўлавіча з паўвекавым юбілеем, жадаем яму і надалей не растрацiць на жыццёвых і творчых дарогах усяго таго добрага, што дазваляе гаварыць пра яго, як пра самабытнага пісьменніка!*

Міхась ПАЗНЯКОЎ



### На аўтобусным прыпынку

***— Купіце яблычкаў вядзерца,***
***Зусім нядорага прашу —***
***На дзве ўсяго буханкі хлебца,***
***Ледзь прыцягнула на шашу...***

***За спрацаванаю бабуляй***
***Глядзіць умольна дзед сівы,***
***Свой поўны кошык падцягнула***
***І дзеўчанё гадкоў васьмі.***

***Ды іх ніхто не ашчасліўіў:***
***Хто ў вёску ехаў да бацькоў,***
***А хто й купіць вядро наліву***
***Не меў і лічаных рублёў.***

***Такая сумная карціна,***
***Як стрэмка, сэрца апякла.***
***Даўно бядотнаю, ніштымнай,***
***Напэўна, вёска не была...***

***Салодкі яблык гаркаватым***
***У садзе бацькавым мне быў.***
***Я ўспамінаў, як вінаваты,***
***Нікім не купленых наліў.***

***На тым аўтобусным прыпынку***
***З'явіцца зноў хацеў чамусь:***
***Не бабку, дзеда і дзяўчынку —***
***Я там пабачыў Беларусь...***

### Потым...

***Якое дзіва —***
***Ранкам пазалотным***
***З прыродай зліцца***
***У лясной глушы!***
***Ды толькі***
***Зразумееш гэта***
***Потым,***
***Як стане***
***Вельмі горка***
***На душы.***

***Якая асалода —***
***Сум спякотны***
***І дождж круты,***
***Абломны, бы з каўша!***
***Ды толькі***
***Зразумееш гэта***
***Потым,***
***Як сонцам***
***Перапоўніцца***
***Душа.***

### Сястры Ані

***Бачу я наша Заброддзе***
***На прасцірадле лугоў,***
***У сакавітай лагодзе***
***Ядрана-звонкіх садоў.***

***Бачу, як вузкай сцяжынай***
***З радасцю ў ясных вачах***
***Крочыць багіняй дзяўчына***
***У новы, нязведаны шлях.***

***Музыка ў сэрцы віруе,***
***Поўніць святлынню надзей.***
***Прага адкрыццяў чаруе,***
***Мара наперад вядзе.***

***Жыта пяе несціхана***
***Вуснамі матчыных дум:***
***— Анечка! Анечка, Аня!***
***Хай абміне цябе сум!***

***З Неба — крыніцы чысцюткай —***
***Татаў пагляд задрыжэў:***
***— Анечка! Аня, Анютка!***
***Хай цябе Бог беражэ!***

***Побач праносіцца каня***
***Голасам вечных трывог:***
***— Анечка! Анечка, Аня!***
***Светлых, шчаслівых дарог!***

***... Колькі гадоў прамільгнула***
***І прашумела дажджой!..***
***Гэткай жа ўзнёслай і юнай***
***Крочыш наперад ізноў.***

***Бедам насуперак, болю,***
***Што над табой праплылі,***
***Сэрца жыве дабратою,***
***Музыкай роднай зямлі.***

***Шчырая ўсюды дазвання,***
***Рупная ў вечнай сяўбе.***
***Анечка! Анечка, Аня!***
***Шчасця і шчасця табе!***

●

***Ён аб'явіў хлусліва, жорстка,***
***Нібыта я яго падвёў.***
***І крыважэрна, прагна, хвостка***
***Атаку подлую павёў.***

***Я запытаў: а як сумленне?***
***Дроў вельмі проста наламаць...***
***Ён толькі лыпнуў недаўменна,***
***Не здольны сутнасці спаймаць.***

***Я нагадаў яму пра Бога,***
***Але ў душы яго быў чорт,***
***І ён вышчэрваўся, нябога,***
***Дурны прад вечнасцю, як бот.***

***І я ў адказ яму ўсміхнуўся,***
***Маўляў, глядзі — твая бяда.***
***Ён нават і не зварухнуўся,***
***І стала мне яго шкада...***

●

***Хто сягоння дасць мудрае рады,***
***Дзе ён, подых жаданай вясны?***
***Моцна прагнуць высокай улады***
***Пустабрэхі, хлюсты, лізуны...***

***Дзе яно, ад жуды ратаванне?***
***Шлях, магчыма,***
***падкажа мне Храм?***
***Я да Бога пайшоў на спатканне,***
***А спрытнюгі ўжо хрысцяцца там...***

●

***Мары, справы,***
***Клопаты, турботы...***
***Далягляд змяняе***
***Новы далягляд.***
***Што там —***
***За чарговым паваротам?***
***Не абгоніш шлях,***
***Не вернешся назад...***



*Фота А. МАЦЮША*

Іван ШАМЯКІН

# ХАБАР

АПАВЯДАННЕ



ЗЯЦЬ МОЙ СЯРГЕЙ, дацэнт, расказаў універсітэцкі анекдот.

І я ўспомніў, што чуў гэтую гісторыю, можа, трыццаць пяць гадоў назад — калі засноўваўся Салігорск, выдалі першыя тоны калійкі. Тады гісторыя гэтая не здалася анекдотам; нам, хто перажыў вайну, пасляваенны голад, яна прагучала яшчэ адным сумным эпізодам, з якога можна было смяяцца хіба праз слёзы.

Аднак па парадку...

Сябра мой Аляксей Кулакоўскі, вёска якога Кулакі ўвайшла ў межы будучага горада шахцёраў, запрасіў мяне з'ездзіць паглядзець, што там разгортваецца. Паехалі. Брат яго Міхаіл працаваў настаўнікам у першай школе будучага горада. Натуральна, што ён папрасіў нас выступіць перад вучнямі і настаўнікамі. Мы не адмаўляліся, у маладосці мы любілі выступаць, асабліва ў школах, інстытутах. На другі дзень пасля выступлення да нас прыехалі са Старобіна, цэнтра раёна, з просьбай выступіць і ў іх.

Зальчык у школе быў маленькі — выступалі ў кіназале. І там — у дзве змены: спачатку перад старэйшымі вучнямі, пасля — перад іх бацькамі, ім таксама хацелася пабачыць жывых пісьменнікаў.

Настаўнікі наладзілі з нагоды такіх гасцей багатую вячэру.

Спачатку пілі кіслае віно, прамаўляючы доўгія тосты за партыю, савецкую ўладу, за літаратуру, якая вучыць жыць. Але за такія тосты хіба можна піць "малдаўскі квасок"? Непрыкметна з'явіліся на стале графіны з сіняватай вадкасцю. Славуты старобінскі "спатыкач". Казалі, што лепшага самагону не было ва ўсёй Беларусі, хіба суседзі, старадарожцы, навучыліся-такі гнаць. Загаманіла грамада, загудзела. Пайшлі жарты, вясёлыя гісторыі. Але сябра мой Аляксей быў чалавек практычны — пісьменнік сялянскі, заземлены, прастору фантазіі не даваў, як я, грэшны, чэрпаў сюжэты з расказаў землякоў. І ён папрасіў:

— Раскажыце вы нам што-небудзь з жыцця, што нам дало б матэрыял для апавяданняў, а можа, і для аповесцяў. Івану толькі дай факт, ён яго так раскруціць...

І тады ўсе павярнуліся да немаладой ужо настаўніцы, гадоў пад сорак. Невысокая ростам, са смуглявым тварам, выразнымі васількавымі вачамі, яна дагэтуль не падавала голасу, сядзела непрыкметна сярод калежанак сваіх; за сталом сядзелі па-азіяцку: мужчыны — з аднаго боку, жанчыны — з другога, толькі ў "прэзідыуме" побач з намі, дырэктарам і раённымі начальнікамі сядзела завуч школы, маладая і вельмі прыгожая. Аляксей пасля доўга ўспамінаў гэтую завучку; мы былі паэтамі, хоць пісалі прозу: жаночая прыгажосць нас зачароўвала.

— Няхай Пятроўна раскажа, як паступала ва універсітэт. Як дзед яе...

— Не забягайце наперад!

Вінюся, не запомніў яе імя, хоць яно, безумоўна, называлася, але што Пятроўна, дык я, Пятровіч, добра запомніў. А імя? Назаву ў сваім запозненым аповедзе яе Надзеяй, бо, здаецца мне, імя было з гэтай класічнай тройкі: Вера, Любоў, Надзея. Але мне заўсёды больш даспадобы было апошняе — Надзея. І за сапраўднасць іменаў іншых герояў не ручаюся. Але хіба імёны — галоўнае?

Настаўніца паклала відэлец, выцерла беленькай хусцінкай вусны, адпіла з гранёнай шклянкі глыткі два чаю, яна, можа, адна толькі чай і піла, іншыя яе калежанкі і "спатыкач" дэгуставалі і ажно прыцмоквалі: смаката!

— Калі Іван Пятровіч, Аляксей Міхалаевіч хочуць напісаць штосьці... Яны ж многа пра партызан напісалі, дык я пачну з вайны. Мая ж вёска вунь дзе — у Любанскіх балотах, а там партызанская зона... Сам Казлоў там стаяў...

Далей я павяду расказ ад яе імя, без аўтарскіх адступленняў, тлумачэнняў. Забыліся, безумоўна, не інтанацыі, дэталі, але аповед ад першай асобы — улюбёны прыём многіх аўтараў: ён больш лаканічны і ў той жа час глыбей уражвае.

— Бацьку майго Пятра Восіпавіча прызвалі ў армію ў першыя дні вайны. А позна ўвосень ён вярнуўся дадому. Уначы, тайком. Здань — не чалавек. Скура ды косці. Счарнелы, прастуджаны — кашляў страшэнна. У акружэнне ён трапіў ажно пад Бранскам недзе. Палону пазбегнуў. Фронт не перайшоў, каб прабіцца да сваіх. Па бранскіх і гомельскіх лясах, па палескіх балотах дабраўся дадому. Што ён пабачыў у адступленні і па дарозе па запалоненай зямлі — жах! У нас немцы яшчэ не лютавалі і паліцаяў не было, стараста — свой чалавек. І бацька нядоўга таіўся. У нас кароўка, Зорка наша, яшчэ даілася. І мама адпаіла яго малаком. Ачуняў бацька. Але тут з'явіліся нямецкія ўлады, паліцаі, мужчын пачалі перапісваць. І ў пачатку сорак другога бацька "пайшоў у заробкі ў Заходнюю" — для суседзяў, паліцаяў. А мне маці сказала, куды пайшоў бацька. Шкуматалі немцы і паліцаі маці і дзеда Восіпа: дзе Пятро? Калі ў партызанах — мала вам не будзе. Ды неяк абышлося без кары. Паверылі, што зарабляе недзе на хлеб — печы кладзе; дзед Восіп быў пячнік і сыноў навучыў рамяслу. Улетку сорак другога бацька двойчы наведаўся дадому. Першы раз у маі, уначы, употай, я і не пабачыла яго — спала, і мама мне не сказала, дзед па сакрэце расказаў, мы з дзедам сябравалі, адно аднаму ўсе тайны даверялі. А другі раз бацька з'явіўся ўдзень, на свята — на Спаса, на веласіпедзе, у добрым касцюме, з павязкай паліцэйскага на рукаве.

Дзеда Восіпа спалохаў.

"Ты што за брыдоту начапіў?"

"Для маскіроўкі, бацька. Каб вам спакайней жылося".

Матку перад тым выклікалі ў любанскую камендатуру, дапытваліся, дзе муж, куды знік.

"Хлеба паехаў зарабіць у Баранавічы".

Ездзілі мужыкі ў Заходнюю, батрачылі ў тых, хто добрыя надзелы зямлі меў, не паспелі іх раскулачыць за два няпоўныя гады — ад вызвалення да вайны.

"А цяпер кажыце, што я ў самаахове служу ў Клецку".

Бацька, гэта я добра запомніла, сказаў мне:

"Вернуцца нашы... жывы я буду ці не жывы... усё роўна, Надзька, паступай вучыцца, у Мінск едзь у інстытут. Ты ж добра вучылася".

Я дзесяцігодку скончыла да вайны, у тую ноч выпускны вечар быў...

Немцы дайшлі да Сталінграда, а бацька верыў, што нашы хутка вернуцца.

А потым знік наш бацька. Ніводнай вестачкі. За паўгода. Нехта сказаў, што любанскі атрад падаўся ажно ў Лельчыцы, дзе зімавала вялікая армія партызанская... Каўпака, цяпер мы ведаем. І пасярод зімы мама пайшла ў далёкую дарогу... І... не вярнулася. Дзе ляжаць яе косткі? — Надзея Пятроўна праглынула горкі камяк, але вочы не былі сухія.

— Давядзеш ты нас да слёз, — сказаў дырэктар.

— Ды не! Расказвайце, расказвайце, — папрасіў я; хацелася ведаць, чым жа скончыцца споведзь, чаму менавіта яе папрасілі расказаць, як яна паступала ва універсітэт, ёсць жа нейкі нечаканы фінал.

— Я сама баюся расплакацца, успамінаючы маці і бацьку. Я знайшла іх... Магілу бацькі ведаю. У дзесятую гадавіну Перамогі тут у нас, у райцэнтры, хавалі партызан у брацкую магілу, што вунь на плошчы пад помнікам. Выкопвалі трупы з лясных магіл, клалі ў труны, прывозілі сюды. Былі безыменныя, але былі, што і імя ведалі — жывыя паплечнікі, якія хавалі іх там, у лесе... Ці дакумент які знаходзілі. Я працавала ўжо тут, але выйшла замуж, мела другое прозвішча. І паведамілі брату майму Паўлу... Паўлюк у калгасе трактарыстам... Прыляцеў на матацыкле...

"Надзюля, ты тут сядзіш і нічога не ведаеш! А мне пазванілі з ваенкамата. Бацькаву магілу знайшлі. І будуць пераносіць сюды, у райцэнтр. Трэба ж, так блізка загінуў, а мы столькі гадоў не ведалі".

Іх было двое ў той ляснай магіле. Я пазнала бацькаву сапрэлую ватоўку. І самлела там, у лесе. Цяжарная была... Юрачкам. Не бачыла я перазахавання, мітынгу не чула... мяне, непрытомную, завезлі ў бальніцу. А потым зусім нядаўна, гады тры назад, я і пра маці пачула. Выпадкова. Ехала ў аўтобусе ў Мінск і пазнаёмілася з жанчынай з Міклашэвіч. Расказала яна, што яе ў Германію фашысты ганялі, і была з ёй жанчына з нашых мясцін Ганна Кузьмова. Па дзетках плакала, засталіся з дзедам, як жыць будуць? Скаланулася я: мама! Вунь дзе яе магіла, далёка — у Германіі ажно! Так асіраціла нас вайна. А каго яна не асіраціла?

Надзея Пятроўна выцерла насоўкай сухія вочы, выпіла чаю астылага.

— Доўгі ў цябе ўступ, Пятроўна, — не цярпелася расчырванеламу дырэктару, выпіць яму хацелася, але не ведаў, які тост прапанаваць, адвагі не хапала перапыніць настаўніцу.

— І то праўда! Здалёк я пачала. Гэта я для нашых гасцей...

— Ды яны пра партызан па пяць кніжак напісалі.

— Я яшчэ пра блакаду хацела расказаць. Як мы хаваліся ў балотах, на выспе. З намі партызаны былі. І немцы, паліцаі баяліся лезці праз балота. Але разы тры бамбілі з самалёта. Дзетак пабілі. Ды я толькі пра Зорку хачу сказаць, пра кароўку нашу. Мы яе з сабой павялі. І яна ратавала нас ад галоднай смерці. І не толькі нас — малых дзяцей суседзяў нашых, партызана раненага. Не абрыдла вам слухаць? — вінавата спытала Надзея Пятроўна нас з Аляксеем.

— Што вы. Для нас гэта хлеб.

— Не буду больш пра акупацыю, пра вайну. Ды не забываецца дагэтуль. Не дай Бог якому народу перажыць такое! Я далей раскажу, як я ва універсітэт паступала. Хопіць цярпення слухаць? Ды вы выпіце, мужчыны. Якія вы правільныя сёння! Госці нашы вас дысцыплінавалі? Добра, не піце, пакуль смешна вам не стане.

Прыйшлі нашы, фронт праз нас у адзін дзень пракаціўся, цяпер ведаем... Правільна я кажу, гісторыкі? Ракасоўскі праз балоты наступаў, каб узяць Мінск... Жыццё пачало наладжвацца. Хоць як яно наладжвалася? Падзеленую зямлю абагулілі, пасеянае ў полі жыта калектыўна зжалі, Чырвонай Арміі аддалі, армейскія машыны прыходзілі па збажыну. А дзед наш Восіп скасіў частку сваёй паласы, перанасіў уначы і абмалаціў у свірне. Мы з Паўлікам абураліся: во прыватнік! Людзі ў калгас, а ён — з калгаса. Каб хто данёс, маглі б пасадзіць дзеда.

Я паштаркай уладзілася, самая, можа, граматная была. За пісьмамі хадзіла сюды ў Старобін, за пятнаццаць вёрст, і разносіла па хатах. Як іх чакалі, пісем! Тры ж гады не мелі звестак ад сыноў сваіх і бацькоў. Мала было пахавальных, раней пахавалі нашых мужчынак. Ды і колькі я прарабіла паштаркай — два месяцы!

На раённай пошце я і прачытала, пад восень ужо, што універсітэт вярнуўся ў Мінск і абвясціў набор студэнтаў. А я ж пра яго марыла ў дзесятым класе, і настаўнік матэматыкі Васіль Халімонавіч многа разоў раіў: "Надзя, ідзі на матэматыку. Толькі на матэматыку! У цябе матэматычная галава". Мяне ў класе называлі Кавалеўскай. Ды, як бачыце, Кавалеўскай з мяне не выйшла, у БДУ я вучылася цяжка, бо галадала. Але не за сталом гэтым успамінаць пра голад! Дзеці мае папракаюць мяне за ашчаднасць маю. Аднак што пра мяне цяперашнюю! Жыццё настаўніка вам вядома! Вунь шаноўны госць наш як пра Міхаліну напісаў!

Запаліла мяне тая аб'ява. Наказ бацькаў успомніўся: вучыся, Надзейка! А за веды свае ўпэўненая была, не забылася за вайну. Бо як яно было? Кніжкі па гісторыі, па літаратуры, у якіх партрэты Леніна, Сталіна, адны глыбока схавалі, іншыя, хто вельмі немцаў баяўся, спалілі. А матэматыку, фізіку, хімію... Нехта, можа, і гэтыя закапаў, а ў нас яны ляжалі на паліцы. А я, прагная да чытання, іх чытала не адзін раз. І брата свайго Паўліка вучыла, ён перад вайной чатыры класы скончыў, а калі вызвалілі — у сёмы пайшоў, адзін, каго пераросткам не лічылі; матэматыку за пяты-шосты на зубок ведаў. А літаратуру можна і з сёмага вучыць. Ой, прабачце мне, госці і літаратары нашы... Загаварылася я. Але ж паверце, я люблю літаратуру. Але ж гэта вы, Сяргей Адамавіч, брата майго перасадзілі з пятага ў сёмы, так ён ведаў матэматыку і фізіку.

— Я, я, — адгукнуўся старэйшы з настаўнікаў, сівы ўжо чалавек, як высветлілася, былы дырэктар школы. — Шкада, што Павел не пайшоў далей вучыцца.

— Дык ён жа мне памагаў, прывозіў у Мінск прадукты. У калгасе рабіў. У пятнаццаць трактар асвоіў, сам, без курсаў. Цяпер усёй тэхнікай у калгасе загадвае. Але чаму я так бесталкова расказваю, скачу, як вавёрка па дрэвах...

Бегла я з раёна... газетку купіла... і ажно дрыжэла ўся: што скажа дзед? А дзед... О, мой дзед Восіп! Вечная яму памяць! Каб верыла, малілася б за яго... Ён загарэўся, як я.

"Вучыся, унучка, вучыся. Бацька і маці наказ табе далі. І я даю. Не адцягвай. Хутчэй едзь, ідзі, хоць пехатою, у Мінск. Каб не спазніцца..."

І Паўлік сварыцца перастаў, з павагай пачаў адносіцца, як да настаўніцы сваёй, быццам я ўжо скончыла універсітэт. У той жа дзень рыхтавацца пачалі. Жыта на печы сушылі і ў жорнах малолі, каб хлеб спячы ці праснак. Вяршкі з глечыкаў знялі, масла збілі. Помню, Паўлік... чатырнаццаты год хлопцу ішоў, папрасіў: "Дай, Надзька, паспытаць, якое яно, масла". Забыўся хлапчук, якое яно, масла. Хіба хто збіваў яго, масла, у тыя гады? А цяпер стаіць вунь і ніхто не калупнуў, селядзец з'елі...

— Бо не часта ён бывае, селядзец, у нашай краме. Са Слуцака везлі...

— Ды пад нашу гар лепшай закусі няма, як іржавы селядзец.

— Атэстат я хавала, як самы дарагі дакумент. У канторы калгаса даведку мне далі. Помню, сакратарка-грамацейка напісала: "Напраўляецца такая-та для вучобы ў Мінскім неверсецэ". Неверсет! Чатыры гады мы смяяліся: вучышся ў неверсецы.

Сельскія "географы" шлях мне вызначылі: калі вайскоўцы не падвязуць... а хто ў той час мог падвезці, акрамя армейцаў?.. то тупай да Слуцака, а там паязды ходзяць, не пасажырскія, дык таварны... даедзеш да Асіповічаў, перасядзеш на Мінск...

Торбу мне добрую налажылі і дзед з Паўлікам, і цёткі: праснакі, сыр, масла шклянку, нават сала шматок цётка Параска дала. Чаравікі маміны таксама несла ў торбе — каб не разваліліся... Ішла босая. Верасень, а цёпла яшчэ было па-летняму. Ды я шчаслівая, мне заўсёды шанцавала. Там, дзе Салігорск цяпер... тады гэта вёска была Вішнёўка... прыгожая назва! — падабрала нас ваенная машына "студабекер", у арміі былі тады такія машыны — амерыканскія. Не адну мяне, чалавек шэсць нас набралася, ды яшчэ ў Слуцку селі. Ваякі не першы раз ехалі, ды і пасажыры... Плату бралі — давалі, большасць натурай — самагонам. Я пляшку малака прапанавала — не ўзялі, не галодныя былі, старшына мардасты, а шафёр — нацмен вусаты, казах ці кіргіз. Ехалі яны, не спяшаючыся, грыбы ў лесе збіралі, пэўна, часць у Мінску стаяла і праязджалі яны па гэтай дарозе не ўпершыню, бо на пастах іх рэдка правяралі, хоць дзвюх маладзіц высадзілі, за што — бог ведае. Мабыць, ведалі іх, не першы раз ехалі.

Да вайны была я ў Мінску: перад выпускнымі экзаменамі зрабілі нам падарунак — звазілі ў сталіцу на экскурсію. Вядома ж, універсітэт паглядзелі, многія ж марылі паступіць туды, асабліва хлопцы нашы. А вярнуўся з вайны толькі адзін Сашка Плюшчай, пазней за мяне паступіў, пасля Перамогі. Цяпер у Мінску на высокай пасадзе, кажуць.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Скрыпка — і іншыя...



**Сёмы раз праходзіў у Гомелі Фестываль лаўрэатаў, арганізаваны Міністэрствам культуры РБ, Упраўленнем культуры Гомельскага аблвыканкама, абласной філармоніяй і Гомельскім каледжам мастацтваў імя Н. Сакалоўскага.**

**Гэтым разам фестываль быў прысвечаны выканальніцтву на струнных смыковых інструментах — скрыпках, альтах, віяланчэлях і кантрабасах.**

**Як вядома, у сімфанічных аркестрах сям'я струнных складае прыкладна дзве трэція агульнай колькасці выканаўцаў. Камерны аркестр таксама ў асноўным складаецца са смыковых. Яны вылучаюцца здатнасцю несупынна цягнуць гук, які адрозніваецца вялікай выразнасцю. Струнныя інструменты сваім цёплым, напеўным тонам здольныя перадаць разнастайныя адценні чалавечых пачуццяў. Дзіва што выступленні сімфанічных і камерных аркестраў так прывабліваюць слухачоў. Вось і канцэрты гомельскага фестываля вызначаліся вялікай увагай публікі.**

**Сапраўдным падарункам для гамяльчан сталіся выступленні мэтра беларускай скрыпічнай школы Вячаслава Зяленіна, прафесара Беларускай акадэміі музыкі. Ён выканаў Канцэрт Ф. Мендэльсона з Гомельскім гарадскім сімфанічным аркестрам (мастацкі кіраўнік і дырыжор Валяцін Краўцоў), а таксама зладкаваў салідную праграму з твораў XX стагоддзя. Выкананне маэстра вылучае асаблівая глыбіня і трапятлівасць. Поспеху скрыпача спрыяла і піяністка Ірына Неўская, дыпламант міжнароднага конкурсу імя К. Шыманоўскага. Музыканты адкрылі публіцы малавядомыя творы беларускіх кампазітараў М. Ельскага і Я. Тарасевіча.**

**Паспяховым было выступленне Камернага аркестра Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага. Кіруе калектывам яго заснавальнік Аляксандр Мазепін, які за 4 гады існавання аркестра прывёў яго да значных творчых дасягненняў. Выступленне гэтых музыкаў на фестывалі лаўрэатаў вызначалася прыўзнятасцю, тэмпераментам, добрым адчуваннем формы твораў, якія выконваюцца. Запомніліся салісткі Т. Дабрыдзенева (скрыпка) і Т. Пранічнікава (віяланчэль).**

**У наш час, калі эфір папулярызуе пераважна лёгкую камерцыйную музыку, прафесіяналы, якія захоўваюць адданасць класічнаму мастацтву, выклікаюць вялікую павагу. Хочацца часцей слухаць канцэрты сур'ёзнай музыкі, якая так узбагачае душу.**

**Эдуард КІРЫЛЕНКА**

*На здымку: прафесар В. Зяленін.*

*Фота У. ШЛАПАКА*

## Ваенны літаратар з Краснаполля

**З Краснаполлем, Краснапольшчынай звязаны імёны многіх літаратараў. Тут нарадзіліся выдатнейшы паэт Аляксей Пысін, публіцыст і празаік Сцяпан Кухараў, паэт, перакладчык, вядомы беларускі вучоны-філосаф Леанід Яўменаў, краязнаўца, журналіст Анатоль Ярохін, празаік Анатоль Казлоў. Працяглы час у дзяцінстве на Краснапольшчыне жыў паэт, празаік, перакладчык Іван Ласкоў.**

**А вось у меншай ступені вядома пра сувязь з гэтай старонкай публіцыста і празаіка Міхаіла Рыгоравіча Брагіна. Член Саюза пісьменнікаў СССР. Нарадзіўся ў Краснаполлі 13 снежня 1906 года. Закончыў Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе. Першая кніга — "Пра вайсковую работу камсамола ("Камсамольцы — да матораў")" (1930). Пасля пабачылі свет "Палкаводзец Кутузаў" (1941), "Ад Масквы да Берліна" (1947), "Шлях генерала" (1953), "Шлях лейтэнанта" (1957) і іншыя. У маладагвардзейскай серыі "ЖЗЛ" выйшлі кнігі М. Брагіна "Ватуцін" (1954), "Кутузаў" (1970), другое выданне — 1975). Вось літаральна і ўсе звесткі пра земляка-літаратара.**

**Магчыма, у Краснаполлі жывуць яго родзічы? Магчыма, і з сённяшніх жыхароў Магілёўшчыны, Краснапольшчыны нехта ведаў пісьменніка Міхаіла Брагіна.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

ДАТЫ

# Аўтограф на Парнасе

***Пра такіх людзей трэба пісаць мастацка-дакументальныя кнігі, здымаць серыялы: складаны радавод, "вострасюжэтная" біяграфія з мноствам цікавых сяброўскіх, сваяцкіх, творчых стасункаў, сама багатая чалавечая, мастакоўская натура Мікалая Аладава проста "просіцца" на старонкі рамана!***

Рамана такога, на жаль, (пакуль?) няма. Ёсць жывыя, назіральныя радкі ў вядомых мемуарах З. Азгура. Ёсць папулярныя нарысы, даследчыя артыкулы, прысвечаныя творчасці М. Аладава — народнага артыста Беларусі, хрэстаматыйнага кампазітара, яркага дзеяча нацыянальнай культуры 20-70-х гадоў, педагога, чыім імем названа адна са старэйшых і лепшых сталічных музычных школ. Ёсць незанатаваныя ўспаміны, бываліцы ды легенды, пра Мікалая Ільіча. Ёсць найцікавыя дакументы, фотаздымкі, што захоўвае яго дачка, вядомая музыказнаўца Радаслава Аладава.

У здымках — жыццё і характар. Арыстакратызм дарэвалюцыйнай ідыліі добрапрыстойнага піцерскага сямейства. Рамантычная маладосць, акрыленая духам вандровак, мэтанакіраванай і плённай дзейнасцю на ніве музычнага асветніцтва і ўласнай творчасці. Захапленне беларускім фальклорам, стварэнне арыгінальных аранжыровак народных песень, знаёмства з нацыянальным літаратурным асяроддзем і праца над увасабленнем беларускай паэзіі ў сваёй новай музыцы. Шчаслівыя гады шлюбу з Аленай Васільеўнай — асобай адметнай і дзейнай, дзякуючы якой стваралася і прымнажалася калекцыя Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі...

Дзівосная рэч — фота. Углядаешся ў прыгожы твар, прыкмячаеш характэрную аладаўскую чупрыну, якая калісьці надавала партрэтам зухаватасць і форс, а з гадамі — нейкую містычную суровасць, вылучаеш зменлівасць выразу вачэй: добры, усмешлівы, мудры, трагічны...

30 гадоў таму каларытную постаць пажылага прафесара можна было часцяком сустрэць на "музычным" лапіку плошчы Свабоды. Няспешная хада, нязменны партфель, характэрна "зашчэплены" абеберуч за спінай, доўгая сівая пасма над засяроджана звезденымі брывамі — ён мог падацца замкнёным дзіваком з крутым норавам. Але здымкі з сямейнага архіва "выдаюць" у гэтым чалавеку таварыскага і хлебасольнага гаспадара дома, душу самых розных кампаній, жартаўніка, улюбёнца вучняў, добрага казачнага дзядулю...

Здымкі, успаміны. Вядома ж, не яны — галоўная нагода для таго, каб пагаварыць пра М. Аладава. Ён пакінуў разнажанравую і ёмістую творчую спадчыну. Оперы. Кантаты. Дзесяць сімфоній. Мноства камерных твораў — інструментальных, вакальных. Партытуры для беларускага народнага аркестра і для хору... І хаця да 110-годдзя з дня яго нараджэння, што адзначалася пры канцы 2000-га, у Саюзе кампазітараў быў зладкаваны канцэрт-вечарына, узнікае пачуццё недастатковай увагі да гэтага пласта нашай музычнай спадчыны. Прынамсі, імя М. Аладава як аднаго з класікаў беларускай сімфанічнай музыкі спакваля знікла з рэпертуару айчынных аркестравых калектываў.

У сувязі з леташнім юбілеем паэмы К. Вераніцына "Тарас на Парнасе" не грэх было б прыгадаць і музыку аднайменнай аднаактовай оперы, створанай М. Аладавым на лібрэта Ю. Дрэйзіна, які ў аснову сюжэта ўвёў і матывы "Энеіды навыварат" В. Равін-



скага ды камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча "Гапон". Пры канцы 20-х першай беларускай камічнай оперы, створанай без выкарыстання традыцыйных размоўных дыялогаў, не пашанцавала: яна не ўпісалася ў кан'юнктуру тагачасных тэатральных пастановак і прагучала толькі па радыё, у 1930 г., пад кіраўніцтвам аўтара. У 71-м, за год да сваёй смерці, М. Аладаў змог вярнуцца да забытай партытуры, і дзве сцэны з яе былі ўвасоблены на тэлебачанні. Вось каб сёння адрадзіць-мадэрнізаваць прасякнутыя дасціпна аранжыраваным беларускім фальклорам старонкі "Тараса на Парнасе" і ўзнавіць хаця б у канцэртным выкананні, напрыклад, сцэну балявання "нябесных жыхароў", лірыку "боскіх дуэтаў"...

Адчуўшы сябе на мяжы двух стагоддзяў і нават тысячагоддзяў, многія з нас пачалі задумвацца і разважаць пра тыя духоўныя, эстэтычныя, агульнакультурныя каштоўнасці, якія

ТВОРЦА

# Падарожжа за акіян

***Мастака Алеся Марачкіна я сустрэла ў Нацыянальным мастацкім музеі пасля яго нага паўгадовага падарожжа за акіян. Сур'ёзны заказ на роспіс царквы ў амерыканскім горадзе Кліўленд мусіў заняць час для мастака досыць працяглы, дый па Мінску гулялі настойлівыя чуткі пра тое, што "ён, натуральна, не вернецца, бо што яму тая Беларусь з таго сытага замежжа". Але прыемна не расчароўвацца. Здаецца, Алесь Антонавіч не змяніўся, засталася тая ж дэманстратыўная эпатажнасць паводзінаў. Думаецца, што бліжэйшая выстава з удзелам мастака "задаволіць" і зыклае чаканне ад яго мастацкіх "правакацый". Тым не менш, цікава было б даведацца, чым "дыхаў" мастак у час падарожжа, што зведаў, якія ўражанні прывёз, што мяркуе на будучае...***

— Беларуская дыяспара ў Кліўлендзе яшчэ ў пазамінулым годзе збудавала сабе новую вельмі вялікую царкву. Да яе архітэктуры "прычасціліся" многія дзеячы. Тут было вельмі важна, каб знешні выгляд царквы не адпавядаў псеўдарускасці, бо прамаскоўская традыцыя збудавання храмаў стала характэрнай апошні час для Мінска. На жаль, "цыбуліны" нашых цэркваў падобныя адна на адну, рэдка дзе пабачыш адгалоскі візантыйскай ці мясцовай беларускай традыцыі. Пры праекціроўцы ж кліўлендскай царквы скарыстаны тыпова беларускія элементы храмавай архітэктуры, крыжы Еўфрасінні Полацкай для знешняй і ўнутранай аздобы, у іканастасе і роспісах закладзены нацыянальныя сімвалы. Быў абвешчаны конкурс на аздабленне гэтай царквы. Так атрымалася, што выйграў макет, зроблены мною разам з сынам Ігарам, які выступаў у якасці дызайнера і мастака, і Алесем Пушкіным, якога я запрасіў зрабіць эскіз роспісу сцен.

**— І многія канкурэнты засталіся без працы?**

— Конкурс быў аб'яўлены па амерыканскіх газетах. Сур'ёзна сапернічала з намі ўкраінская групоўка мастакоў. Але так вырашылі, што царкоўю павінны займацца беларускія мастакі, і гэта вельмі прынцыпова. Але мяркуйце самі, першапачатковая падрыхтоўка праекта і сам конкурс доўжыліся цэлы год і толькі тады прыйшло запрашэнне мне, сыну і Пушкіну, каб мы ўжо непасрэдна рыхтавалі праект у Амерыцы. Як ведаеце, у Алеся Пушкіна сітуацыя была складаная, яго не "выпусцілі". Паехалі з сынам. Пашчасціла адразу трапіць на з'езд беларусаў Паўночнай Амерыкі, сустрэцца там са знакамітымі людзьмі, паўдзельнічаць у пасяджэнні рады БНР. Прысутнічаў уладыка Мікалай з Таронта. Варта заўважыць, што ў Амерыцы існуе беларуская праваслаўная аўтакефальная царква і яна працуе як незалежная.

Пабачыўшы нашы эскізы, уладыка Мікалай унёс новыя карэктывы. Прыйшлося трошкі дапрацоўваць. Напрыклад, у столі дадаваць шасцікрылых херувімаў, сімвалы веры хрысціянскай.

**— Такім чынам аўтарскі калектыў, які нам вядомы па неўтаймаванай прапагандзе беларускасці, мусіў прытрымлівацца праваслаўных канонаў?**

— Я сам, дый Пушкін, дзе толькі магчыма ўводзілі ў эскізы беларускія элементы — валошкі, бел-чырвона-белыя стужачкі, узоры беларускіх ручнікоў. Украінцы, напрыклад, прапаноўвалі апранаць Божую маці ў нацыянальнае ўкраінскае адзенне. Я больш следаваў канону, але твары маляваў блізкія і цёплыя. Чым адрозніваецца беларускі абраз ад замежных? Я лічу, і з гэтым пагадзіўся ўладыка Мікалай, на беларускіх абразах святыя знаходзяцца сярод нас, а не над намі, не застрашваюць.

Тым не менш вольнасцей асаблівых у роспісе не дапушчалася. Калі я прадставіў кардоны, цэнтральная фігура Хрыста (называлася "Уладар уладароў, або Вялікі архіерэй") па нашай з Пушкіным задуме павінна быць багата апранутай. А побач усё па канону — злева Марыя, справа Іаан Хрысціцель і г.д. Уладыку Мікалаю напачатку задума спадабалася. Але ён даў заўвагу: намаляваць Хрыста такім, якім ён хадзіў у жыцці, бо быў багатым душою, а не адзеннем. І я тады *літаральна за дзень усё перарабіў і атрымаў* ухваленне. Гэта мяне абнадзеіла...

Фактычна працавалі я, сын Ігар і Сяргей Харытонаў. Гэта мастак, які зараз жыве ў Амерыцы, законны графічнае аддзяленне Беларускай акадэміі мастацтваў, вучыўся ў Васіля Шаранговіча, мае аб ім вельмі цёплыя ўспаміны. Шмат добрых слоў гаворыць пра нашу мастацкую школу і майстэрства, якое яна дала. Яго цвёрдую руку я адчуў адразу, як ён пачаў працаваць з намі.

**— Але ж я чула, што роспіс так і застаўся незавершаным?**

— Тры з паловай месяцы мы працавалі з дня ў дзень, як кажуць, з малітвай і прычасцем. Прыхаджанам гэта падабалася. Зараз атрымаўся невялікі перапынак, і яны сказалі, што нас яшчэ пагукаюць на працу.



Я паспеў распісаць толькі маленькую частку сцяны акурат за іканастасам, засталася найвялікшая праца — столь, уваход з праведнікамі і грэшнікамі, сам іканастас. Пакінуў я царкве і свае эскізы вітражоў. Як правіла, вітражы не зусім традыцыйны элемент для праваслаўных храмаў. Але склалася цікавая сітуацыя, гэта праваслаўная аўтакефальная царква мае нейкае водгулле з каталіцтвам, хоць і не падпарадкавана аніякім чынам Папу рымскаму. Напрыклад, у царкве, акрамя вітражоў, прадугледжаны вялізныя лаўкі, дзе можна сядзець. У вітражах, ведаючы патрабаванне, каб дзённае боскае святло прахо дзіла без зменаў, я ішоў ад белага, блакітнага і залацістага колераў. Тэму выбраў для сябе блізкую — гарады Беларусі, іх сімвалы, геральдыка і храмы. Праца над роспісамі, я думаю, будзе працягвацца, калі не намі, то іншымі.

**— Але аўтарскае права на кардоны захаваецца?**

— Натуральна. Магчыма, што мясцовыя майстры высокага класа зробяць вітражы самі па маіх кардонах.

**— Хацелася б даведацца пра ўражанні ад беларускага асяродка ў Амерыцы, тым больш гэта погляд не проста турыста...**

— Уражанне ў мяне засталося даволі складанае. Старая эміграцыя асела даўно і мае свой характар, менталітэт, сталыя ўза-





пяройдуць у спадчыну новаму часу з мінулага. Творчая постаць Мікалая Аладава (чыё сталенне, дарэчы, супала з надыходам XX ст.) з гэтага гледзішча падаецца знакавай. Гістарычнай. Таму хацелася б, каб людзі "новага часу" больш уважліва за сваіх папярэднікаў угледзеліся-ўслухаліся ў той аўтограф, што пакінуў на музычным Парнасе наш класік.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: М. Аладаў у маладыя гады; у студыі радыё сярод дзеячаў беларускай культуры (зверху злева направа) В. Мароз, І. Жыновіч, Ф. Андруковіч (унізе злева направа) М. Аладаў, Я. Купала, Я. Колас, Гарадзецкі; заняткі са студэнтамі Алегам Соніным (цяпер вядомы беларускі кампазітар) і Аляксандрам Дземчанкам (цяпер доктар мастацтвазнаўства, музыказнавец, працуе ў Саратаўскай кансерваторыі).*



*А. МАРАЧКІН: "Час цвіцення"*

емаадносіны. Яна ўвесь час трымала "вызвольны" сцяг, мову, гістарычныя сімвалы, хоць і мела паміж сабой пэўныя сутыкненні. Як толькі з'явілася новая плынь — гэта ўсё ж савецкія людзі, — рэдка хто з іх прыехаў са сцягам адраджэння ці далучыўся да яго. Я быў у сям'і, дзе дачка вучылася ўжо ў Амерыцы. Дзяўчынка забыла амаль што беларускую мову, не ведае беларускую літаратуру. На жаль, не робіцца нічога, што б злучала дзяцей там з нашай гістарычнай радзімай. Варта было б адкрыць нядзельную дзіцячую беларускую школу, напрыклад, пры царкве. Такую практыку паспяхова маюць другія парафіі, асабліва ўкраінская.

**— Не ўзнікла жадання застацца?**

— Я камфортна сябе адчуваў там сярод беларусаў. Але пытанне застацца нават не ўзнікала і мяне не хвалявала. Было цікава пазнаёміцца і паназіраць. Даведаўся, напрыклад, пра злучнасць мастакоў-выхадцаў з рэспублік былога Саюза — Малдавіі, Украіны, Расіі — у сябрыну кшталту Саюза мастакоў. З іх толькі дватры чалавекі жывуць за кошт мастацтва. Прыжыліся ў эміграцыі і беларускія мастакі. Напрыклад, Артур Васілевіч, мастак-манументаліст. Ён займаецца творчасцю, але падрабляе роспісамі інтэр'ераў. У Амерыцы распачалася новая мода — распісваць сцены жылых памяшканняў, напрыклад, краявідамі ў стылі Русо з дрэвамі і птушкамі альбо ў стылі авангарднага аптычнага мастацтва. Зрокава сцены нібы разбураюцца. Амерыка і слаўная тым, што не мае пэўных стандартаў. У адной і той жа галерэі можна сустрэць суперавангардны праект і сумніўную працу каланіяльна-туземнага паходжання. Як перад вачыма бачу адну такую з намаляванымі папугайчыкамі і абшытую празмерна бісерам. Такая сітуацыя ніколі не магла б узнікнуць у еўрапейскай галерэі, а для амерыканскай яна тыповая.

Увайсці замежніку ў амерыканскую культуру няпроста. Хаця мяне яна натхніла. Хацелася б і паказаць сваю творчасць, тым больш гэтым зацікавілася адна авангардная некамерцыйная галерэя ў цэнтры Кліўленда. Амерыка раскоўвае мастака. Не думаеш пра тое, што ты мусіш камусьці паказваць працы і нехта павінен гэта ўхваліць. З другога боку самі амерыканцы ў большасці задаволены прынтамі і толькі асобныя калекцыянеры купляюць сапраўднае мастацтва...

**Гутарыла Наталля ШАРАНГОВІЧ**

МАНАЛОГІ

# "Спяваю жыццё..."

***Калісьці гэты тэатр называўся "Вольная сцэна". Зараз — Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі. Але ў рэшце рэшт справа не ў назвах, справа ў людзях, якія яе выконваюць. Адчуць сябе беларусам, застацца ім насуперак усяму — бадай, ці не самая цяжкая справа... Мы размаўляем з Таццянай Мархель у цесным пакойчыку рэквізітарскай, а дзесьці паблізу, на сцэне, ідзе рэпетыцыя шэкспіраўскага "Рычарда". І дзесьці паблізу, на мінскіх вуліцах і пляцах, на вольнай сцэне будзённасці, доўжыцца спектакль пад назвай "Жыццё". З шэкспіраўскімі жарсцямі, радасцямі і трагедыямі. Відачынства пад назвай "Жыццё". Сцэнар пішам мы. Прынамсі, павінны. І калі спазняемся ці лянуемся, заўжды знаходзіцца іншы аўтар. Справа, сапраўды, не ў назвах, а ў людзях...***

**Таццяна Рыгораўна МАРХЕЛЬ — заслужаная артыстка Беларусі, акторка Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі:**

— У тэатр еду заўжды з прыўзнятым настроем. Грамадскі транспарт, перагружаны і нявелтлівы — не перашкода. Проста не зважаю на гэтыя дробязі. Мяне чакае рознакаляровы свет радасных фантазій і чароўных ілюзій. Пазатэатральнае жыццё поўнае нечаканых адкрыццяў. Але тэатральнае падабаецца мне больш. Мо я блытаю, памыляюся?! Не! Сапраўднае жыццё там, дзе чалавек самавыяўляецца, самарэалізуецца. Я жыву на сцэне, тут маё месца. І не толькі таму, што я атрымліваю ад гэтага творчае задавальненне. Наш глядач, малады, летуценны, дапытлівы — неад'емная і галоўная частка тэатра. Мы аддаём яму ўсё, мы жывём для яго. І калі энергія, якая пульсуе са сцэны ў залу, вяртаецца да нас — адбываецца цуд узаемапаразумення. І толькі тады ўсведамляеш, што ад усіх нас залежыць, ці будзе наша агульная сцэна сапраўды вольнай ды незалежнай.

Што сказаць гледачу, як гэта зрабіць, каб абудзіць і занепакоіць? Спрадвечная тэатральная тайна! Вышукваю і разгадваю яе штодня. І радасна, і цяжка адначасова. Мне пашанцавала, бо ў свой час вельмі дапамаглі коласаўцы. Гэты тэатр у 80-ых быў жывым і дзейсным асяродкам сапраўднай беларускасці. Акунулася ў гэты шчаслівы вір з галавой. Паверце, няма больш радаснага збавення — стаць самой сабой. Беларусамі мы нараджаемся, але не ўсе імі становімся.

Беларускасць для мяне — гэта і шчырасць, і адкрытасць, і самаахвяраванне. Шкадаваць сябе і заходзіцца ў плачы ад невыносна горкай долі — проста злачынна. Знайсці сваё месца, выканаць свой абавязак, не здрадзіць сабе, захаваць сумленне і душу — такі просты і такі складаны шлях. У кожнага свой, а разам — наш адзіны, беларускі...

Родам я з вёскі Шпакоўшчына, што пад Смалявічамі. Песенны край! Дарэчы, а дзе ён у межах Бацькаўшчыны нашай — не песенны?! Краіна паэтаў і музыкаў, дзе калісь ледзь не ў кожнай вясковай хаце — і скрыпка, і адмысловы спявак. І паэтаў, як каласоў у полі, і шчырых непадманных душ і сэрцаў, як у небе птушак. Дзе-небудзь яшчэ ёсць такая краіна ў свеце?! Маці і бабуля ўсё жыццё спявалі. Спяваю сваё жыццё і я. Тры дзесяткі песень, матчыных, бабуліных, напэўна, і не захаваліся б, калі б не сталі ў свой час працягам маёй беларускай душы. Я не прафесійная спявачка, гэтаму не вучылі на акцёрскім аддзяленні. Проста мая Беларусь пачынаецца з песні. Працяглай, сумнай і вясёлай адначасова... Спяваю і чую, як маці кліча мяне, зусім малую, есці бліны: "Хутчэй, донька, бо астынуць!" Спяваю і чую, як гучыць вёска, лес, поплаў, бачу выпас, дзе калісьці дзяўчынай пасвіла кароў ды свіней, нават урокі тут рабіла. Спяваю і адчуваю сябе часткай агульнага беларускага спеву, часткай агульнай беларускай душы... Не даць бы ўсё гэта знішчыць, захаваць бы ды памножыць...



Я люблю адзіноту. Не ў горадзе — у вёсцы, у лесе, на полі. Стомленае горадам сэрца шукае адхлання і падтрымкі. Сілкуюся вясковай прасторай, бясконцай і роднай як песня. У горадзе ратуюся тэатрам, музыкай, літаратурай, Гёс, Баршчэўскі, Быкаў... Быкаўская Сцепаніда са "Знака бяды" — мая гераіня, вясковая і зямная, баявая, упартая і няўрымслівая, сапраўдная беларуская душа. Не давялося сыграць яе ў фільме. "На Беларусі мала акцёраў, якія б маглі рэалізаваць рэжысёрскую задумку", — ледзь не трывалае меркаванне асобных майстроў кіно. Беларусаў іграюць рускія, як ім здаецца — з вялікім поспехам...

Але не будзем пра кепскае. Жыццё працягваецца. І заўтра мяне зноў чакае сцэна, чакае мой глядач. Заўжды строгі і справядлівы, заўжды ўдзячны і неабыякавы. Я ведаю з чым звяраць асабістае жыццё. Я стараюся не хлусіць і не фальшывіць. Я працягваю жыць і спяваць...

**Занатаваў Яўген РАГІН**

*На здымку: Таццяна МАРХЕЛЬ разам з маці.*

# БМА: пяць гадоў аддадзены беларушчыне

Менавіта ў такія студзеньскія дні 1996 года была заснавана Беларуская Музычная Альтэрнатыва (БМА-груп). Яе стваральнікі Вітаўт Супрановіч і Сяргей Сахараў ставілі перад сабой мэты падтрымкі беларускамоўных выканаўцаў рок- і поп-музыкі, бардаў, выдання іх твораў на касетах і кампакт-дысках, папулярызацыі іх твораў сярод маладзёжнай аўдыторыі.

За пяць гадоў існавання намаганнямі гэтай маладзёжнай творчай суполкі выдадзены два выпускі кампіляцый беларускіх рок-гуртоў "Вольныя танцы", праведзены канцэрты-прэзентацыі іх у Мінску і іншых гарадах Беларусі. Гэтая праца адзначана ганаровым дыпломам на "Рок-каранацыі-1999". Высілкам маладых прыхільнікаў беларушчыны былі выдадзены таксама дыскі фальклорнага гурта "Ліцвіны" (разам з творчай суполкай "ЛІМАС") і знанага беларускага опернага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага, касеты гуртоў "Грунвальд", "Пошук", "Кардон", хрысціянскія спевы гурта "NEWCOSMOPOLIS", зборнікі тэкстаў песень гуртоў "Камэлот" і "Уліс", канцэртныя відэа-зборнікі.

БМА-груп мае сваю інтэрнэт-старонку, на якой распавядаецца пра асноўныя падзеі беларускага рок-андэрграунда, яго лідэраў і дзеючых асоб. Журналістамі творчай суполкі падрыхтаваны да друку першы нумар беларускамоўнага часопіса "POST-R", прысвечаны айчынным выканаўцам, навінкам беларускага гуказапісу, агляду найбольш значных канцэртаў і фэстаў.

Беларуская музычная альтэрнатыва з мінулага года з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком Беларускага аб'яднання студэнтаў Беласточчыны (БАС) і рок-фестывалю "Басовішча" ў Беларусі, займаецца адборам маладых выканаўцаў для ўдзелу ў гэтым аглядзе беларускай рок-музыкі.

Акрамя гэтага, БМА-груп — гэта творчая база для падрыхтоўкі маладых мэнеджэраў беларускага рок-руху. З іх дапамогай ладзяцца беларускія дыскатэкі, канцэрты і фэсты: "Вольныя танцы" ў Мінску, "Рок-немаўля" ў Маладзечне, "Вольная сцэна" ў Радашковічах.




У планах гэтай творчай суполкі выданне трэцяга выпуску кампіляцыі "Вольныя танцы", сольных дыскаў вядомых беларускіх бардаў Сержука Сокалава-Воюша і Віктара Шалкевіча. Да Дня ўсіх закаханых рыхтуецца сувенірная касета "Песні пра каханне" з сюрпрызным дадаткам.

І хоць кажуць, што "маладосць — усё дурносць", але гэта не дапасуецца да маладых выдаўцоў з БМА-груп, якія ў такіх складаных умовах так шмат робяць для таго, каб беларуская мова не стала чужой у маладзёжным асяродку.

**А. МІТРАНОВІЧ**

## З поўнай аддачай

УЛАДЗІМІРУ ЖЫЖЭНКУ — 70



**Родам Уладзімір Аляксандравіч са старажытнага горада Дарагабужа, які цяпер знаходзіцца ў Смаленскай вобласці Расіі. Нарадзіўся 23 студзеня 1931 года ў сям'і педагогаў: бацька працаваў настаўнікам, маці — у дзіцячых дашкольных установах. Перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны сям'я адпачывала ў Ельні, у бацькоўскай маці. Адтуль бацька У. Жыжэнкі пайшоў на фронт, а сям'я эвакуіравалася ў Чарапанава Новасібірскай вобласці. У 1945 годзе пераехала на Гродзеншчыну, у горад Ваўкавыск. Скончыўшы ў 1948 годзе сярэднюю школу, У. Жыжэнка паступіў на аддзяленне рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Адначасова працаваў у вячэрніх школах. Пасля атрымання ў 1953 годзе дыплома аб вышэйшай адукацыі, быў рэдактарам дзіцячай і юнацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве БССР, у выдавецтве "Беларусь", старшым рэдактарам дзіцячых і юнацкіх перадач на Рэспубліканскім радыё, галоўным рэдактарам Мінскай кінастудыі хронікі. З 1966 года — рэдактар, старшы рэдактар літаратурна-мастацкага вяшчання на Рэспубліканскім радыё.**

**З 1969 года да выхаду на пенсію працаваў у рэдакцыі часопіса "Нёман" — літаратурны супрацоўнік аддзела прозы, загадчык аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі, загадчык аддзела прозы...**

**Творчую працу пачаў як крытык. Упершыню надрукаваўся ў 1953 годзе, змясціўшы ў першым нумары альманаха "Советская Отчизна" (цяперашні часопіс "Нёман") рэцэнзію на кнігу "Антология белорусской поэзии", што годам раней выйшла ў Маскве. У тым жа 1953 годзе былі і рэцэнзіі ў часопісе "Беларусь", газеце "Сталинская молодежь" (сённяшняя "Знамя юности") і яшчэ адна ў "Советской Отчизне".**

**З 1955 года У. Жыжэнка выступае ў асноўным як перакладчык твораў беларускіх пісьменнікаў на рускую мову. Дзякуючы яму рускамоўны чытач змог пазнаёміцца з раманамі "Гарадок Устронь" Міколы Лобана, "Іскры ў папялішчы" Лідзіі Арабей, "Спытай сваё сэрца" Алеся Шашкова, "Вялікі Лес" Барыса Сачанкі, тэтралогіяй Алены Васілевіч "Пачакай, затрымайся...", аповесцямі Аляксея Кулакоўскага, Віктара Карамазава, Аркадзя Марціновіча, Янкі Маўра, Івана Сяркова, творамі іншых пісьменнікаў. Увогуле, набыткі У. Жыжэнкі ў галіне перакладу важкія. Адметна тое, што ён вельмі ўважліва ставіцца да арыгінала, заўсёды імкнецца перадаць дух творчасці таго ці іншага пісьменніка, а не слепа ідучы за тым, што напісана па-беларуску.**

**Вядомы У. Жыжэнка і як аўтар літаратурнай апрацоўкі кніг успамінаў удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны — "Огненные вихри" У. Парахневіча, "Обелиск у дороги" А. Караткевіча, "Четыре тарана в небе" Л. Шыпулі. Зноў жа, як і пераклады, яны вызначаюцца сваімі нязменнымі мастацкімі вартасцямі, бо У. Жыжэнка дакладна адчувае слова, а пры ўсім іншым валодае і пяром празаіка, што вельмі спатрэбілася ў тых выпадках, калі ў мемуарах узнаўляюцца эпізоды гераізму ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, ці расказваецца пра пэўныя баявыя аперацыі.**

**З 70-годдзем, шаноўны Уладзімір Аляксандравіч! Нязменных вам жыццёвых і творчых поспехаў!**

***Гомельшчына ганарыцца народнымі пісьменнікамі Іванам Мележам, Андрэем Макаёнкам, і Іванам Навуменкам, а таксама такімі знанымі майстрамі слова, як Анатоль Грачанікаў, Барыс Сачанка, Леанід Гаўрылкін, Аляксандр Капусцін, Раман Сабаленка, Міхась Даніленка, Хведар Жычка, Мікола Гроднеў, і многімі іншымі. А калі надараюцца ў пісьменнікаў юбілеі, то абавязкова тады прыхільнікі іх творчасці ладзяць вечарыны, чытацкія канферэнцыі, друкуюць артыкулы ў мясцовых газетах, робяць выставы кніг, газетных і часопісных публікацый...***

***Гомельшчына любіць і ўсяляк шануе пісьменнікаў. Што ж тады гаварыць пра Івана Пятровіча Шамякіна, якому 30 студзеня спаўняецца 80 год! На сённяшні дзень, без перабольшвання, гэта адзін з самых вядомых, аўтарытэтных і паважаных нашых землякоў.***

# Землякі — пра земляка

ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Івана ШАМЯКІНА

**Віктар ЯРАЦ,**
**паэт, дацэнт ГДУ імя Ф. Скарыны:**

— Іван Пятровіч — не толькі надзейны, абавязковы ў адносінах з людзьмі чалавек, але без паказухі неабыякавы, цікаўны да їхняга становішча, да тых абставін, у якія даводзіцца ім трапляць. У свае юнацкія гады давялося сустрэцца з Шамякіным у Саюзе пісьменнікаў, які знаходзіўся яшчэ на вуліцы Энгельса. Іван Пятровіч, які быў тады першым сакратаром пісьменніцкай арганізацыі, без мітусні распытваў у мяне, што новага на Гомельшчыне, як і чым жывуць землякі, а потым, гледзячы на мой не надта вясёлы воблік, параіў: "Напішы заяву на матэрыяльную дапамогу, у нас ёсць нейкая капейчына, то будзе хоць тысячы на хлеб надзённы". Тут жа Таццяна Кузьмінічна Іваніцкая, кансультант па арганізацыйнай рабоце, вырашыла ўсе тэхнічныя дэталі і без аніякай валакіты я атрымаў нечаканы фінансавы падмацунак, бо ў маіх аспіранцкіх кішэнях, па праўдзе кажучы, гуляў вецер.

Гэта толькі адзіны факт, які датычыць да маіх стасункаў з пісьменнікам, а колькі рупіўся ён пра лёс гамяльчан — Анатоля Грачанікава, Леаніда Гаўрылкіна, Аляксандра Капусціна і іншых, садзейнічаў іхняму творчаму росту, дапамагаў з пераездам у сталіцу — бліжэй да эпіцэнтра творчага асяроддзя, да выдавецтваў і рэдакцый часопісаў. Шкада, што не могуць расказаць пра ўсё гэта яны самі больш падрабязна і грунтоўна, на вялікі жаль...

Але ёсць яшчэ, дзякаваць Богу, сярод нас сучаснікі, якім ёсць што прыгадаць з асабістых сустрэч, з уласнага жыцця, каб дапоўніць жывы вобраз нястомнага працаўніка на ніве роднай літаратуры — вобраз без хрэстаматыйнага глянцу і парадная узнёсласці, вобраз не святошы, а зямнога, у тым ліку і з памылкамі, і расчараваннямі летапісца свайго няпростага, а часта і надта ж заблытанага, стракатага і багатага на эмоцыі часу, у які, аднак, жылі і стварылі, нягледзячы на рознае, і верылі ў лепшае.

**Міхаіл БУТКЕВІЧ,**
**пенсіянер:**

*— З Іванам Пятровічам мне даводзілася сустракацца не так часта, але тыя сустрэчы, што адбываліся — і, як правіла, у Гомелі, — запомніліся. А запомніліся таму, мусіць, што Шамякін ужо пры жыцці стаў чалавекам легендарным. Як Васіль Корж, як бацька Мінай, як сам Машэраў. Не ведаю, але ў мяне чамусьці такое атрымліваецца параўнанне. Працаўнік! Героя Сацыялістычнай Працы надалі Івану Пятровічу недарэмна, у гэтым я пераканаўся яшчэ больш сёння, калі Шамякін, нягледзячы на паважаны ўзрост, дае фору ў літаратуры куды больш маладзейшым пісьменнікам. Я сачу за яго творчасцю. І шчыра радуюся за свайго слыннага земляка. Спадзяюся, што на кніжнай паліцы ў маёй хатняй бібліятэцы з'явяцца новыя творы народнага пісьменніка з ягонымі аўтографамі — побач з такімі, як "Глыбокая плынь", "У добры час", "Крыніцы", "Сэрца на далоні", "Снежныя зімы"...*

*Так атрымалася, што больш года ў мяне кватараваў малады на той час паэт Анатоль Грачанікаў. Неяк ён і завітаў дадому з Іванам Пятровічам. Як і вадзецца ў такіх выпадках, сабралі на стол, выпілі па келіху, а тады пацякла гамонка пра рознае. Шамякін больш дзяліўся сваімі ўражаннямі ад паездкі ў ЗША — як член дэлегацыі БССР ён удзельнічаў у рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Трыццаць пяць гадоў прайшло з той першай сустрэчы, а яна запомнілася. Застаўся ў мяне даляр, казаў Іван Пятровіч, як і сёння бачу ўсмешку на ягоным адкрытым, сціплым твары — і ён вырашыў патраціць яго, набраць гарчычнікаў. Спадзяваўся, што выйдзе цэлы пук, а далі на той даляр усяго чатыры штукі. Ды што казаць: добры, моцны рубель у нас быў тады!*



**Ніна ШКЛЯРАВА,**
**паэтэса:**

— Нарадзілася я ў Пракопаўцы, і якраз у той час, калі там жылі Шамякіны: Іван Пятровіч настаўнічаў, Марыя Філатаўна працавала фельчарам. Яна і прымала ў мамы роды... Вось так. А запомніўся найбольш адзін выпадак. Не трэба прыгадваць, як жылі пасля вайны вясковыя дзеці... цукеркі, адным словам, былі марай. Аднойчы мы, купка вясковых дзяцей, ішлі па сцежцы ў садзе, па якой хадзіў раней Іван Пятровіч на працу ў школу, але ён на той час жыў і працаваў ужо ў Мінску, але калі прыязджаў, то для вяскоўцаў было свята. Дык вось, насустрач нам ішла маладая пара... і так шчодра пачаставалі нас дзядзька і цётка цукеркамі, што нашай радасці не было канца. Як потым высветлілася, гэта былі Шамякіны. А смак тых цукерак, здаецца, і сёння адчуваю.

Перад нашай вёскай ёсць паляна, якая называецца Воленкай. На ёй была некалі лесніčоўка Шамякіных. Час, вядома, спляжыў усё начыста. Толькі ў памяці людзей сталага веку жыве і леснічоўка, і калодзеж, у якіх была чамусьці смачнейшая вада, чым у іншых. А мая дачка, Алёна Алешына, выдала кнігу вершаў, якую так і назвала "Воленка", якая стала яе дыпломнай працай у Літаратурным інстытуце імя М. Горкага.

Што ж тычыцца маіх стасункаў з Іванам Пятровічам, то іх было няшмат, але неяк у Каралішчавічах на семінары маладых літаратараў ён заўважыў мяне, пацікавіўся, як жывуць мае вяскоўцы, як там стаіць школа, якую ўсе называюць школай Шамякіна, бо, кажуць, ён яе пабудаваў... А калі працавала на Гомельскім тэлебачанні, мы рабілі перадачу пра слыннага пісьменніка-земляка, здымалі і ў Мінску, на кватэры Шамякіна. Запомнілася, што ў той кватэры было нам утульна...

**Міхаіл МІРОНАЎ,**
**дырэктар Рагачоўскага завода безалкагольных напіткаў:**

*— Я ніколі асабіста не сустракаўся з Іванам Шамякіным, але чамусьці складваецца такое ўражанне, што я з ім бачыўся шмат разоў. Усё, відаць, надзвычай проста і заканамерна: Шамякін, пэўна ж, — мяркую па сваіх блізкіх і сябрах, — самы чытаемы беларускі пісьменнік, а паколькі ён часта прыходзіць да нас як пісьменнік, то адначасова прыходзіць і як аўтар, як чалавек. І гэты год пачаўся ў мяне з сустрэчы з Шамякіным — з задавальненнем прачытаў яго новы раман "Губернатар", што надрукаваў у апошніх пяці нумарах за мінулы год часопіс "Беларуская думка". Іван Пятровіч застаецца верны сабе — умее будаваць сюжэт, нічога не скажаш, таму нельга было адарвацца ад старонак новага твора. І сам губернатар Вікенцій Паўлавіч, і яго правая рука — кіраўнік справамі аблвыканкама Іван Залоза, і сакратарка губернатара Ганна Фядосаўна, і банкір Падбярэзскі, і іншыя вобразы выпісаны рукой сапраўднага майстра. Канешне, сімпатыі чытача ўсё ж, не зважаючы і на асобныя пралікі, мяккаватасць характару, на баку губернатара, якому ўвесь час імкнецца дагадзіць Залоза, ды так, што пачынаеш хваляваецца за лёс Вікенція Паўлавіча. Хораша выпісаны і кароткія сустрэчы яго з сакратаркай... Але ж фінал чакаецца іншы. Больш прамы — Залоза, прайдзісвет яшчэ той, думалася мне, чытаючы раман, усё робіць для таго, каб падставіць губернатара і заняць усімі праўдамі і няпраўдамі ягоную пасаду... Але Шамякін, паўтаруся, ёсць Шамякін: ён заканчвае раман так, як не чакаеш. Прачытайце. Не пашкадуеце.*

**Ніна КАНАВАЛАВА,**
**супрацоўніца абласной універсальнай бібліятэкі імя У. Леніна:**

— Мне пашчасціла нарадзіцца ў той вёсцы, дзе нарадзіўся і Іван Шамякін. У Карме Добрушскага раёна. Вёска цудоўная. Там ёсць добрая школа, царква... Людзі працуюць старанна і жывуць някепска. Цяпер вось мае землякі рыхтуюцца адзначыць васьмідзесяцігадовы юбілей Шамякіна. Свята будзе ладзіцца на абласным узроўні. Прыедуць кіраўнікі вобласці і раёна, пісьменнікі, артысты і проста прыхільнікі таленту Івана Пятровіча. А ў яго іх шмат. У гэтым я пераканалася, бо працую бібліятэкарам. А ведаеце, чаму выбрала гэтую прафесію? Так, так, дзякуючы свайму слыннаму земляку з'явілася ў мяне любоў да кнігі. Гэтая любоў прачнулася ў мяне, відаць, тады, калі я ўпершыню сустрэлася з Шамякіным. У дзяцінстве.

Усе бібліятэкі вобласці, трэба адзначыць, правялі або яшчэ правядуць мерапрыемствы, прысвечаныя юбілею Івана Шамякіна. Бо гэта сапраўды народны пісьменнік!

**Усе мае суразмоўцы зычаць Івану Пятровічу моцнага здароўя і спадзяюцца, што пасля юбілею ён парадуе іх новымі творамі.**

**Веру ў гэта і я.**

**Васіль ТКАЧОЎ**

*Фота Ул. КРУКА*

# "Писал доктор Скоринич Францискус"

## Пасланне, атрыманае праз пяць стагоддзяў, або Ці заўсёды можна верыць бібліёграфам?

ІВАН ЧЫГРЫНАЎ некалі сказаў: "Для мяне Скарына ўсё яшчэ вялікая загадка. Ён загадаў яе нам усім".

Так — усім. Шэрагі даследчыкаў і аматараў Скарынавай спадчыны растуць, папаўняюцца за кошт спецыялістаў самага рознага профілю (дарэчы, не толькі "лірыкаў", але і "фізікаў"). Паступова яго загадкі разгадваюцца, часам зусім нечакана.

Скарына быў па-рэнесанснаму чалавекам разняволеным, смелым і амбітным. Друкуючы святыя кнігі, любіў увайсці ў непасрэдны кантакт з чытачом, лішні раз нагадаць аб сабе, сцвярдзіць свой унёсак-даробак, сваё аўтарства, сваю, як бы мы цяпер сказалі, інтэлектуальную ўласнасць. Вось і ў акафістах, надрукаваных у "Малой падарожнай кніжыцы" (Вільня, 1522), зашыфраваў сваё імя ў выглядзе мудрагелістых акравершаў. Акафіст — даволі вялікі твор-хваласпеў, традыцыйны ланцужок асобных маленькіх частачак — кандакоў і ікасаў. Скарынаўскія акравершы складаліся з першых літар кожнай такой часткі і, расцягнутыя па многіх старонках, не кідаліся ў вочы, былі прыхаваныя. Гэта быў своеасаблівы сакрэт нашага першадрукара. Яго заўсёдны выклік — шукайце, думайце.

Некалькі стагоддзяў пра акравершы ніхто не здагадваўся (прынамсі, звестак такіх няма). Толькі ў наш час яны былі, нарэшце, адкрытыя, прычым вельмі цікавым шляхам.

Адкрыў іх не скарыназнавец-прафесіянал, а спецыяліст па рускіх старадаўніх рукапісных кнігах. У канцы 70-х гадоў малады супрацоўнік аддзела рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі СССР у Маскве Анатоль Турылаў, працуючы над старадаўнім манускрыптам з перапісанымі ў ім акафістамі, склаў першыя літары кандакоў і ікасаў і раптам прачытаў: "Писал доктор Скоринич Францискус". Па літарцы — як у тэлеграме. І ў іншым месцы: "Делал доктор Скоринич Францискус". Такім вось нечаканым пасланнем з глыбіні вякоў яшчэ раз азваўся, дацягнуўся да нас Вялікі Палачанін. Ведаючы, што Скарына друкаваў акафісты ў "Малой падарожнай кніжыцы", Турылаў паспяшаўся ў Гістарычны музей, дзе захоўваецца рэдкі асобнік гэтага скарынаўскага выдання, і пераканаўся, што акравершы ёсць і там. Толькі іх ніхто не заўважаў, не прыкмячалі, дарэчы, і пазнейшыя грамацеі-перапісчыкі ў манастырскіх абіцелях і раскольніцкіх скітах (тамсям у перапісаных імі акравершах былі збоі).

Такое вось, як снег на галаву, звалілася адкрыццё. Тут усё цікава — і новы факт Скарынавай дзёрзкай дасціпнасці, яго нястрымнай прагі дыялога з чытачом (мажліва, нават з аглядкай на далёкіх нашчадкаў), і яшчэ нязвыклая, невядомая даследчыкам форма імя, і магчымасць паразважаць над тым, чаму ў адным выпадку ён распачаў акраверш словам "Писал", а ў другім "Делал". Ды ці мала чаго яшчэ.

Галоўнае ж — выяўленыя акравершы сведчылі, што Скарына быў не толькі выдаўцом, але і аўтарам (прынамсі, сааўтарам) акафістаў. Скарына — гімнограф! Адкрылася зусім новая старонка ў скарыназнаўстве. Гэта быў цудоўны падарунак усім нам, проста дар нябёсаў якраз напярэдадні пяцісотгадовага юбілею Скарыны, што набліжаўся. Не кожнаму даследчыку выпадае такая ўдача.

Тут якраз падаспела ўсесаюзная акадэмічная канферэнцыя па праблемах навуковага апісання і выдання помнікаў пісьменства. Яна адбылася 14—16 лютага 1979 года ў Ленінградзе. Турылаў падрыхтаваў для яе даклад "Гімнаграфічная спадчына Францыска Скарыны ў рукапіснай традыцыі". Як водзіцца, перад канферэнцыяй, на пачатку 1979 года, былі выдадзены "Тэзісы дакладаў", а самі даклады надрукаваны ў 1981 годзе ў самавітай кнізе з такой жа самавітай, паважнай назвай "Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности".

Сутнасць адкрыцця (а гэта менавіта адкрыццё, а не простая знаходка) была перададзена ў тэзісах — 40 няпоўных радкоў на ратапрынце (с. 45—46 агульнай брашуры з тэзісамі выступленняў удзельнікаў). Вядома ж, дакладчык дапасаваў сваё адкрыццё да агульнай праблематыкі канферэнцыі. Стыль гранічна сціслы і сціплы, па-акадэмічнаму стрыманы. Мяркуйце самі (ГБЛ — тагачасная абрэвіятура бібліятэкі): "Насущной задачей научного описания рукописных книг является сплошная обработка памятников книжности с возможно исчерпывающей характеристикой их содержания, поскольку это необходимо для выявления оригинальных памятников славянских литератур (независимо от жанра) и установления их авторской принадлежности. Сошлемся на следующий пример. При обработке рукописи собрания Е. Е. Егорова (ГБЛ, ф.98, N 1834) мы обнаружили, что два текста в ней: "Акафист сладчайшему имени Иисусову" и "Радости" Иоанну Предтече содержат акростих с именем Франциска Скорины. В полном виде акростихи читаются следующим образом: в "Акафисте" — ДЕЛАЛ ДОКТОР СКОРИНИЧ ФРАНЦИСКУС, а в "Радостях" — ПИСАЛ ДОКТОР СКОРИНИЧ ФРАНЦИСКУС. Позднее "Акафист имени Иисусову" был обнаружен нами в рукописи Волоколамского собр. ГБЛ N 295 (посл. четв. XVI в.) и в старообрядческом гектографе, составленном в 1890 г. рогожским иноком Арсением (ГБЛ, ф. 739, N 68). Чтобы оценить находку, следует упомянуть, что ни в одном описании "Малой подорожной книжицы" (Вильно, ок. 1522 г.), в состав которой входят оба памятника, и ни в одном исследовании, посвященном ей, указанные акростихи не отмечены... Находка открывает новую, доселе неизвестную сторону деятельности белорусского просветителя..." І гэтак далей.

А далей падзеі разгортваліся так.

Брашура з тэзісамі трапляе за мяжу, ускалыхнуўшы вучоны свет заўзятых кніжнікаў на ўсіх кантынентах. Вядомы беларускі скарыназнавец Вітаўт Тумаш па вартасці ацаніў адкрыццё Турылава і вельмі аператыўна падрыхтаваў сваю публікацыю "Акрастыхі Францішка Скарыны", якую змясціў у 16-й кнізе "Запісаў" Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва ў Нью-Йорку. Гэта быў кваліфікаваны каментар дасведчанага скарыназнаўца і публікацыя саміх тэкстаў акафістаў з акравершамі паводле асобніка "Падарожнай кніжкі" з Каралеўскай навуковай бібліятэкі ў Капенгагене.

Але тут была адна выпадковая закавыка. Ленінградская брашура з тэзісамі пазначана 1979 годам (падпісана да друку 17.1.1979), а 16-я кніга нью-йоркскіх "Запісаў" 1978-м. Выходзіць, з фармальнага боку, публікацыя Тумаша папярэднічала публікацыі Турылава. А гэта ўжо далікатная сфера навуковага прыярытэту. Насамрэч жа "Запісы" — штогоднік Інстытута і 16-ты том (за 1978 год) фактычна выйшаў не раней 1979 года (у кнізе ёсць хроніка культурнага жыцця дыяспары за снежань 1978 года). Дата падпісання ў друк не пазначана, на Захадзе, мабыць, няма такой завядзёнкі, хоць сам Скарына любіў урачыста ўшаноўваць выхад сваіх кніг дакладнымі датамі (дзіва што — усе яны былі для яго шчаслівымі першынцамі).

Гэтую храналагічную няўвязку замацавалі скарыназнаўчыя бібліяграфіі, у якіх увесь назапашаны матэрыял, а гэта сотні і тысячы кніг, даследаванняў, артыкулаў, акуратна расстаўлены па гадах. У цэлым гэта зручна і карысна, ды не трэба забываць, што фармальныя даты публікацый не заўсёды адпавядаюць рэальным датам іх выхаду ў свет. Інакш можна лёгка ашукацца.

Вось і ў нядаўняй цікавай кнізе філосафа Уладзіміра Агіевіча "Сімволіка гравюры Скарыны" (Мінск, "Навука і тэхніка", 1999), дзе ўзнята шмат нявырашаных пытанняў скарыназнаўства, даволі настойліва гаворыцца пра прыярытэт В. Тумаша ў адкрыцці Скарынавых акравершаў (с. 67, 83, 87). Аўтар грунтуецца якраз на храналогіі публікацый. Але ж гэта, як мы бачылі, усяго толькі выпадковае непаразуменне.

Сам В. Тумаш, як і належыць вучонаму, на першаадкрыццё ў дадзеным выпадку не прэтэндаваў, паважліва спасылаўся на папярэдніка. Вось пачатак яго публікацыі (с. 99 "Запісаў"): "Як мала яшчэ вывучаная літаратурная спадчына Францішка Скарыны, сьветчыць тое, што толькі зусім нядаўна, пры аглядзе трох рукапісных кнігаў бібліятэкі СССР у Маскве, у ўпісаных у іх акафістах "Яну Хрысціцелю" да "Іменю Ісусаву" былі заўважаныя А. А. Турылавым акрастыхі (акравершы) зь імём доктара Францішка Скарыны. Арыгінальны тэкст гэтых двух акафістаў надрукаваны Скарынам у віленскай Падарожнай Кніжцы 1522 году, дзе кожны зь іх займае па 12 балонак (24 бачынаў).

Хоць мінула больш за дзьвесце гадоў, як выданьнямі доктара Скарыны пачалі цікавіцца навукоўцы, ніхто дагэтуль з тых, каму Падарожная Кніжка была даступная, не падумаў аб тым, што сваё імя доктар Скарына мог увесьці ў гімны-сьпевы акрастыхамі. Не ўсьведамлялі гэтага выяўна й тыя перапісчыкі Скарынавых акафістаў, якія ад XVI ст. іхныя тэксты капіявалі".

І яшчэ на с. 101: "Пасля таго, як знаходка А. А. Турылава зьвярнула ўвагу на сам факт існаваньня ў акафістах акрастыхаў зь імём доктара Скарыны, напэўна, будуць знойдзены іншыя копіі вышэй названых акафістаў у рукапісных кнігах іншых бібліятэчных кнігазбораў".

Так што перад намі прынятая ва ўсім свеце годная навуковая карэктнасць. Да ўсяго трэба адзначыць выдатную аператыўнасць і прафесіяналізм публікацыі В. Тумаша. Баюся памыліцца, але мінскія навукоўцы спахапіліся, здаецца, пазней (маю на ўвазе рэагаванне ў друку). Ці не ўпершыню пра знаходку Турылава больш-менш падрабязна расказала галоўны бібліёграф Дзяржаўнай бібліятэкі СССР В. Дышыневіч у артыкуле "Новае аб Францыску Скарыне" ўжо пасля выхаду ў 1981 годзе згаданай грунтоўнай кнігі "Проблемы научного описания рукописей..." па матэрыялах ленінградскай канферэнцыі 1979 года: "Скарыніяна існуе ўжо больш за сто пяцьдзесят год і налічвае каля паўтары тысячы назваў рознастайных даследаванняў і артыкулаў. І раптам выяўляецца нешта зусім новае — аб занятках Ф. Скарыны гімнаграфіяй!" ("ЛіМ", 2, 4. 1982). У артыкуле высока ацэньвалася адкрыццё Турылава. Гаварылася пра перспектыўнасць новага накірунку ў скарыназнаўстве.

Што да А. Турылава, то ён прадоўжыў распрацоўку гэтай тэмы ў цікавым артыкуле "Новыя спісы гімнаграфічных твораў Ф. Скарыны", змешчаным у юбілейнай кнізе "Франциск Скорина — белорусский гуманист, просветитель, первопечатник" (Мінск, "Вышэйшая школа", 1989). Два высокапрафесійныя артыкулы — "Акраверш у выданнях Ф. Скарыны" і "Гімнаграфічныя творы Ф. Скарыны" — змясціў у энцыклапедычным даведніку "Францыск Скарына і яго час" (1988). Сваё адкрыццё ён датаваў 1979 годам (публікацыя тэзісаў даклада).

Не раз успаміналася імя А. Турылава на абмеркаванні скарынаўскай энцыклапедыі ў 1989 годзе. Вядомы беларусіст Ю. Лабынцаў з захапленнем гаварыў пра тое, што, як высветлілася, слова Скарыны даходзіла нават да глухіх паўночнадзвінскіх скітоў і пашанотна перапісвалася там прыхільнікамі спаконвечнай кніжнай мудрасці. "Трэба сказаць, — падкрэсліў вучоны, — што першапачатковае адкрыццё гэтага феномена належыць маладому, ды ўжо вядомаму нашаму гісторыку-археографу Анатолю Турылаву. Яго адкрыццё — адно з самых, можа быць, прыкметных, таму што яно развенчвае міф пра тое, што Скарына, маўляў, ніякі не пісьменнік. У кожным разе, гэтая знаходка цалкам абвяргае ранейшыя, не надта, праўда, пераканаўчыя высновы пра тое, што Скарына — толькі перакладчык і першадрукар. Ён вядома ж пісьменнік,і дзівосны, выдатны пісьменнік" (Скарыніч, Мн., 1991, Вып. 1, С. 20). Ю. Лабынцаў выказаў здзіўленне, што пра Турылава, "які зрабіў сур'ёзнае адкрыццё ў скарыназнаўстве", няма асобнага артыкула ў скарынаўскай энцыклапедыі. Яго падтрымалі іншыя ўдзельнікі абмеркавання. "Знаходка А. А. Турылавым імянных акравершаў Скарыны — гэта несумненна адно з буйных адкрыццяў, якія былі зроблены ў скарыназнаўстве апошнім часам", — сцвярджаў Іван Саверчанка, які неўзабаве развіў і ўдакладніў палажэнні Турылава ў кнізе "Старажытная паэзія Беларусі: XVI — першая палова XVII ст." (1992).

Шчыруюць над новаадкрытымі тэкстамі і іншыя даследчыкі, аналізуюць, смакуюць, захапляюцца. "Скарынаўская гімнаграфія — сапраўднае свята старабеларускага слова..." (Алена Яскевіч. Творы Ф. Скарыны: Жанравая структура, філасофскія погляды, мастацтва слова. Мн., 1995. С. 116).

Адкрытыя акафісты з акравершамі ўвайшлі ў апошняе навуковае выданне пісьменніцкай спадчыны Скарыны: Францыск Скарына. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія. Мінск, "Навука і тэхніка", 1990. Праўда, імя адкрывальніка нідзе ў каментарыях не згадваецца, як не гаворыцца і пра час і акалічнасці адкрыцця акравершаў. Наогул крыніцазнаўчы каментарый кнігі небагаты. Ды сёння ўжо відаць, што далёка не ўсе арыгінальныя скарынаўскія тэксты туды ўвайшлі (не трапілі, напрыклад, так званыя надпісанні раздзелаў). Так што трэба думаць пра больш поўнае выданне. Між іншым акравершы не кідаюцца ў вочы і ў гэтых "Творах" 1990 года (мабыць, на будучае — пры перавыданні — іх трэба вылучаць шрыфтам).

Прыгадаем напаследак, што адкрыццю Турылава (як канкрэтна гэта было) прысвечаны дзве добразычлівыя старонкі ў папулярнай кнізе Я. Нёміроўскага "По следам Франциска Скорины" (Мінск, "Беларусь", 1990).

Паглыбляючыся ў перыпетыі скарыназнаўства, міжволі думаеш пра тое, якімі пакручастымі шляхамі вяртаецца да нас часам Скарынава слова, яго мудрая цеплыня. У расказанай намі гісторыі, якая распачалася ў слаўным месце Віленскім амаль паўтысячагоддзя таму, перамяшаліся Стары і Новы Свет, глухія скіты на Паўночнай Дзвіне, Мінск, Масква, Ленінград-Пецярбург, Нью-Йорк (Ню-Ёрк), сталіца Дацкага каралеўства Капенгаген. Што ні кажы, а ўсіх нас у рэшце рэшт яднае ісціна, яднае такі зразумелы, блізкі і ўсё яшчэ няўлоўны Скарына.

Пастскрыптум ад Кротуса Генуса, аўтарскага alter ego. Здаецца, усё асноўнае сказана і можна было б на гэтым ставіць кропку, ды аднойчы ўсё-такі я вырашыў праверыць яшчэ раз, калі больш-менш дакладна выйшла 16-я кніга нью-йоркскіх "Запісаў" з публікацыяй В. Тумаша. Балазе, доступ да эміграцыйных выданняў цяпер свабодны. У паўзе паміж іншымі заняткамі гартаю ў акадэмічнай бібліятэцы камплекты нью-йоркскай газеты "Беларус". Гэта дакладны летапіс няпростага жыцця дыяспары. Высветлілася, што "Запісы" (штогоднікі БІНЙМ) выходзілі з вялікім спазненнем. У траўні (маі) 1979 года (N 265 "Беларуса") праанансаваны выхад 15-й кнігі (за 1977 год). Калі я ў спешцы чаго не прапусціў, толькі ў N 286 за люты 1981 года з'явілася паведамленне: "З друку выйшаў чародны нумар беларускаведнага часопісу Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва "Запісы", кніга 16". Відаць, гэта і трэба лічыць фактычнай, рэальнай датай публікацыі В. Тумаша. Публікацыі, паўторым, вельмі грунтоўнай, якая займае сваё важкае месца ў гісторыі скарыназнаўства. Прынамсі, гэта першая публікацыя Скарынавых акравершаў, іх тэкстаў, у сучасным беларускім (ды й не толькі беларускім) друку.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ**





## Памяць пра творцу, напамін пра Беларусь

**У пачатку студзеня ў Нью-Йорку, у галерэі SOHO-20, адкрылася выстава памяці Галіны Русак, слыннай беларускай мастачкі. Экспазіцыя мела рэтраспектыўны характар, у ёй былі палотны 80—90-х гадоў, што ўзнаўляюць вобразы Еўфрасінні Полацкай, Берагіні, куточкі беларускай прыроды, і графічныя работы апошніх гадоў, у якіх асэнсоўваецца месца і роля чалавека ў экасістэме, гібельны ўплыў на наваколле чарнобыльскай катастрофы.**

**Галерэя знаходзіцца ў багемнай часткі Манхэтана, і звычайна ў ёй экспануюцца творчыя набыткі жанчын-мастачак. Галіна Русак амаль штогод паказвала ў SOHO-20 свае жывапісныя і графічныя работы на калектыўных і персанальных выставах (з 1976 года). Народжаная ў Наваградку, наша зямлячка ў падлеткавым узросце трапіла ў Злучаныя Штаты, вышэйшую адукацыю**



**набыла ў Ратгерскім універсітэце, прычым двойчы. У 1956 годзе стала магістрам бібліятэчных навук, у 1976 — магістрам гісторыі мастацтва. Заняткі выяўленчым мастацтвам Галіна Русак паспяхова спалучала з навуковымі даследаваннямі і адміністрацыйнай кар'ерай: яна была прафесарам, яе апошняя службовая пасада — дырэктар мастацкай бібліятэкі Ратгерскага ўніверсітэта.**

**Натхняла мастачку на творчую працу любоў да роднай зямлі — да Беларусі. Яна глыбока цікавілася беларускай гісторыяй і мастацтвам — традыцыйным народным і сучасным прафесійным. Пісала артыкулы для англамоўных выданняў, выступала на розных сімпозіумах і канферэнцыях — ёй было вельмі істотна паказаць свету сваю Бацькаўшчыну багатай талентамі і мастацкімі скарбамі. А фарбы давалі магчымасць на палатне або паперы выявіць і сваю замілаванасць, і сваю тугу, паразважаць над лёсам народа і ўласнымі пакутамі. Графіка моцна захапіла яе ў апошнія гады, яна давала шырокія магчымасці для варыяцый на фальклорныя тэмы, для кампазіцый-разваг пра наступствы для нацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

**Значную частку арганізацыйных клопатаў пра выставу ўзялі на сябе дочкі Галіны Русак — Наталля і Людміла. На прэзентацыю выставы было запрошана амаль 600 асоб — сяброўкі-мастачкі з галерэі SOHO-20 і з суполкі жанчын-мастачак каледжа Даглас і ўніверсітэта Ратгерс, калегі па ўніверсітэце і бібліятэцы, актывісты беларускіх грамадскіх арганізацый ЗША, родныя і блізкія. Запрашэнні прыйшлі і ў Беларусь: мастакам і навукоўцам, з кім Галіна Русак была ў сталых стасунках, з кім сустракалася падчас наведвання Бацькаўшчыны, з кім марыла зладзіць у Мінску выставу сваіх твораў на роднай зямлі... Цяпер клопат пра будучую выставу Галіны Русак у Мінску кладзецца на яе сяброў і прыхільнікаў.**

**В. Т.**

## У гасцях — чалавек з легенды

**Не забывае Беларусь, роднае Палессе легендарны разведчык мінулай вайны, цяпер масквіч Іван Андрэевіч Колас. Гэта ён каардынаваў ад Савецкай Арміі Варшаўскае паўстанне ў жніўні 1944 года, выкінуты з парашутам з самалёта прама ў палаючы горад. Выканаўшы заданне, вярнуўся да сваіх і быў прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза, але па шэрагу кан'юнктурных прычын Залатую Зорку не атрымаў. Толькі праз паўстагоддзя, у 1944 годзе ён стаў Героем Расіі.**

**У пасляваенны час І.Колас стаў пісьменнікам, выдаў шэраг кніг успамінаў, роздумаў, якія выйшлі ў Маскве і ў Мінску. У адной з апошніх, якая называецца *"Гаротны роздум франтавіка"*, ён шмат месца ўдзяляе сучаснаму жыццю роднага Лельчыцкага раёна, яго бедам і праблемам, галоўным чынам у духоўным, маральным плане.**

**З'яўляючыся старшынёй маскоўскай ветэранскай арганізацыі пісьменнікаў, Іван Андрэевіч вядзе вялікую грамадскую работу па пошуку звестак аб загінуўшых пісьменніках — беларусах. Прыехаўшы ў чарговы раз на Беларусь, ён сустракаўся з моладдзю Лельчыцкага раёна, студэнтамі і школьнікамі сталіцы, расказваў аб гераічным мінулым...**

**Васіль ФЕРАНЦ**

# ХАБАР

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

Злезла я з машыны каля Дома ўрада. Парадавалася, што Дом уцалеў. Але ўбачыла побач руіны — заплакала. Хто не бачыў, той не можа ўявіць, якое гэта страшэннае відовішча — ушчэнт разбураны вялікі горад. Наш горад, сталіца, якой мы ганарыліся. І універсітэт разбураны... Дзе ж ён? Не, уцалеў адзін корпус, у рыштаваннях стаяў, вокны шклілі ў ім, і бялілі. Пасля даведалася: гестапа тут размяшчалася, людзей каталі; хлопцы нас палохалі, што здані мёртвых па начах з падвалаў выходзяць. Там жа, дзе цяпер універсітэцкі двор, два доўгія баракі стаялі, новыя, немцы іх збудавалі, на адным яшчэ краты захаваліся, арыштаваных трымалі.

На бараку аб'ява вісела аб наборы студэнтаў, больш падрабязная, чым у газеце: калі прымаюцца заявы, калі экзамены... Рана я прыехала: экзамен праз тыдзень — па аб'яве. А быў ужо позні вечар і дзверы пад шыльдай зачыненыя. Куды дзявацца? Страшна ж пасярод руін. Сцямнее — жах. А тут людзі ходзяць, у барак, што з кратамі, дзеці забеглі, жанчыны пайшлі. А перад гэтым баракам лавачкі перад уваходам. На іх легчы можна. Вырашыла: тут я заначую, бліжэй да людзей, ды не абыякіх — універсітэцкіх. Спачатку сядзела. Праснака пажавала. А калі сцямнела, улеглася. Торбу пад галаву, але аборкі накруціла на руку, каб не сцягнулі, калі засну. І чаравікі схавала ў торбу, здымуць жа — і не пачую. Зморанай, падняласа ж чуць світала, хутка заснула. Але ночы ўжо халодныя былі, замерзла, ногі без панчох стылі. Круцілася, курчылася, у камячок сціскалася, ногі хавала пад спадніцу, доўгая яна была, матчына, але і спадніца не саграевала. Падхапілася, ляпала рукамі па плячах, прысядала. Зайздросна глядзела на вокны ў суседнім бараку, на тыя, дзе так прывабна праз шчыліны святламаскіроўкі прасочваліся цёплыя агеньчыкі. Паўжыцця аддала б, каб апынуцца каля гэтых лямпачак. Можа, пайсці, папрасіца, каб упусцілі? Не! Не! Там, напэўна ж, прафесары жывуць.

Зноў лягла і зноў заснула. Прачнулася ад таго, што чыясь рука дакранулася да майго пляча. Падхапілася, спалохана. Перада мной стаяў чалавек з кійком. Свяціў месячык.

"Ты чаго ляжыш тут?"

"А я, дзядзечка, прыехала паступаць вучыцца".

"Да нас?"

"Да вас. А вы тут? Прафесар? Я — на матэматыку".

"Да мяне, значыцца. Толькі я не прафесар, а ўсяго дацэнт даваенны. Імя маё Андрэй Пятровіч..."

"І я Пятроўна".

"Дакументы падала?"

"Я прывезла іх. Таму і прыехала так рана."

"Здалёк?"

"Са Старобіна. Толькі вёска наша бліжэй да Любаня..."

"Дык мы ж, лічы, землякі, я з Глуска."

"Я думала, пехатой буду ісці, таму так рана. А мяне падвезлі ваенныя..."

"Ну, вось што, Пятроўна... — ён і пасля, на лекцыях, называў мяне Пятроўнай — жартаўнік! Хлопцы смяяліся... — Да раніцы ты тут скачанееш. І пазбавімся мы сваёй Кавалеўскай. Хадзем да мяне ў пакой, там цяплей."

"Ой!"

"Чаго ты войкаеш?"

"Баюся."

Ён засмяяўся:

"Колькі табе гадоў? Дзесяцігодку вунь калі скончыла! Не бойся. У мяне жонка і дзіця... Пятрок мой маленькі..."

І прывёў мяне ў той барак, дзе яшчэ на некаторых вокнах краты не знялі. Пакойчык патыхнуў на мяне цяплом і чалавечым жытлом. Ён быў невялічкі, пакойчык, але без мэблі здаўся прасторным, як хата наша. Не, мэбля была, ложак жалезны, бальнічны, столік маленькі і адно крэсла венскае, так іх называлі, з выгнутай спінкай. Але найбольшую ўтульнасць пакою надавала грубка кафельная, кафель — з адмысловым узорам, блакітны. Ад яе патыхала цяплом, патрэбы паліць не было яшчэ, але ж гатавалі харч у ёй... і сушылі пялёнкі... Я ж на другі дзень хадзіла ў руіны і збірала трэскі ад патрушчаных бомбамі сцен, дзвярэй, акон... Ды, можа, не ад грубкі патыхнула ўтульнасцю, чалавечым жытлом — не здзіўляйцеся, ад вяровачкі, на якой віселі дзіцячыя штонікі, пялёначкі, жаночая сарочка, штосьці яшчэ... Не, і не гэта! Не рэчы! Жывы чалавек... чалавечак, дзіця. І маці, яна насіла малога на руках, гушкала, відаць, толькі карміла грудзьмі, кофтачка была расшпілена. Адняла хлопчыка ад грудзей, і ён плакаў, або захліпаўся.

"Во, Марына, прывёў табе госцю... Калега мая — будучы вялікі матэматык."

"Ой, што вы, Андрэй Пятровіч! Ці паступлю?"

"Паступіш. Па табе бачу."

Дзіця плакала. І гаспадыні было не да мяне. Няпрошаная госця, падумала я. Але чамусь успомнілася мне блакада, голад... як дзеці там плакалі. І я сказала:

"Можа, ён есці хоча?"

"Можа й хоча. Пуста ў мяне. Што я піла! Малака сёння і на рынку не было."

"А ў мяне ёсць біклажка малака. Думаю, не скіслася, раніцою даілі Зорку."

Злілі смятанку, масла туды трошачкі ўкінулі, падагрэлі ў конаўцы над карасінавай лямпай. Божа мой! Як піў тлустае малако галодны Петрусёк! О, гэта забыць нельга! Адразу змоўк, загудзеў, заўсміхаўся.

І маці засмяялася. І гэтак ласкава глядзела на мяне. Выявілася, што не Андрэй Пятровіч убачыў мяне на лаўцы — яна, Марына Якімаўна: выбягала ў суседні барак. І сказала мужу: "Ідзі, забяры дзяўчо, акалее за ноч". Добрая яна была. За той вечар мы парадніліся. Я дастала ўсе прыпасы свае — і праснакі, і сыр, і кашу прасяную ў вузялку, і гурочкі, не помню што там яшчэ ў мяне было, дваццаць жа гадоў прайшло. Петрусёк спаў, а мы сядзелі... мы з Марынай Якімаўнай на ложку, а Андрэй Пятровіч на крэсле, і пошапкі, каб не разбудзіць малога, расказвалі... я — ім, яны — мне, як пражылі вайну.

Андрэя Пятровіча цяжка параніла яшчэ ў сорак першым пры абароне Масквы. Эвакуіравалі ў Куйбышаў. Там, калі ачуняў, рабіў у мясцовым педінстытуце. Там пазнаёміўся з Марынай. Калі наш універсітэт аднавіў дзейнасць пад Масквой, дацэнта даваеннага знайшлі і паклікалі ў альма-матэр.

Гаспадары прасілі прабачэння, што мусяць палажыць мяне на падлозе. О божа! Ды абы пад крышай і побач з добрымі людзьмі! Не пад асеннім небам. Праўда, мышы пішчэлі пад падлогай, я іх баюся, ды Андрэй Пятровіч сказаў, што ўсе шчыліны ён забіў бетонам, корпус жа вучэбны рамантавалі. І спала я, што пяньку прадаўшы — так дзед мой казаў.

Цэлы тыдзень пражыла я ў гэтых добрых людзей. Раніцою бегала на вакзал малачка малому купіць, не заўсёды ўдавалася, з'елі немцы каровак вакол Мінска. Ды не толькі там. У нашых балотах іх мала засталося; гэта мы ўпільнавалі нашу Зорку.

Удзень я рыхтавалася да экзаменаў, у дацэнта трохі было кніжак. А ўвечары Андрэй Пятровіч экзаменаваў. І хваліў: "Малайчына ты, Надзя! За вайну нічога не забылася". У мяне выраслі крылы: расла ўпэўненасць — паступлю!

Той ваенны экзамен не падобны на сённяшні. Калі дачку трэба пасылаць у гэтым годзе, то я думаю, што мой экзамен больш правільны быў. Трое выкладчыкаў сядзелі ў аўдыторыі. А нас было адзінаццаць, восем вайскоўцаў, партызан, усе інваліды: хто без рукі, хто без нагі, без вока адзін, і дзяўчына ў вайсковай форме, таксама параненая; нас двое і было толькі — дзяўчат, я і яна, Вера Гаркун, мы з ёй сяброўкамі сталі — вадой не разліць, дагэтуль перапісваемся, яна ў Віцебску. Андрэй Пятровіч даў задачу па геаметрыі. Для мяне — семкі, можа, за якія дваццаць мінут рашыла. Ён узяў ад мяне лісток і нахмурыўся, я трохі не самлела: не так? Але ён хмурыўся, што я хлопцам паказвала рашэнне. Задачу рашылі трое ці чацвёра ўсяго, забыліся хлопчыкі матэматыку, не да яе было. Тых, хто не адолеў задачу, вусна "ганяў". "Плавалі" хлопцы, але чацвёркі ўсе атрымалі. А пасля было заданне па літаратуры: апісаць самы яркі эпізод са свайго ваеннага жыцця. Я блакаду апісала. І нарабіла граматычных памылак, нямнога: штук пяць уляпіла. Пасля Міхася Рыгоравіча Андрэй Пятровіч прачытаў маё сачыненне і дакорліва пакруціў галавой, яшчэ раз спалохаўшы мяне. Ды Ларчанка пахваліў сачыненне: вобразна.

На другі дзень загад павесілі: нашы, з групы нашай, усе паступілі. А каго не прынялі? Пасля казалі: чалавек пяць з Заходняй; у некаторых веды яшчэ польскія, у іншых — сацыяльнае становішча бацькоў сумненне выклікала: кулакі!

На крыллях ляцела я дадому. Ляцела... На машыну не села. Цягнік чакала суткі. І ў Асіповічах амаль суткі сядзела, бо з таварнага нас прагналі. Тады многа жанок... удовы, салдаткі... у Заходнюю ехалі, каб выменяць якую напратку на хлеб. Галадалі людзі ў зруйнаваных раёнах.

На крыллях я ляцела ад Слуцка. Падбілася да знямогі. Але ўскочыла ў хату, схапіла дзеда Восіпа за рукі і закружыла па хаце — во ашалела ад шчасця дзеўка!

— Прынялі! Прынялі! Прынялі!

Дзед ажно слязу пусціў, таксама ад шчасця. А Паўлік "ура" крычаў. І тут жа ўсіх суседзяў апавясціў, цётак маіх. Людзі, можа, не за мяне радаваліся — за тое, што жыццё наладжваецца: Надзька ў ніверсет паступіла. І плакалі многія, бо не ведалі, што з іх сынамі, не пісалі яны, хлопцы тыя, што са мной школу канчалі, большасці з іх не было ўжо на свеце, пасля даведаліся.

Чужым я чамусьці не расказала пра Андрэя Пятровіча і Марыну Якімаўну — што тыдзень жыла ў іх. Саромелася? Не. Баялася, што не зразумеюць, падумаюць, што я іх раней ведала, можа, сваякі якія — глускія ж, суседзі — і яны ўладзілі мяне па блату. А дзеду, Паўліку ўсё расказала, цэлы вечар расказвала. Дзед глыбока задумаўся, а пасля і кажа:

"Чым жа нам аддзячыць гэтых добрых людзей?"

"Чым ты іх аддзячыш? Што ў нас ёсць?" — Павел у свае чатырнаццаць гадоў як гаспадар разважаў.

"Можа, кароўку ім адвесці?"

Павел зарагатаў. За ім — і я: уявіла, як бы мы прывялі Зорку ва ўніверсітэт, дзе паставілі б яе.

Дзед пакрыўдзіўся на наш смех.

"Што з вамі, малакасосамі, гаварыць?"

— Аднак загаварыла я вас, госці нашы дарагія. Давайце вып'ем. За што? Скажыце, Леанід Іванавіч, вы ўмееце тосты казаць, — звярнулася Надзея Пятроўна да свайго дырэктара.

— І гэта ўсё? — расчаравана спытаў Аляксей Кулакоўскі. — Фіналу апавесці няма.

— Ёсць фінал.

— Дык расказвайце. Во тады вып'ем — за споведзь вашу.

Настаўніца сарамліва пасміхнулася, выпіла глыток вады.

— Чарачку выпіла і ўжо сушыць. Як вы, мужчынкі, п'яце гэную атруту?

— Надзя! Не вядзі антыалкагольную прапаганду! — гукнуў да яе малады калега і кульнуў паўшклянкі самагонкі. — Ух, смакацішча!

— Васіль Іванавіч! Не перапыняй мяне.

— Маўчу, што рыба. Давай! "Еще одно, последнее сказанье..." Не ўсе і нашы ведаюць яго. А госці сказалі, што гэта хлеб іх. У кожнага свой хлеб. Пасля я вам раскажу пэрліны некаторых сачыненняў. Жываты надарвеце.

— Не помню, колькі я правучылася, тыдні два, здаецца. Лісце ўжо з дрэў апала, начныя замаразкі пачаліся. Немцы больш не бамбілі Мінск, — далёка, нашы на Вісле стаялі. Хоць у снежні быў яшчэ налёт — на таварную станцыю.

Я на лекцыі сядзела па фізіцы. Ціхенька адчыніліся дзверы, і я ўбачыла Марыну Якімаўну. Яна паманіла мяне пальцам. Я чамусьці вельмі спалохалася. Папрасіла дазволу ў выкладчыка, выйшла.

"Што здарылася, Марына Якімаўна?"

"Цябе Андрэй Пятровіч просіць, — а твар яе нейкі незвычайны — як зморшчаны ці то ад смеху, ці ад болю. — Убачыш — здзівішся."

Не пачуеш, а ўбачыш... Што я магу ўбачыць у іх маленькім пакойчыку? Жыла я ў суседнім бараку, мне, дачцэ партызана, сіраце, далі інтэрнат, вялікая раскоша па тым часе. Абышлі корпус. І я... убачыла і траха не самлела. Каля ганка таго барака, дзе жылі мае дабрадзеі, стаяла наша Зорка. Хіба магла я не пазнаць яе? І карова мяне пазнала — прыветліва мукнула. Ногі ў мяне падкасіліся. Ох, дзед, ох, дзед! Не помню, што я казала Марыне Якімаўне. Не помню, як увайшла ў пакой. Ля дзвярэй пачула раздражнёны голас Андрэя Пятровіча:

"Дзед! Ды мяне з работы выганяць. Калі хочаш, у турму пасадзяць — за хабар."

"За што ж вас садзіць? Не вы мне даяце — я вам. Дык няхай мяне пасадзяць..."

Такая логіка была ў майго дзеда: судзіць трэба не таго, хто бярэ, а таго, хто дае.

І плакаць хацелася, і смяяцца.

Андрэй Пятровіч, расчырванелы, ускудлачаны, адразу накінуўся на мяне, ледзь не з кулакамі.

"Твая ідэя?"

"Што вы, Андрэй Пятровіч" Хіба я магла! Хіба так я хацела аддзячыць. Вучобай"!

"Ды сам я, сыночак, сам. Са мной Паўлік сварыўся, ды я не паслухаўся."

"Скажы свайму дзеду, каб зараз жа вёў сваю карову назад! І нікому ні слова. Смяяцца з вас будуць."

"Ох, дзед! Што ты робіш са мной!" — заплакала я.

А дзед узлаваўся:

"А ты маўчы. Не з табой размаўляю! З чалавекам!"

"Суровы вы дзед!"

"Я гаспадар у хаце. Не яна!"

"Колькі дзён вы вялі яе, кароўку?" — спытала Марына Якімаўна.

"У панядзелак выйшлі..."

"А сёння субота! О, божа!"

"Карміць цяжка было, пажухла трава", — і, як знясілены, дзед Восіп раптам апусціўся на падлогу. Блага яму? Не, дастаў з кішэні кісет. І тады я сказала з не меншай строгасцю:

"Не куры! Дзіця ў хаце."

Пятрок прачнуўся і гудзеў, калі дарослыя размаўлялі, ён, як бы слухаючы, заўсёды гудзеў. Учора пісьмо ад яго атрымала з Ленінграда, на флоце служыць. Ён мяне хроснай называе:

— Дык, можа, Пятроўна, ты і хрысціла яго? Бога ты любіш, — выгукнуў п'янаваты калега.

— Выдумаеш ты, Васіль Іванавіч! Я нянчыла дзіця, пакуль вучылася. Гуляла з ім, калі падрос. І пасля... Пятрокшкольнік канікулы ў мяне праводзіў. Не забываюся іх я, а яны мяне. Хварэе прафесар. Раны звонку гояцца, а нутраныя органы аслабляюць... сэрца, сасуды... Але не перапыняй ты мяне, Васіль. А то я і так расцягнула свой расказ ад Мінска да Старобіна.

— Расказвайце, расказвайце, — папрасіў Кулакоўскі.

— Дзед палажыў кісет на калені і панура змоўк. Мне да сардэчнага болю стала шкада яго.

"Так што вядзі сваю кароўку назад, дзед. Толькі без абеду мы цябе не адпусцім", — добрым голасам сказаў Андрэй Пятровіч. І ў дзеда голас змяніўся: скарыўся дзед лёсу свайму.

"Надзька! Ідзі падаі Зорку. Я сёння не даіў. Каб дзіцяці малачко было."

Добра помню гэтыя яго словы, бо падаіла я карову, паплакала пад ёй — схуднела нябога за далёкую дарогу, бакі ўваліліся.

За абедам дзед мала еў і на пытанні Андрэя Пятровіча адказваў коратка, хоць дома чалавек ён быў гаваркі.

На развітанне нізка пакланіўся гаспадыні, здароўя сыночку пажадаў.

І павёў мой дзед Восіп кароўку назад, дадому. Я ажно да Сенніцы яго праводзіла. Назад ідучы, наплакалася...

— Смешна? — спытала Надзея Пятроўна. — Цяпер я смяюся...

Адна маладзічка хіхікнула, але тут жа асеклася. Астатнія застольнікі маўчалі, нават выпіць ніхто не прапаноўваў.

У мяне, чалавека сентыментальнага, вочы набрынялі слязьмі.

Пасля мы з Аляксеем дзялілі сюжэты. Я прапанаваў карову яму.

— Ды не, братачка, я загарэўся пра шахту напісаць, — мы спускаліся ў першую шахту. — Бяры ты.

Ды не мая гэта тэма была ў той час. Я пісаў эпічнае "Сэрца на далоні".

*Снежань 2000 г.*

# Вяртанне ў маленства

## ЛІСТ

Дарагі Іван Пятровіч!

Пішу Вам пісьмо праз газету. Хачу публічна прызнацца ў любові да Вас. Юбілей Ваш толькі нагода, а я кожны дзень помню і не стамлюся цешыцца тым, што жыву з Вамі ў адзін час, што магу пазваніць Вам, убачыцца з Вамі.

Калі Вы сталі членам Саюза пісьменнікаў, я пайшоў у першы клас. Крыху пазней вясковая настаўніца Аляксандра Лявонаўна чытала нам услых Вашу "Глыбокую плынь". І мы, даверлівыя шпачкі, з адкрытымі роцікамі лавілі кожнае слова з Вашай кніжкі. Словы тыя былі зразумелыя нам, бо і мы, і ўсе нашы шоўкаўцы ўжывалі іх штодзённа, як бульбу і расол.

Ці ж думаў тады я, лаптышоў сын, што надыдуць часіны і мы будзем жыць з Вамі, мой Настаўнік, на адной вуліцы ў Мінску, што два з паловай гады будзем разам працаваць у Саюзе пісьменнікаў, што я буду мець Вашы кнігі з аўтографамі. Божа! Я ўдзячны табе за такія падарункі, за такое радаснае шчасце.

Мілы мой Зямляк Іван Пятровіч! Я не збіраюся даваць ацэнку зробленага Вамі, пражытага і створанага за пісьмовым сталом. Гэта бліскуча робяць прафесіяналы. І яны, як прызнаўся адзін вялікі празаік другому вялікаму празаіку, ці не стаміліся Вас хваліць. Хай сабе. Прыйдуць новыя крытыкі і ў новым стагоддзі па-новаму адкрыюць Вас, шчырага і мудрага летапісца нашай явы. Веру ў гэта, як веру і ў тое, што напісанае Вамі, Ваша імя будуць жыць вечна поруч з гісторыяй Беларусі.

Пра адну Вашу кніжку ўсё-ткі хачу сказаць. Яна ўжо год ляжыць на маім рабочым стале, зачытаная і жаданая. Я знарок трымаю яе навідавоку, бо як толькі прыязджае ў госці ўнучка Маша, мы разам чытаем. Маша ведае літары, аб'яўляе па складах назву: "Про-мні ма-лен-ства". Ёй падабаецца, што на вокладцы хлопчык з яблыкам і дзядзька з гармонікам, што чорны коцік-вуркоцік ходзіць па акне, а вакол — сонечныя сланечнікі.

Вы і самі, Іван Пятровіч, не хаваеце радасці ад сустрэчы са сваімі "Промнямі". Я ж бачыў, як Вы трымалі яе ў руках, як падзіцячы свяціліся Вашы вочы. Вы нават у аўтографе не схавалі ўцехі: "Многа маю выданняў тоўстых раманаў, але гэтая кніжачка прынесла асаблівую радасць. Ты, Уладзімір, некалі папрасіў мяне напісаць для "Вясёлкі", і я выканаў просьбу. Так набралася промняў майго маленства на цэлую кніжку для дзяцей..."

Я б раіў пачытаць гэту кніжку ўсім дзеткам і дарослым. Яна — жыццёвы падручнік. З яго можна даведацца, як хлопчык Іванка ў свае чатыры гады "браў" першую вышыню, чаму нельга красці чужое, дзе знаходзіцца край свету, як можна пераадолець страх, які кошт бацькавай дзягі...

Я б раіў пачытаць Вашу кнігу сябрам-пісьменнікам, бо ў ёй, як ні ў якіх дзённіках, як ні ў якіх раманах і артыкулах, адкрываюцца вытокі Вашай жыццёвай плыні, глыбокай і плённай. У апавяданнях для дзяцей Вы ў новай якасці — мудры дзед, вопытны педагог, тонкі псіхолаг, верны сябар дзятвы.

Вашы "Промні", Іван Пятровіч, надаюць мне, як рэдактару "Вясёлкі", аптымізму і веры ў тое, што Вы абавязкова напішаце ў наш часопіс свае новыя апавяданні. А ведаеце адкуль і ў чым мае спадзяванні? Нядаўна я сустрэў на вуліцы Вашу Алесю з сынам Іванкам. На яго божым тварыку гарэлі ад уцехі вочкі: што ён з мамай, што наўкол — машыны, дрэвы, галубы. Ён, здаецца, радаваўся сустрэчы і са мной, як бы ведаў, што я бязмежна люблю вось такіх кемлівых, маленькіх мужычкоў. Няўжо Вы не напішаце пра гэтага хлопчыка, свайго ўнука-цёзку Іванку?

Шаноўны Іван Пятровіч! У гэтыя дні Вы абсыпаны тэлеграмамі. Чырванее тэлефон ад віншавальных званкоў. Сёння Вы ў вялікай пашане ўладаў, сяброў, радні, землякоў, чытачоў, бо Вы — юбіляр. Ды я, паверце, маю сваю перавагу перад усімі. Я не забудуся Вас любіць, шанаваць, помніць, ганарыцца Вамі і пасля юбілейных дзён. І ва ўсе дні, пакуль будзе гарэць мая свечка жыцця. Агню гэтай пашаны не дадуць згаснуць нашы з Нінай дзеці Ігар, Марына, нашы ўнукі Антон і Маша.

Здароўя Вам, а ўсё астатняе, як кажуць мае аўцюкоўцы, куды яно дзенецца.

**Ваш Уладзімір ЛІПСКІ**



*Дэкада латышскай літаратуры ў Беларусі, 1959 г.*



*І. Шамякін сярод студэнтаў БДУ, 1979 г.*

*Фота Ул. КРУКА*

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# Вера ў жыццё

Шаноўнаму баявому сябру, былому франтавіку і цудоўнаму пісьменніку — Шамякіну Івану Пятровічу — у дзень яго слаўнага васьмідзесяцігоддзя.

***Даўно ўжо ведаю цябе я —***
***І не са слоў і кніг тваіх:***
***Адна шалёная завея***
***Была нам цяжбай на дваіх.***

***Магла табе на полі бою***
***Патрапіць куля проста ў скронь.***
***Ты ўвагі не звяртаў на тое —***
***Якое цвету быў агонь:***

***Чырвонай, а ці чорнай фарбай***
***Гарэў ён звонку і знутры.***

***Ты толькі бачыў, што абшар быў***
***З блакітным колерам зары.***

***Сцяг баявы над полем рэяў,***
***А бой да ночы не сціхаў,***
***І гук зенітнай батарэі***
***Яго ў паветры калыхаў.***

***Ты адчуваў усёй душою,***
***Што ў тым няма тваёй віны,***
***Што разам з роднаю зямлёю***
***Льюць кроў там і яе сыны.***

***Сама тады нам атмасфера***
***Ўсяляла ў душы пачуццё,***
***Што ёсць, жыве ў салдата вера***
***Ў бяссмерце, ў вечнае жыццё.***

***Хоць зведалі мы жахаў многа***
***І на вайне й пасля яе, —***
***Вяртала дальняя дарога***
***Здалёк нас у краі свае.***

***І тут пасля вайны пры стрэчах***
***Сярод сваіх густых бароў***
***Ты змог у дрэваў, ніў і рэчак***
***Падслухаць шмат сардэчных слоў.***

***І голас птушак пры даліне,***
***І чайкі плач, што песні гож,***
***І цеплыню глыбокай плыні, —***
***Якую нёс у мора Сож.***

***Душа прымала ўсё святое,***
***Чым жыў і дыхаў наш народ.***
***І ў кнігах стала явай тое,***
***Што сам выношваў многа год.***

***Як бы ні біла горыч злая,***
***Не азмрачала пачуццё, —***
***Салдат ніколі не губляе***
***Спрадвечнай веры ў жыццё!***

Паўлюк ПРАНУЗА

# Сваім цябе прызнаў народ

Паважанаму Івану Пятровічу Шамякіну — вернаму сыну мужнага беларускага народа — у дзень слаўнага юбілею — 80 гадоў.

***Вядомы ты усёй краіне,***
***Сваім цябе прызнаў народ.***
***Мы глыбіню "Глыбокай плыні"***
***Яшчэ даследуем штогод.***

***У дні ваеннага нянасця***
***За Беларусь прымаў ты бой.***
***Заўсёды жыў "Трывожным шчасцем"***
***І зараз на перадавой.***

***Жыцця пашырыў краявіды,***
***Угледзеў: "Вось ён,наш народ!***
***"Атланты і карыятыды"***
***Ўім не знікаюць з рода ў род".***

***Табой з нас кожны ганарыцца —***
***Ўладар пачуццяў нашых, дум.***
***З тваёй празрыстае крыніцы***
***Мы п'ём чысцюткую ваду.***

***З гадоў маленства і па сёння***
***Сумленна здолеў ты пражыць.***
***Гатоў я "Сэрца на далоні"***
***Тваё з даверам палажыць.***

***У тваім сэрцы — сіла лекаў.***
***(Прызнацца шчыра мне дазволь.)***
***Адчуеш гора чалавека,***
***Рашаеш ты: "Вазьму твой боль".***

***Жывём трывожна ў век суровы,***
***Падзей у Косава, Чачні,***
***Перасцярогі чуем словы:***
***— Сябры! "Не верце цішыні!"***

***Жывеш нялёгка, ды ў пашане,***
***І межаў ёй нідзе няма.***
***Цябе вітаюць дабрушане***
***І вёска родная — Карма.***

***Трымайся, слаўны імяніннік,***
***Гадоў пражытых не лічы.***
***Ад Брэста і да Сахаліна***
***Тваё сябры і чытачы.***

***Здароўя, шчасця і натхнення***
***Жадаем шчыра, ад душы.***
***Хай збудуцца твае імкненні,***
***На радасць нам пішы, пішы.***

МУЗЫКА

# "Дзякуй беларусам!"

***Напярэдадні калядных святаў у Санкт-Пецярбургу адбыўся III Міжнародны конкурс выканаўцаў новай дзіцячай песні "Дзень нараджэння". Ён праходзіў у прэстыжным Гігант-Холе — суперсучаснай канцэртнай зале з выдатнай акустыкай, аўдыётэхнікай і святлом, з вялізнымі тэлевізійнымі маніторамі, фантанамі і феерверкамі.***

Аўтар ідэі — таленавіты кампазітар Яўгенія Зарыцкая, якая кіруе дзіцячай студыяй "Саманта". Яе выхаванцы паказалі ўдзельнікам конкурсу і гледачам цудоўнае тэатралізаванае дзеянне, сапраўдную містэрыю "Дзеці XXI *стагоддзя*", дзе юныя артысты спявалі, танцавалі, выконвалі нескладаныя драматычныя ролі. Спектакль упрыгожылі цудоўныя касцюмы, спецэфекты, запамінальная музыка; быў прадэманстраваны высокі ўзровень развіцця расійскай дзіцячай эстрады (якога беларускім студыям, на жаль, дасягнуць вельмі цяжка з прычыны дрэннага матэрыяльнага забеспячэння).

Конкурс праходзіў у 2 туры. У першым (праслухоўванне аўдыёкасет) удзельнічала ашаламляльная колькасць спевакоў — 1300 чалавек! У другім туры засталіся толькі 44 канкурсанты, якія і працягвалі спаборніцтва. Яны прыехалі з Масквы, Адэсы, Новарасійска, Прыморска, Адзінцова, Сочы, Тыраспаля, з рэспублікі Саха-Якуція, гарадоў Прыбалтыкі, Малдовы, Украіны, а таксама з Беларусі: Гродна, Ліды, Маладзечна і Слоніма. Канкурэнцыя была надзвычай жорсткая. бо ўсе маладыя спевакі мелі вялікую творчую практыку, перамагалі на іншых фестывалях.

Журы складалася з 9 чалавек дарослых і 5 дзяцей. Ім давялося вырашаць складаную задачу, бо гэта быў конкурс не толькі дзіцячых галасоў, ацэньваўся сінтэз музыкі, вершаў, аранжыровкі, сцэнічнага вобраза і якасці ўвасаблення музычнай ідэі.

Запамінальнымі атрымаліся нумары прызнаных майстроў дзіцячай песні — Ані Сцяпанавай з Адэсы (неаднаразова ўдзельнічала ў тэлепраграме "Ранішняя зорка"), Тані Тэр-Пагасян з Малдовы, ансамбля "Спяваючыя гарошыны" з Калінінграда.

Нашы землякі выступалі даволі паспяхова, не губляліся сярод тытулаваных калег з іншых краін, хаця калі-нікалі адчувалася адсутнасць вопыту ўдзелу ў такіх буйных мерапрыемствах.

Парадавала перамога Юлі Пахомавай з Ліды, якая заняла I месца ў старэйшай групе.

Варта адзначыць майстэрства юных спевакоў з маладзечанскага эстраднага класа: Насці Жук, Сашы Салаёўва, Каці Станкевіч і Вікі Падвербнай, для якіх удзел у конкурсе стаўся першай калектыўнай паездкай. Яны і не марылі пра свой поспех на такім фэсце! Зноў дзіцячы эстрадны клас пад кіраўніцтвам Алены Атрашкевіч і Пятра Туронка прынёс перамогу і вядомасць не толькі гораду Маладзечна, але і ўсёй Беларусі (прыгадаем удалае выступленне Насці Жук і Сашы Салаўёва на конкурсе "Рождественские каникулы", які праходзіў летась у маскоўскай канцэртнай зале "Расія"). Яскравыя галасы "маладзечанскіх зорачак" уразілі ўдзельнікаў і арганізатараў конкурсу і былі вызначаны як адны з лепшых. Дзеці выконвалі песні кампазітара Алены Атрашкевіч, якія ствараліся спецыяльна для іх і таму дакладна адпавядалі індывідуальнасцям юных артыстаў.

Першы конкурсны дзень у малодшай групе адкрыла Каця Станкевіч з песняй "Модніца" (словы Наталлі Танюкевіч), якая літаральна "запаліла" публіку гарэзлівасцю і весялосцю. Зала была ў захапленні ад вобраза "маленькай жанчыны" на сцэне, ад жадання Каці ўпэўніць прысутных у сваёй "дарасласці"! Прыцягнула ўвагу ігра на саксафоне і кларнеце Насці Жук і Сашы Салаўёва. Каця атрымала спецыяльны прыз ад гарадскога аддзела адукацыі, Віка Падвербная з песняй "Мая зямля" (словы Людмілы Ляшчэвіч) пакарыла сэрцы слухачоў асаблівым натхненнем, узнёсласцю і цеплынёй. Спецыяльна для конкурсу Віка абрала цудоўны нацыянальны касцюм, што надало выступленню асаблівую выразнасць. Віка была адзначана журы, атрымала прызы аддзела адукацыі і Саюза кампазітараў Санкт-Пецярбурга.

У падгрупе ўдзельнікаў ва ўзросце 10—16 гадоў выступіла самая спанатраная прадстаўніца маладзечанскага эстраднага класа — Насця Жук. Гэтая адзінаццацігадовая дзяўчынка, якая пасябравала з "Месяцавым зайчыкам" (словы Наталлі Танюкевіч), атрымала дастойную ацэнку членаў журы. Насця спявала шчыра, пяшчотна і пранікнёна. Яе выкананне вылучалася сярод іншых асаблівай чысцінёй і адкрытасцю, што кантраставала са шматлікімі "дарослымі" песнямі і сцэнічнымі паводзінамі некаторых канкурсантаў. Насця заваявала сімпатыю гледачоў і атрымала запрашэнне на VIII Міжнародны камерцыйны фестываль "Зорачка" ў Адэсу. Асобна дзяўчынку адзначыў кіраўнік праграмы "Шанцуе людзям!" ("Русское радио"), які высока ацаніў артыстызм, прафесійную ўпэўненасць і майстэрства дзяўчынкі, заўважыўшы: "Запомніце гэтае імя, яе чакае вялікая будучыня!"

Дарэчы, пад канец першага конкурснага дня на адрас нашых удзельнікаў члены журы гаварылі так: "Беларусы пакарылі нас сваім майстэрствам. I сённяшні дзень па праве трэба лічыць днём Беларусі! Дзякуй, беларусы!"

Другі дзень конкурсу яшчэ больш парадаваў нашых землякоў. Галоўны саліст маладзечанскай эстраднай студыі Саша Салаўёў атрымаў Гран-пры конкурсу, а ў падарунак — тэлевізар "Samsung". Хлопчык уразіў усіх не толькі цудоўным голасам, але і сціпласцю, інтэлігентнасцю, далікатнасцю, трапіўшы, такім чынам, у агульную эмацыянальную сферу Санкт-Пецярбурга. Песню "Птушка" (словы Н. Танюкевіч), з якой выступаў Саша, журы ацаніла вельмі высока — 97 балаў, і пасля паводле гэтага "эталона" разглядала іншыя нумары.

Увогуле, прадстаўнікі маладзечанскага эстраднага класа паказалі сябе надзвычай удала. Вялікая павага і давер юных артыстаў да сваіх кіраўнікоў Алены Віктараўны Атрашкевіч ды Пятра Пятровіча Туронка трымаецца на чуласці, прафесіяналізме і шчырасці выкладчыкаў. Дарэчы, амаль усе іх выканаўцы бралі ўдзел у фестывалях "Спяваем з аркестрам!", рэпетыцыі і выступленні з Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга надзвычай карысныя для маладых выканаўцаў. А вось на фестывалі "Дзень нараджэння" ўдзельнікі не мелі магчымасці спяваць з вялікім аркестравым калектывам...

Пасля такога конкурсу можна рабіць пэўныя высновы наконт далейшага развіцця сферы дзіцячай эстраднай творчасці. Зразумела, што таленавітых дзяцей у Беларусі хапае, аднак іх здольнасці вымагаюць не толькі прызнання, але і ўвагі, падтрымкі як у творчым плане, з боку выкладчыкаў-прафесіяналаў, так і ў матэрыяльным. Застаючыся на месцы, не маючы магчымасці выязджаць на разнастайныя эстрадныя спаборніцтвы, нельга дамагчыся ўсебаковага развіцця дзіцячай творчасці. А значыць, нельга ўвогуле чакаць і канкурэнтаздольнасці беларускай эстрады за межамі рэспублікі. Таму маладзечанскі эстрадны клас выказвае шчырую падзяку ўсім, хто дапамог у падрыхтоўцы да фестывалю "Дзень нараджэння", хто матэрыяльна падтрымаў у час паездкі. Словам, і тут — "Дзякуй беларусам!"

**Вольга ВАЛКОВІЧ,**
**навучэнка музычнага вучылішча**
*г. Маладзечна*



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**Сёння сёмая "Рок-каранацыя" назаве лепшых у беларускай рок-музыцы за 2000 год. Напярэдадні цырымоніі робіцца багата разнастайных прагнозаў. "ЛіМ" вырашыў прапанаваць сваю версію. Так, нам здаецца, што леташнім лепшым гуртом прызнаюць Н.Р.М., лепшым праектам — супольны альбом нашых рок-выканаўцаў "Я нарадзіўся тут", лепшай песняй — "Тры чарапахі". Між іншым, на сёлетняй "Рок-каранацыі" з'явіцца новая намінацыя ў якасці даніны мілeніуму — "Лепшы гурт стагоддзя". Прэтэндэнтаў на гэты прыз, на нашую думку, двое. У першую чаргу гэта славутыя "Песняры", а таксам Н.Р.М. (залічваючы ў адно да іх "Мрою").**

**РАМПА**

**Тэатр балета**

*26 студзеня* — "Стварэнне свету"
*28 студзеня* — "Чыпаліна"

**Тэатр оперы**

*27 студзеня* — "Лючыя дэ Ламермур"
*28 студзеня* — "Набука"
*30 студзеня* — "Яўген Анегін"

**Купалаўскі тэатр**

*26 студзеня* — "Страсці па Аўдзею"
*27 студзеня* — "Піраміда Хеопса"
*28 студзеня* — "Інтымны тэатр ЕўсцігнеяМіровіча"
*29 і 31 студзеня* — "Ідылія".

**Малая сцэна Купалаўскага**

*27 студзеня* — "Каварства і каханне"
*29 студзеня* — "Восеньская саната"

**Тэатр імя Горкага**

*27 і 28 студзеня* — "Гамлет"
*30 студзеня* — "У прыцемках"
*31 студзеня* — "Тата, тата, бедны тата!.."

**Прадзюсерскі цэнтр "Альфа-радыё"**

*26 і 27 студзеня* — "Стрыптыз"
*21 і 28 студзеня* — "Чаравікі на тоўстай падэшве"

**Тэатр беларускай драматургіі**

*26 студзеня* — "Макбет"
*28, 30 і 31 студзеня* — "Містэр Розыгрыш".

**ВЫСТАВЫ**

**Галерэя "Мастацтва"**

*З 26 студзеня* працуе персанальная выстава Уладзіміра Зінкевіча, прымеркаваная да яго 50-годдзя.

**Галерэя "LaSandr"**

*З 19 студзеня* адкрылася выстава графічных работ і жывапісу Уладзіміра Сальмашонка.

**Нацыянальны мастацкі музей**

*З 17 студзеня* тут праходзіць выстава "Помнікі хрысціянства ў жывапісе і скульптуры 15—18 стагоддзяў".

**Музей гісторыі беларускай літаратуры**

Тут ладзіцца выстава "Чароўны свет галаграмаў".



*Мы з братам.* *Фота У. КАГУЦЕНКІ*



ЭПІГРАМЫ

Анатоль КЛЫШКА

## Замест дуэлі

Івану МАРТЫНАВУ, аўтару пагромных выпадаў супраць беларускіх чытанак

***Гляджу на подіс я:***
***Іван Мартынаў...***
***Згадалася міжволі***
***і дуэль,***
***і Лермантаў-бядак.***
***Пытанне ўраз узнікла без прычыны:***
***хто наш таму:***
***нашчадак?***
***Аднаіменец?***
***Ці сваяк?***

## Зладзеі з густам

***Ты чуў?***
***Мастачку абакралі...***
***Але зладзеі мелі густ:***
***бо толькі рамы ўсе пабралі,***
***карціны ж кінулі пад куст.***


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 25.1.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 468

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12